*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
13
САКАВІКА
1992 г.
№ 11 (3629)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





# ПАД ЗНАКАМ СОНЦА

### Фотаапавяданне пра Давыд-Гарадок

Не гляджу — чытаю, бо для мяне гэта не проста здымкі, гэта менавіта апавяданне з імгненным зместам і самастойным аўтарскім пісьмом.

Фотаапавяданне пра мой Давыд-Гарадок...

Сонца, узыходзячы паміж Белямічамі і Высокім, заходзіць паміж Лісовічамі і Турамі-Хорскам. Вёскі ўтвараюць сонечны круг, у цэнтры якога — Давыд-Гарадок.

Уладзімір Караткевіч некалі захоплена прамовіў: хаты ў Давыд-Гарадку пад знакам сонца! Вядома ж, паэт-рамантык не мог не заўважыць прамяністы рамонак на франтонах шмат якіх дамоў.

Сваё сонца ў Давыд-Гарадку знайшоў і Анатоль Кляшчук... Калядная звязда ў руках старога калядоўшчыка — апавяданне пра святое сонца, напамін пра старажытнага Ярылу, Хорса. У асяродку звязды змешчана іконка —евангельскі сюжэт пра Хрыстова нараджэнне. Калядная звязда прымірыла паганства з хрысціянствам, таму для старога калядоўшчыка паганскія багі і Хрыстос, пэўна ж, — непадзельная радасць, непадзельная пакута. Паглядзіце на рукі і твар гэтага чалавека — яны захоўваюць пластычную раўнавагу паміж сонечным і душэўным святлом...

Анатоль Кляшчук верыць убачанаму, умее здабыць з убачанага цікавае. Не прымаючы ўсялякія знадворныя эфекты, што звычайна найбольш выяўляюцца ў знарокавай пабудове кадра, ён умее надаць сваёй выяўленчай сціпласці неаспрэчнае значэнне стылёвага прыёму.

Адкрыць характэрнае ў краявідзе, запамінальнае ў аблічны выпадковага прахожага, найлепшае ў чалавечай душы, дамінантнае ў этнаграфічным ландшафце — штодзённы клопат мастака, асабліва калі гэты мастак — майстар.

(Працяг на стар. 14).

# Кола Дзён

**5 САКАВІКА**

У дзень 39-й гадавіны смерці Сталіна ўшанаваць памяць любімага правадыра да помніка ля крамлёўскай сцяны прыйшлі ўсяго некалькі дзесяткаў чалавек. Але ўражанне такое, што менавіта ў гэты дзень зноў ажылі злавесныя цені мінулага...

На сходзе дэпутатаў усіх узроўняў, пачынаючы з раённага, што праходзіў у Віцебску, была падтрымана ідэя правядзення з'езда народных дэпутатаў СССР 17 сакавіка — у дзень правядзення леташняга рэферэндуму аб захаванні Саюза. А калі не ўдасца склікаць «народнае веча» ў Маскве — правесці з'езд у Віцебску. Ці здзейсніцца прапанове аднаго з удзельнікаў сходу ўшанаваць памяць «правадыра ўсіх народаў» Іосіфа Вісарыёнавіча?..

Тым часам, прэм'ер-міністр Беларусі В. Кебіч сустракаўся ў Віцебску з вайскоўцамі...

**6 САКАВІКА**

Па вяртанні ў Мінск Старшыня Саўміна запрасіў да сябе «на кубачак кавы» актывістак жаночага руху рэспублікі. Прэм'ер паведаміў, што ўрад заклапочаны становішчам сем'яў ва ўмовах лібералізацыі цэн і будучага беспрацоўя. На развітанне ён павіншаваў жанчын з іх святам і падараваў ім кветкі.

Па старой завядзёнцы прэса напярэдадні свята старалася даваць як мага менш «негатыўнай» інфармацыі — у прыватнасці, з Нагорнага Карабаху. А падзеі там становяцца ўсё больш драматычнымі. Пад заслонай дэсантнікаў з НКР быў выведзены 366-ы полк аб'яднаных Узброеных Сіл СНД, А. Муталібаў, які ўвесь час гэтага дамагаўся, быў вымушаны падаць у адстаўку з паста прэзідэнта пад націскам Народнага фронту Азербайджана. Фронт абвінаваціў Муталібава ў мяккацеласці ў адносінах да армянскага боку.

**7 САКАВІКА**

Увагу многіх інфармацыйных агенцтваў прыцягнулі вынікі візіту на Беларусь вялікай дэлегацыі з Францыі на чале з Дзяржаўным сакратаром па абароне Ж. Мелікам. Мелік, які знаёміўся са станам канверсіі абароннай прамысловасці на Украіне і ў нашай рэспубліцы, выказаў меркаванне, што сітуацыя ў гэтай галіне тут жахлівая. Тым не менш, Францыя гатова дапамагчы ў вырашэнні праблем канверсіі — у прыватнасці, спецыялістамі.

**8 САКАВІКА**

Святочны дзень ініцыятыўная група БНФ па правядзенні рэферэндуму ў рэспубліцы аб будучым Вярхоўнага Савета вырашыла скарыстаць з максімальнай карысцю. У Мінску актывісты збіралі подпісы ў падтрымку рэферэндуму ў самым людным месцы — у раёне Камароўскага рынку.

А на мітынгу «Працоўнай Масквы» з выпадку Міжнароднага жаночага дня былі выбраны дэлегаткі на з'езд народных дэпутатаў СССР. Сярод іх, напрыклад, эканаміст Т. Карагіна і народны дэпутат Расіі С. Гарачава.

**9 САКАВІКА**

У Мінску адбыўся аб'яднаны пленум Саюза аграрнікаў і Савета калгасаў Беларусі. Яго ўдзельнікі, у прыватнасці, рэзка крытыкавалі Старшыню Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча, які прысутнічаў на пленуме, за яго «антыкалгасныя» выказванні.

**10 САКАВІКА**

У штаб-кватэры НАТА ў Бруселі прайшла цырымонія прыняцця ў Савет паўночнаатлантычнага супрацоўніцтва былых савецкіх рэспублік. Краіны СНД прадстаўлялі міністры замежных спраў або іх намеснікі (як, напрыклад, Беларусь). А некаторыя дзяржавы даручылі прадстаўляць свае інтарэсы Расіі. Скажам, Кыргызстан прадстаўляў... расійскі пасол у Люксембургу Ч. Айтматаў.

**11 САКАВІКА**

Пачалася чарговая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Яна абяцае быць як ніколі раней змястоўнай. Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, незвычайна вялікі кворум пры адкрыцці сесіі. Найбольшыя спрэчкі, натуральна, выклікае пытанне аб рэарганізацыі Вярхоўнага Савета, з ініцыятывай якой выступае старшыня парламента.

На самым пачатку сесіі заявіла аб сваім стварэнні новае дэпутацкае аб'яднанне «Беларусь».

У парадак дня сесіі ўнесена больш як 50 пытанняў. З дакладам па эканамічных пытаннях перад дэпутатамі выступіў Старшыня СМ Беларусі В. Кебіч.

А тым часам на пляцы Незалежнасці мітынгавалі настаўнікі школ Мінска і іншых мясцін. Галоўнае патрабаванне — павышэнне зарплаты.

# Адзначым дзень 25 Сакавіка

## Да грамадзян Рэспублікі Беларусь

25 сакавіка 1918 года Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла нашу краіну незалежнаю, свабоднаю дзяржаваю.

Дзеячы БНР не ставілі сваёю мэтаю аддзяленне ад Расіі. Самае большае, чаго яны хацелі, — гэта аўтаномія Беларусі ў складзе Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Але пачаткі дэмакратыі ў Расіі здушылі бальшавікі. Яны падпісалі ў Берасці мірны дагавор з Нямеччынай. Наша краіна была падзелена, большая частка яе стала залогам пад кантрыбуцыю, якую бальшавікі абавязаліся выплаціць Германіі. У гэтых умовах не заставалася нічога іншага, як абвясціць незалежнасць Беларусі, заявіць пра неад'емнае права народа быць гаспадаром сваёй зямлі і свайго лёсу.

Акт 25 сакавіка паклаў пачатак барацьбы нашага народа за сваю дзяржаву, барацьбы працяглай, ахвярнай. Волю нашага народа да свабоды не маглі здушыць ні бальшавіцкія, ні польскія акупанты. Заўсёды на працягу больш чым 70 гадоў знаходзіліся людзі, якія мелі мужнасць змагацца за Беларусь, адстойваць правы нашага народа, яго мову і культуру. Успомнім жаўнераў і партызанаў 1918—1920 гг., успомнім слуцкіх паўстанцаў, якія баранілі Беларусь пасля таго, як бальшавікі змовіліся з Пілсудскім аб падзеле нашай краіны, успомнім нашых партызанаў і падпольшчыкаў у Савецкай і Заходняй Беларусі, успомнім патрыётаў, якіх кідалі ў турмы і высылалі ўлады Польшчы, якіх расстрэльвалі бальшавікі і гітлераўцы, якіх пакідалі без працы і заносілі ў чорныя спісы.

Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце нашай краіны, абвяшчэнне незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе — лагічнае завяршэнне гэтай барацьбы.

Заснавальнікі Беларускай Народнай Рэспублікі хацелі пабудаваць дэмакратычную і прававую дзяржаву, у якой былі б забяспечаны правы і свабоды чалавека, у якой усім народам жылося б добра.

Памятайма пра гэта цяпер, калі Беларусь стала паўнапраўным суб'ектам еўрапейскай і сусветнай супольнасці. Працавіты і таленавіты народ Беларусі можа і павінен жыць ва ўмовах дэмакратыі, матэрыяльнага дастатку.

Грамадзяне!

Віншуем вас са слаўнаю датаю 25 Сакавіка!

Заклікаем усіх, хто можа, вывесіць у гэты дзень бел-чырвона-белыя сцягі на дамах, балконах, лоджыях, на будынках прадпрыемстваў і ўстаноў.

Няхай наш сцяг пасведчыць: мы памятаем пра Акт 25 сакавіка 1918 года, мы помнім аб змагарах за незалежнасць і дэмакратыю.

Жыве Беларусь!

**Выканком Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.**

г. Менск. 10 сакавіка 1992 г.

НАШ КАМЕНТАРЫЙ

# РАЗАМ І ЎПОРАВЕНЬ

**У мінулым нумары «ЛіМ» паведамляў аб знаходжанні ў Беларусі прадстаўнікоў беларускага замежжа а. Мікалая, сп. М. Ганько і В. Русака. Беларусы замежжа заўсёды выклікалі цікавасць на Бацькаўшчыне, не былі яны пазбаўлены ўвагі і гэтым разам. Прыезд мітрапаліта Мікалая (Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на эміграцыі), апроч усяго, узмацніў цікавасць сродкаў масавай інфармацыі і паспольства да рэлігійнага жыцця, праблем Царквы.**

Нягледзячы на «неадназначнае» ўспрыманне БАПЦ і духоўнымі коламі ў Беларусі і ў Маскве, і Праваслаўнымі Цэрквамі ў свеце, не зважаючы на далікатныя, заблытаныя моманты ў гісторыі БАПЦ, беларускі мітрапаліт з Канады быў прыняты тутэйшым праваслаўным клерам добразычліва і цёпла. На адной сустрэчы з грамадой а. Мікалай нават абмовіўся, што не чакаў такога прыёму. Факт застаецца фактам: Мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх Беларусі Філарэт прыняў мітрапаліта Мікалая як паўнамоцнага рэлігійнага дзеяча замежжа, касуючы тым самым недавер і нядобразычлівасць ва ўзаемадачыненнях.

Усталяванне паразумення — галоўны вынік паездкі. Аб гэтым госці казалі на сустрэчы з інтэлігенцыяй у Доме літаратара і на прэс-канферэнцыі ў Мінгарсавеце. Такую ж ацэнку двухдзённым стасункам даў і прадстаўнік Экзархата, які спадарожнічаў гасцям, пр. Георгій (Латушка), падкрэсліўшы патрэбу сталага хрысціянскага сумоўя між БПЦ на Бацькаўшчыне і БАПЦ на эміграцыі. Пр. Георгій мяркуе, што такое сумоўе паспрыяе духоўнаму яднанню беларусаў (вернікаў) свету, якія за мяжой падпадаюць пад чатыры праваслаўныя юрысдыкцыі — Замежнай Рускай ПЦ (Карлаварскай), Канстанцінопальскага Патрыярха, мітрапаліта Мікалая і мітрапаліта Ізяслава — апошняя плынь нешматлікая і часам пазначаецца як «раскольнікі».



Такім чынам, рэлігійнае сумоўе, па ацэнках розных дзеячаў, у тым ліку і рэлігійных, выходзіць за межы ўласнарэлігійнага жыцця, можа набыць агульнанацыянальнае значэнне. Дарэчы, па словах сп. М. Ганько, старшыні Згуртавання беларусаў Канады, «без Царквы эміграцыі не было б». А ці будзе, ці захаваецца без Царквы сам народ?..

Адказваючы на пытанне карэспандэнта «ЛіМа» аб магчымасці канфесійнага паяднання дзвюх цэркваў, уладыка Мікалай адказаў, што «ані дагматычных, ані кананічных разыходжанняў у нас няма: умовай будзе толькі тое, каб Царква на Беларусі стала на аўтакефальны лад. Царква, пакуль яна замежная (у сэнсе — падпарадкаваная Маскоўскаму Патрыярху.—**Ю. З.**), — не мае свайго поўнага голасу».

Выглядае, што спеюць змены і ва ўлонні Царквы.

**Юрась ЗАЛОСКА.**

# Слова да народа Беларусі

**Шаноўныя браты і сёстры, спадары і спадарыні!**

**Дом Беларускага народа па Божае волі абудзіўся. Адраджаецца нашая спрадвечная мова, культура, аднаўляецца святая Праваслаўная вера. Праваслаўе мае на нашае зямлі моцны і непахісны фундамент. Сёлета мы будзем адзначаць 1000 гадоў Полацкай епархіі. Утварэнне Полацкага княства — першай Беларускай дзяржавы непарыўна знітавана з прызначэннем епіскапа на Беларусі. Далейшае ўладкаванне дзяржаўнага дома адбывалася на моцным падмурку Праваслаўнае веры...**

**Праз вякі і ліхалецці беларускі народ пры Божай дапамозе пранёс сваю веру, якая кшталцавала лепшыя рысы беларускае душы. Наша Царква — гэта парадзіцелька, што пакінула нам неўміручых светачаў, якія дасюль ззяюць нашай зямлі святлом Божае праўды: святых Ефрасінню Полацкую і Кірылу Тураўскага, Клімента Смаляціча і трох Віленскіх пакутнікаў, Аўрамія Смаленскага і дабравернага князя Расціслава, іншых святых. Гэтыя імёны — наш гонар, нашае сумленне, боль і абавязак. Ці вартыя мы іхняга наказу, ці захавалі ў сэрцах сваіх іхнія запаветы, ці любім ды шануем зямлю родную і душу зямлі гэтай — мову неўміручую? Мы разумеем, што гэтыя пытанні невырашальныя ў адначассе. Але вырашаючы іх, мы турбуемся, каб дух раскольніцтва не пранік у Царкву, бо не ўсе з нас яшчэ гатовыя ісці пакутным шляхам сваіх продкаў, шляхам сваёй Зямлі і Веры.**

**Праваслаўныя Брацтвы, якія пачынаюць узнікаць у абарону і адраджэнне нашае святой веры, мусяць найперш ісці гэтым шляхам: шляхам асабістай веры, малітвы і дзейнасці. Верыцца, што шчырая малітва да Госпада Бога, падмацаваная самаахвярнай працаю, прынясе той плён, якога мы ўсе гэтак прагнем. І загучыць у нашых святынях родная мова, і зазззяе святло Божае праўды над домам нашым, і настане ўслед духоваму абуджэнню сапраўды воля ды шчасце да нашай зямлі.**

**Таму мы звяртаемся да вас, любасныя суайчыннікі, пачаць ствараць сваё вольнае і незалежнае жыццё на Беларусі, грунтуючыся на трывалых спаконвечных каштоўнасцях: Царкве, Веры і Бацькаўшчыне.**

Мітрапаліт **МІКАЛАЙ**, першаіерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы; Протаіерэй а. Георгій **ЛАТУШКА**, настаяцель Св.-Петрапаўлаўскага сабора, галоўны апякун Праваслаўнага Брацтва трох Віленскіх пакутнікаў.

Менск, 9 сакавіка 1992 г.

# «Бацькаўшчына» набывае сялібу

20 лістапада 1991 г. у «ЛіМе» быў надрукаваны зварот рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» да Вярхоўнага Савета Беларусі, у якім выказвалася просьба выдзеліць памяшканне. Вырашэннем пытання займалася Камісія па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны. У лютым камісія атрымала паперу за подпісам намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Дзёмчука. У ёй паведамляецца, што «распараджэннем СМ ад 31.01.92 г. № 81р даручана Мінскаму гарвыканкому прадаставіць у І квартале 1992 г. службовыя памяшканні Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына».

# Хто можа дапамагчы—адгукніцеся!

Другі месяц медыкі Мінска змагаюцца за жыццё і здароўе выдатнага артыста, спевака, дзеяча адраджэння беларускай музычнай культуры Віктара Скорабагатава. На жаль, спецыялісты самай высокай кваліфікацыі маюць абмежаваныя магчымасці для таго, каб палепшыць ягоны стан: не хапае належных медыкаментаў. У В. Скорабагатава найцяжэйшае гастраэнтэралагічнае захворванне, і лячэнне ўскладняецца індывідуальнай адмоўнай успрымальнасцю прэпаратаў, якія прызначаюцца пры гэтым дыягназе.

Ёсць адзіны сродак, здатны выратаваць В. Скорабагатава: **месалазін** (Mesalazine). Але здабыць гэтае дарагое лякарства можна толькі ў краінах Заходняй Еўропы і Амерыкі, ды і там яно паступае не ва ўсе, а ў самыя прэстыжныя аптэкі.

Мы вымушаны звярнуцца па дапамогу да ўсіх, у каго ёсць хоць нейкая магчымасць падзейнічаць у набыцці дэфіцытнага прэпарату для выратавання чалавека, жыццё якога, бясспрэчна, дорага сёння не толькі ягоным блізкім. Лякарства патрабуецца многа, каб з добрым вынікам правесці курс тэрапіі, забяспечыць рэмісію, засцерагчы ад актыўных рэцыдываў, бо хвароба развіваецца цыклічна. Апроч таго, патрабуюцца гатовыя спажыўныя сумесі для харчавання, шэраг спецыфічных лекаў.

Ад імя нашай асацыяцыі па некалькіх замежных адрасах ужо накіраваны пісьмы, у якіх на англійскай мове сфармулявана просьба: прыслаць медыкаменты і памагчы В. Скорабагатаву прадоўжыць стацыянарнае лячэнне ў Заходняй Германіі, дзе развіццё гастраэнтэралогіі дасягнула ўзорнага ўзроўню.

Спадзяёмся, што і праз чытачоў «ЛіМа» наша просьба дойдзе да тых, хто зможа дапамагчы.

**Юрый МАРАХОЎСКІ,**
**кіраўнік рэспубліканскага гастраэнтэралагічнага цэнтра Беларусі, прэзідэнт Беларускай гастраэнтэралагічнай асацыяцыі імя Ф. Скарыны, доктар медыцынскіх навук.**

**Для аператыўнай сувязі і даведак карыстайцеся факсам: 312721 ДЛЯ МАРАХОЎСКАГА.**

# Настаўнікі без вучняў?

## Бібліятэка «Маладосці»: плюсы і мінусы

Так, крыху недаўменна вызначыў сітуацыю, якая назіралася на сумесным пасяджэнні секцый паэзіі, прозы і камісіі па рабоце з маладымі Саюза пісьменнікаў Беларусі, што праходзіла ў мінулы чацвер у канферэнц-зале Дома літаратара, старшыня СП Беларусі В. Зуёнак. Спадар Зуёнак так сцвярджаць меў усе падставы. На жаль, на «круглы стол», прысвечаны абмеркаванню «Бібліятэкі часопіса «Маладосць», прыйшло малады аўтараў куды менш, чым таго хацелася б. Не будзем высвятляць, у чым тут прычына, але едно відавочна: гаворка ўсё ж адбылася і яна мела прынцыповы, аб'ектыўны характар.

У абмеркаванні кніжак, якія выйшлі ў згаданай «Бібліятэцы...», прынялі ўдзел намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Пісьмянкоў (ён вёў пасяджэнне), галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Генрых Далідовіч, Люба Тарасюк (аглядала паэтычныя набыткі), Пятрусь Макаль, Павел Місько, Алесь Бадак, Алесь Марціновіч, Казімір Камейша, Алесь Камароўскі, Ігар Жук (аглядаў прозу), Алесь Шлег, Пятро Васючэнка, Васіль Зуёнак, Янка Сіпакоў, Алесь Емяльянаў...

А пачалася гаворка з трывожнай ноты. Саюз моладзі Беларусі нечакана адцураўся ад большасці выданняў, заснавальнікам якіх, як пераемнік камсамола Беларусі, з'яўляўся. Дамоклаў меч — гэта паўтаралася ў многіх выступленнях — занесены і над «Маладосцю», і над яе «Бібліятэкай...». Выступоўцы былі аднадушны ў адным: неабходна зрабіць усё, каб выходзіў і часопіс і «Бібліятэка...» Сёй-той, праўда, гатоў быў пайсці і на кампраміс: маўляў, калі не атрымаецца дванаццаці кніжак у год, дык хоць бы шэсць. Рознагалоссі чуліся і наконт мэтазгоднасці выпуску ў «Бібліятэцы...» калектыўных зборнікаў. Былі і прыхільнікі такога прадстаўлення маладых, былі і праціўнікі, якія сцвярджалі, што кніга павінна заставацца кнігай, а не ператварацца ў так званую «брацкую магілу».

Узнікла спрэчка і наконт таго, што друкаваць у «Бібліятэцы...» Аўтараў першых кніжак? Ці, як гэта практыкуецца і цяпер, даваць месца і аўтарам адной-дзвюх кніжак? Прадстаўляць і старэйшых па ўзросту, калі яны кнігай толькі дэбютуюць? Сышліся, што неабходна друкаваць і першых, і другіх, і трэціх, аддаючы прыярытэт першым.

Пачынаючы з сярэдзіны 1988 года, калі пачалося выданне «Бібліятэкі...», убачылі свет 43 зборнікі. Пра ўсе з іх пагаварыць удзельнікі «стала» не мелі магчымасці. Запынялі ўвагу на найбольш цікавых, гаварылі ўвогуле пра адметнасці сучаснай маладой літаратуры. Пераважная большасць аўтараў — дзеці горада. Адсюль і кола тэм, раней літаратурай незаўважаных. Адсюль, на жаль, і слабае веданне асобных аўтарамі мовы. Назіраецца адыход ад традыцыяналізму, шмат пошукаў, не заўсёды апраўданага эксперыментатарства. У пераважнай большасці так ці інакш гучыць тэма нацыянальнага Адраджэння.

Хрысціна Лялько падрабязна спынілася на аналізе кніжак прозы Г. Багдановай «Папяровыя замкі» (выйшла ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць») і «Чалавек без адраса» (выпушчана выдавецтвам «Мастацкая літаратура»). Пра яе творчасць гаварылі таксама Г. Далідовіч і М. Кусянкоў. Кніжка паэзіі Ю. Пацюпы «Ноч» трапіла ў поле зроку Л. Тарасюк, К. Камейшы, А. Пісьмянкова. Г. Далідовіч высока ацаніў кнігу прозы Анатоля Жука «Помста матылькоў».

Удзельнікі пасяджэння рэкамендавалі прыёмнай камісіі абмеркаваць творчасць Г. Багдановай, Ан. Жука, Ю. Пацюпы з прыцэлам прыняцця іх у творчы саюз.

**НАШ КАР.**

РЭПЛІКА

# ВЕДАЙ НАШЫХ!

У аўторак многія, хто праходзіў пасляабедзенным часам ля будынка Дома кнігі ў Мінску, спыняліся, назіраючы, як увішныя хлопцы вешалі новыя шыльды. Змена іх была падказана тым, што, як вядома, у рэспубліцы перастаў існаваць Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, а з'явілася новае міністэрства. Новая шыльда на згаданым будынку і засведчыла гэтую змену: «Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь». Тут жа, праўда, крыху меншага памеру, з'явіліся і іншыя шыльды, якія нагадваюць аб знаходжанні ў Доме кнігі выдавецтваў: «Беларусь», «Мастацкая літаратура», «Юнацтва»... А яшчэ — выдавецтва «Университетское». Вось так! Усе называюцца пабеларуску, а адно па-расейску.

Сапраўды ўжо: ведай нашых, мы — «университетские»!

**Лімавец.**



Трэцяга сакавіка на сцэне мінскага Дома літаратара адбылася вечарына папулярнага ў рэспубліцы кампазітара Зміцера Яўтуховіча. Напісаныя ім песні прагучалі ў выкананні як вядомых спевакоў, так і самога аўтара. У вечарыне бралі ўдзел паэты Віктар Шніп, Алесь Бадак, Лявон Пранчак, на словы якіх кампазітарам напісаны найбольш вядомыя песні.

НА ЗДЫМКУ: Зміцер Яўтуховіч выступае разам з дзіцячым хорам «Чабарок».

**У. ПАНАДА.**

## З Польшчы—па-беларуску

Пачала работу створаная ў Варшаве беларуская рэдакцыя польскага радыё. Пакуль у ёй працуюць дзевяць журналістаў і тэхнічных работнікаў — пераважна беларусы.

Агляд падзей у свеце, а таксама інфармацыя аб знамянальных, палітычным і культурным жыцці Польшчы штодзённа гучаць па-беларуску на хвалях 41.99, 49.22, 200 метраў ад гадзіны 7.30 да 7.55 і на хвалях 41.27, 49.22 ды 200 метраў ад 20.00 да 20.25 паводле мясцовага часу.

**Адрас беларускай рэдакцыі польскага радыё: 00-950 Варшава, P. O. Box 46, Польшча.**

# НА РОЗНЫХ ПАВЕРХАХ

**Былы партыйны будынак перадалі беларускаму ліцэю. Але ў доме аказалася шмат «кватарантаў».**

Можна ўявіць радасць супрацоўнікаў і навучэнцаў Беларускага гуманітарнага культурна-адукацыйнага цэнтра, калі Вярхоўны Савет Беларусі напрыканцы мінулага года прыняў гістарычную пастанову «Аб маёмасці КПБ-КПСС». Вялікая частка гэтай маёмасці згодна з пастановай перадавалася на патрэбы народнай адукацыі.

Беларускі гуманітарны цэнтр за некалькі год свайго існавання ў пошуках пастаяннага прытулку для ліцэя вымушаны быў змяніць некалькі адрасоў. І вось цяпер, на самым высокім узроўні, было ўзгоднена рашэнне аб перадачы цэнтру аднаго з будынкаў Інстытута паліталогіі (раней — ВПШ) у Мінску, па вуліцы Кірава, 21.

Але йшоў час, канчатковае рашэнне зацягвалася... Нарэшце, у цэнтры стала вядома, што не наогул можа быць «перайграна». І тады супрацоўнікі БГКАЦ і ліцэісты рашыліся на экстраардынарны крок — яны ўзялі «прыступам» будынак на Кірава. У той жа дзень, 15 студзеня, з'явілася распараджэнне Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 30 за подпісам В. Кебіча, якое ўзаконіла знаходжанне тут гуманітарнага культурна-адукацыйнага цэнтра на правах гаспадара.

Аднак і на гэты раз радасць ліцэістаў была дачаснай. Дом на Кірава, як выявілася, быў нашпігаваны «кватарантамі» — рознымі арганізацыямі, якія арандавалі памяшканні ў Інстытута паліталогіі. Напрыклад, кааператыў «Каруна» заключыў з ім дагавор 19 жніўня (!) мінулага года тэрмінам на пяць год... Цяпер, праўда, частка арганізацый з'ехала, частка рыхтуецца з'ехаць. З некаторымі суседзямі БГКАЦ дзяліць плошчу абавязана — напрыклад, з аддзяленнем павышэння кваліфікацыі Беларускай акадэміі кіравання (аб гэтым таксама ёсць рашэнне Саўміна), якое займае палову трэцяга паверха.

Але самым непрыступным для БГКАЦ і Міністэрства народнай адукацыі Беларусі застаецца сёння чацвёрты паверх. Яго займае «Беларускі навукова-тэхнічны цэнтр «Белрад». Інстытут радыяцыйнай бяспекі». (Такая поўная назва гэтай установы).

Тэрмін дагавора аб арэндзе ў «Белрада» скончыўся яшчэ ў студзені. Але ніводнага сантыметра плошчы інстытут не вызваліў і нават не забраў свайго начыння з падвала, які належыць цяпер гуманітарнаму цэнтру.

Здаецца, было б натуральна, калі б у гэтай сітуацыі дырэктар Інстытута радыяцыйнай бяспекі В. Несцярэнка (дарэчы, некалі ён узначальваў Інстытут ядзернай энергетыкі АН БССР) сустрэўся з дырэктарам гуманітарнага цэнтра У. Коласам і абмеркаваў з ім сітуацыю. Але Несцярэнка вырашыў пайсці іншым шляхам — можна сказаць, даўно вядомым і вывучаным многімі. Ён звярнуўся да кіраўніцтва Дзяржкамчарнобыля і нават непасрэдна да прэм'ер-міністра з мэтай «паставіць на месца» дырэкцыю БГКАЦ. Пры гэтым, зразумела, падкрэслівалася важнасць задач, якімі займаецца інстытут.

У сваю чаргу дырэкцыя БГКАЦ вымушана была звярнуцца па дапамогу да свайго начальства — у Міністэрства народнай адукацыі Беларусі.

Паміж «Белрадам» і БГКАЦ пачалася службовая перапіска, у якую былі ўцягнуты розныя інстанцыі, у прыватнасці, Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне Саўміна. Пераказваць змест перапіскі, відаць, няма патрэбы, паколькі сюжэты падобных «службовых раманаў» неаднойчы апісаны ў літаратуры.

А вынік на сёння такі. Згодна з рэзалюцыяй В. Кебіча Мінадукацыі даручана дазволіць Інстытуту радыяцыйнай бяспекі часова займаць арандаванае ім памяшканне. У сувязі з гэтым намеснік міністра народнай адукацыі Беларусі П. Кішкурна днямі сустрэўся ў Беларускім гуманітарным цэнтры з яго кіраўніцтвам і кіраўніцтвам «Белрада». Але канкрэтнага рашэння прынята не было, паколькі дырэктар інстытута, нягледзячы на папярэднюю дамоўленасць, не прыйшоў на сустрэчу. Адзінае, што змог зрабіць намміністра — гэта параіць кіраўніцтву абедзвюх устаноў заключыць паміж сабой узаемапрымальны дагавор. Аднак упэўненасці, што такі дагавор будзе хутка падпісаны, на жаль, няма. Кіраўніцтва інстытута, здаецца, пакуль не намерана ісці насустрач пажаданням суседзяў «знізу».

А можа, БГКАЦ патрабуе для сябе нечага празмернага, нейкіх раскошных умоў? Мяркуйце самі.

На дзённым аддзяленні сёння вучыцца каля 130 чалавек. Калі ўлічыць вячэрняе і нядзельнае аддзяленні — 400. Тут выкладаецца агульнаадукацыйны цыкл, гісторыя і геаграфія Беларусі, літаратура народаў свету (па ўласнай праграме), гісторыя культуры, паліталогія, правазнаўства, этнаграфія, а таксама замежныя мовы. (Дарэчы, нядаўна ў ліцэі пабывала Генеральны консул Рэспублікі Польшча Э. Смулэк і перадала яму ў дарунак ладную колькасць дзіцячых кніжак). Весці навучанне мовам у падгрупах (а гэта неабходна) сёння немагчыма, бо не хапае памяшканняў. Да прыкладу, выдавецтва, канцылярыя і бухгалтэрыя цэнтра знаходзяцца ў адным пакоі.

Вось афіцыйнае заключэнне Галоўнага санітарнага лекара Мінска: «Умовы размяшчэння ліцэя... не адпавядаюць санітарна-гігіенічным нормам, бо большасць самых светлых і вялікіх па плошчы пакояў занята рознымі арганізацыямі. Навучанне вучняў у гэтых умовах недапушчальна... У далейшым будынак мае патрэбу ў капітальным рамонце».

Канечне, сама гэта сітуацыя, калі Інстытут радыяцыйнай бяспекі «ваюе» з беларускім ліцэем, выглядае недарэчна, нават абсурдна. Але, думаецца, размова тут ідзе не аб чарнобыльскіх праблемах і не аб праблемах нацыянальнай адукацыі. Размова павінна ісці аб цывілізаваных нормах узаемаадносін, якіх трэба прытрымлівацца нават (а мо — у першую чаргу) у самых цяжкіх абставінах, у якіх мы ўсе апынуліся сёння.

Ці будзе неўзабаве пастаўлена кропка ў гэтай «сучаснай гісторыі»?

**Віталь ТАРАС.**

Кепскія часы, характэрныя для ўсёй былой савецкай навукі, на жаль, прыйшлі і ў нашу рэспубліку. Беларускія вучоныя, якія шукаюць сваё месца ў новым грамадстве перамогшай дэмакратыі і аднаўлення агульначалавечых каштоўнасцей, уваходзяць у яго ў складаных абставінах: рэзкае скарачэнне штатаў і беспрацоўе, асабліва цяжкае для вучоных; нізкая заработная плата, што ацэньваецца журналістамі як беднасць; велізарныя падаткі (мала зразумелыя, калі дзяржава бярэ іх са сваіх жа дзяржаўных устаноў). І, нарэшце, пушчаная некім зверху славутая ўстаноўка, што маленькай рэспубліцы не патрэбна вялікая навука! (Нагадаю, што насельніцтва Беларусі 10,2 мільёна чалавек). Гэтая ўстаноўка развязвае рукі чыноўнікам для неабмежаванага падразання крылаў беларускай навуцы і дэзарыентуе грамадства. Яна не толькі выглядае абывацельскай, але, самае галоўнае, як кажуць, не вытрымлівае навуковай крытыкі.

# РАЎНЕННЕ — НА ЭФІОПІЮ?

## Якою ідзе беларуская навука ў XXI стагоддзе

Чаму ж такім маленькім высокаразвітым еўрапейскім краінам, як Галандыя (15 мільёнаў), Швецыя (8,4), Швейцарыя (6,5), патрэбна вялікая навука і яны яе паспяхова развіваюць? Патрэбна таму, што яна дазваляе ім утрымліваць становішча лідэра ў шэрагу галін эканомікі і хутка перабудоўваць сваю вытворчасць у імкліва зменлівым свеце. Маленькая Швейцарыя траціць 2,9 працэнта свайго валавога нацыянальнага прадукту на навуку (саступаючы па гэтым паказчыку толькі ЗША, Японіі, Швецыі), таму што яе кіраўнікі разумеюць, што без самай дасканалай навукаёмістай тэхналогіі краіне, беднай на прыродныя рэсурсы, хутка не будзе чаго рабіць на сусветным рынку. На навуковыя даследаванні ў 1986 г. было выдаткавана 7 мільярдаў швейцарскіх франкаў. Нездарма ў Швейцарыі 7 універсітэтаў, школа бізнесу ў Сант-Гале і цэлая сетка навукова-даследчых інстытутаў і лабараторый. Некалькі гадоў назад Швейцарыя дапусціла адсталасць у сваёй гадзіннікавай прамысловасці і адразу ж апынулася пад пагрозай быць выціснутай на сусветным рынку Японіяй і Ганконгам. Гэты выпадак яе многаму навучыў і падштурхнуў даследчыя работы. Вядома, структура навукі ў названых краінах павінна адрозніваецца і адрозніваецца ад супердзяржаў ЗША і былога СССР. Яна вельмі прадумана звужана і сканцэнтравана на галіне, якая ўяўляе максімальную прыкладную цікавасць для дадзеных краін. Але ў той жа час яна і ў разумнай ступені шырокая. У Галандыі, напрыклад, ёсць два аэракасмічныя інстытуты, у Швейцарыі —Міжнародны цэнтр фізічных даследаванняў, а ў Даніі традыцыйна развіваецца астраномія, хоць яна і не патрэбна непасрэдна для яе мяса-малочнай гаспадаркі.

Значэнне фінансавання для навукі можна праілюстраваць наступным прыкладам: ЗША дамагліся поспеху ў стварэнні атамнай зброі перш за ўсё таму, што затрацілі на даследаванні ў 1000 разоў больш, чым нацысты (апошнія каля 8 мільёнаў марак). Маючы бліскучую школу фізікаў у 20-х гадах, немцы тым не менш разбурылі яе ў 30-х гадах па розных прычынах: змiграцыя вучоных і «ўцечка мазгоў», жорсткае некампетэнтнае адміністраванне, беднае фінансаванне і г. д. Нават праз паўстагоддзя пасля заканчэння вайны Германія не здолела яе аднавіць, нягледзячы на вялікія намаганні. Навуку, як і культуру, вельмі цяжка аднаўляць.

Бясспрэчна, навука павінна быць эфектыўнай, і колькасць вучоных залежыць ад задач, якія перад намі ставяцца.

У ЗША нават фундаментальныя акадэмічныя даследаванні даюць эканамічны эфект: на адзін долар яны штогод прыносяць 29 цэнтаў прыбытку. Акрамя галоўнай задачы —знаходжанне новых з'яў і заканамернасцей у прыродзе, акадэмічныя вучоныя ў 1975—1985 гг. давалі там штогод у сярэднім 11 працэнтаў усіх прадуктаў і 9 працэнтаў усіх тэхналогій, запушчаных у вытворчасць. Нашы выдаткі на навуку павінны залежаць не толькі ад магчымасцей, якія складваюцца стыхійна, але і ад той ролі, якую мы збіраемся займаць у міжнароднай садружнасці. Калі мы, знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, жадаем быць сціплым «беконна-бульбяным» аграрным дадаткам да якой-небудзь краіны, то, верагодна, можна будзе абысціся і без вялікай навукі. Але калі мы хочам быць хоць нечым падобнымі на Галандыю, якая пры плошчы 0,01 працэнта ад тэрыторыі сушы займае адно з вядучых пасля ЗША месц па экспарце сельскагаспадарчай прадукцыі, а таксама іграе прыкметную ролю ў шэрагу галін прамысловасці, то без сур'ёзнай навукі не абысціся!

На жаль, у Беларусі ніколі асабліва не «злоўжывалі» навукай. У былым СССР мы былі недзе на 5—6 месцы па колькасці навуковых супрацоўнікаў Акадэміі навук на 10 тысяч жыхароў. Апошнія пару гадоў рэспубліка выдаткоўвала штогод на сваю Акадэмію навук каля 0,3 працэнта ад сваіх бюджэтных выдаткаў.

Вядома, цяпер у былым СССР для навукі насталі вельмі цяжкія часы і разлічваць на разуменне шырокай грамадскасці складана. Хаос, эканамічны і фінансавы крызіс, галеча, няхватка прадуктаў, людзі ў чэргах па хлеб — усё гэта не схіляе грамадства да навукі. Як і пры кожным сур'ёзным крызісе, у ім пачынае квітнець сярэдневяковае цемрашальства. Як нядаўна пісаў з іроніяй адзін амерыканскі навуковы часопіс, былое савецкае грамадства цяпер перажывае перыяд, калі ТАСС на поўным сур'ёзе паведамляе пра наведванне паўднёвай Расіі трохгаловымі іншапланецянамі, тэлевізійныя магілекары лечаць людзей вадой і крэмамі, што пастаялі перад экранамі, а былы друкаваны орган КПСС прапаноўвае маладым людзям астралагічныя сексуальныя гараскопы. Людзі гатовы верыць ва ўсялякую бязглуздзіцу. У той жа час яны аказаліся расчараванымі ў «самай навуковай», як іх пераконвалі, навуцы — марксізме-ленінізме. Пацярпелі крах ідэалы пабудовы зноў-такі «навукова-абгрунтаваных» грамадстваў сацыялізму і камунізму. Усё гэта падарвала веру ў навуку. Стварае сур'ёзную пагрозу для разбурэння навукі і бясконцая колькасць праектаў яе рэарганізацыі.

Навука, верагодна, цяпер патрэбна Беларусі як ніколі. Рэспубліцы неабходна пацвердзіць свой абвешчаны суверэнітэт поспехамі ў эканоміцы, экалогіі, ахове здароўя, культуры, уздыме жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Дзеля гэтага ўсё ж патрэбна моцная навука. Акрамя таго, такія перадавыя краіны, як Японія, ужо распрацоўваюць лад жыцця XXI стагоддзя. Тут таксама патрабуецца апераджальнае развіццё навукі, і адставанне небяспечнае. Зараз трэба было б разумна паставіць перад усёй нашай беларускай навукай на год-другі адну праблему: перааацаніць нашы эканамічныя магчымасці, прыродныя рэсурсы, экалагічную сітуацыю і намеціць аптымальныя шляхі інтэграцыі Рэспублікі Беларусь у сусветную гаспадарку. Відаць, мы будзем у асноўным прадаўжаць нашы гістарычныя і выгадныя нам эканамічныя сувязі з Расіяй. Відавочна і тое, што на сённяшні дзень мы можам паспяхова гандляваць толькі з былымі сацыялістычнымі краінамі і краінамі, якія развіваюцца. Для развітых капіталістычных краін, магчыма, за выключэннем таннай рабочай сілы, а таксама інфармацыі аб наступствах абпраменьвання вялікіх мас насельніцтва пры аварыі на ЧАЭС, мы сёння ніякай цікавасці не ўяўляем.

У нас няма валюты купляць іх тавары і практычна няма неабходнай ім сыравіны. Пачаць атрымліваць долары мы здолеем толькі са сваёй высоканавуковай тэхналогіяй. Нам жа яны могуць прадаць толькі састарэлую і часта небяспечную ў экалагічных адносінах тэхналогію. Таму сучасную тэхналогію можна распрацоўваць толькі сваёй навукай, што даўно зразумелі маленькія еўрапейскія краіны. Мяркуючы па тым, як нашы суседзі па СНД узвысілі цэны на розныя матэрыялы і сыравіну, новую тэхналогію, яны, відаць, таксама не будуць даваць бясплатна.

Пасля таго, як будзе выпрацавана генеральная схема нашага далейшага развіцця, мы, вядома, павінны звузіць сваю навуку на асобныя перспектыўныя галіны хіміі, экалогіі і экатэхнікі (аўтар знарок паставіў гэтыя навукі на першае месца, таму што па прагнозах вучоных яны будуць важнейшымі не толькі ў XXI, а і ў XXII стагоддзі), біятэхналогіі, фізікі, вытворчасці новых матэрыялаў, дакладнага машынабудавання, электронікі і г. д. Дарэчы, новыя навуковыя распрацоўкі неабавязкова павінны быць груваскімі, у выглядзе магутных грузавікоў, пад'ёмных кранаў, станкоў і г. д. Напрыклад, у лік важнейшых амерыканскіх вынаходніцтваў, якія ў найбольшай меры змянілі лад жыцця чалавецтва, уключаны і маленькі станочак для галення Джылета. Францыя зарабляе мільярды на адзенні, крэмах, шарыкавых ручках, мінеральнай вадзе, вінах і г. д., хоць мае пры гэтым развітую касмічную і авіяцыйную прамысловасць, атамную энергетыку і г. д. А для таго, каб вынайсці новы веласіпед (а іх удасканальваюць пакуль што кожны год), алоўкі ці крэм, патрэбна ўсё-такі развітая навука!

Для Беларусі важны цяпер не толькі прыродазнаўчыя і тэхнічныя навукі, але і гуманітарныя. Падобна на тое, як вучоныя бяруць пшанічнае зерне з грабніцы фараона і праз тысячагоддзі карпатліва вырошчваюць расліны, так і беларусы павінны цяпер ашчадна выцягнуць з грунту затаптаныя на працягу трох стагоддзяў карэньчыкі нашай нацыянальнай культуры і самасвядомасці і адрадзіць іх. Без гэтага мы можам праз нейкі час сапраўды ператварыцца ў дзве вобласці Расіі, у якія хацеў бы ператварыць нас пан Жырыноўскі!

У нас вельмі сур'ёзнае становішча і з экалогіяй. Пасля развалу СССР мы засталіся сам-насам з чарнобыльскай бядой. Хто дасць нам цяпер неабходныя 60 з гакам мільярдаў рублёў на ліквідацыю вынікаў аварыі? Акрамя таго, у вырашэнні навуковых праблем мы тут таксама павінны разлічваць самі на сябе. МАГАТЭ мы не вельмі давяраем, і не без падстаў. Таму патрэбна свая беларуская навука, а не чужыя эксперты. Калі ў нас чаго цяпер не хапае, то толькі не праектаў рэарганізацыі ўсяго нашага жыцця — як імпартных, так і дамашніх. У прыватнасці, некаторыя хацелі б зменшыць ролю Расійскай акадэміі навук, ці перанесці асноўную навуку ва універсітэты, як, напрыклад, у ЗША. Іншыя гатовы прапанаваць мадэль Канады, дзе ўвогуле няма Акадэміі навук. Пры гэтым, верагодна, трэба было б улічваць гісторыю і традыцыі кожнай дзяржавы. Усё ж у навуцы традыцыя іграе вялікую ролю. Нездарма на Захадзе пры прэміяванні вучонага за самыя сучасныя дасягненні ў фізіцы яго апранаюць у сярэдневяковую мантыю. У нашай навуцы гістарычна склалася вядучая роля Расійскай акадэміі навук, а савецкая ўлада, трэба аддаць ёй належнае, стварыла сістэму рэспубліканскіх акадэмій. Было б, канечне, добра ўзняць узровень і навуковы патэнцыял нашых універсітэтаў да амерыканскіх, пры гэтым не разбураючы Акадэмію навук. За дзесяцігоддзі нашы універсітэты ператварыліся, па сутнасці, у педагагічныя інстытуты. Сярод студэнтаў вялікі працэнт кепска падрыхтаваных у сярэдняй школе і выпадкова трапіўшых у ВНУ маладых людзей. Гэты кантынгент вельмі марудна загараецца жаданнем займацца навукай, гледзячы на некаторых выкладчыкаў, якія праз гады чытаюць лекцыі па пажоўклых канспектах, самі нічым не цікавяцца, не наведваюць навуковых семінараў (між іншым, японскі вучоны-хімік наведвае ў сярэднім чатыры семінары на тыдзень) і г. д. Сюды трэба дадаць няхватку (дакладней, адсутнасць) на многіх факультэтах навуковых прыбораў, рэактываў, памяшканняў. Але самае галоўнае — у нашых сучасных універсітэтах няма духу навукі! А адкуль яму быць у грамадстве, дзе малодшы навуковы супрацоўнік цяпер атрымлівае ў 4—6 разоў, а загадчык лабараторыі, доктар навук у 1,5—2 разы менш у сярэднім за рабочага. Нават акадэмік, дырэктар інстытута можа разлічваць толькі на 50 працэнтаў ад заробку добра аплачваемага рабочага. Прычым, справа не толькі ў нізкай зарплаце (па задуме ўрада, яна ва ўсіх цяпер павінна быць нізкай), а ў дыспрапорцыі. Грамадства з такой ацэнкай працы вучонага ў канцы XX стагоддзя не знайсці ні ў развітых, ні нават у самых няразвітых краінах. Таму не выключаецца, што з такім стаўленнем да навукі і аплаты інтэлектуальнай працы мы можам хутка апынуцца на адной прыступцы па навуковым і прамысловым развіцці з такімі краінамі, як Эфіопія альбо Бераг Слановай Косці, і то па выкарыстанні камп'ютэраў мы, здаецца, ужо адстаём і ад іх! Цяжка сказаць, пра якую самастойнасць і незалежнасць Рэспублікі Беларусь можна будзе тады гаварыць!

**Валянцін ЛУКАШОЎ,**
**член-карэспандэнт АН Рэспублікі Беларусь.**

# ДЗЕЛЯ СЛАВЯНСКАГА СУПОЛЬНІЦТВА

**Яшчэ ў пачатку кастрычніка мінулага года ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістраваны Беларускі фонд славянскага пісьменства і славянскай культуры. Старшыня гэтай грамадскай арганізацыі — А. Петрашкевіч, першы намеснік — Н. Загорская, намеснік — У. Ламека, аргсакратар — Л. Бондарава, старшыня рэвізійнай камісіі — Я. Лецка.**

**Беларускі фонд славянскага пісьменства і славянскіх культур — добраахвотная самастойная грамадская арганізацыя. Яго дзейнасць скіравана на захаванне і вывучэнне помнікаў пісьменства, адраджэнне і абарону беларускай мовы і пашырэнне сфер яе ўжытку, прапаганды звычаяў, культурнай і гістарычнай спадчыны беларусаў і іншых славянскіх народаў у інтарэсах развіцця агульначалавечай культуры, узбагачэння духоўнага жыцця народаў, гуманістычнага выхавання моладзі. Галоўная мэта Беларускага фонду — спрыяць далейшаму развіццю беларускай і іншых славянскіх моў і культур, іх узаемадзеянню, адраджэнню духоўнага і інтэлектуальнага багацця славянскіх народаў, захаванню іх супольнай культурнай спадчыны.**

**Сярод задач фонду — садзейнічанне адкрыццю паасобных класаў у школах, а таксама спецыяльных ліцэяў і гімназій, у якіх бы вывучаліся славянскія мовы, а таксама і лацінская; садзейнічанне адкрыццю славянскіх аддзяленняў ва універсітэтах рэспублікі; вывучэнне беларускай мовы і культуры, гісторыі рознымі слаямі насельніцтва як на Беларусі, так і суайчыннікамі ў іншых рэспубліках і краінах; падтрымка агульнаславянскіх і рэгіянальных праграм па вывучэнні мовы, фальклору і этнаграфіі, стварэнне «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа» і «Энцыклапедыі славянскай культуры», выраб і рэалізацыя разнастайнай прадукцыі ў сувязі са святам славянскага пісьменства і славянскіх культур, памятных дат і падзей; правядзенне выставак, аўкцыёнаў, канцэртаў і фестываляў славянскай тэматыкі, актывізацыя краязнаўчага руху; стварэнне фона- і відэатэкі беларускага і славянскага фальклору і помнікаў старажытнаславянскага музычнага мастацтва, упарадкаванне і рэстаўрацыя фондаў, аказанне дапамогі ў шырокім выкарыстанні традыцыйнай мастацкай спадчыны і яе далейшым развіцці. Фонд мае на ўвазе таксама стварэнне адзіных зводных каталогаў старабеларускіх рукапісаў, славянскіх музычных рукапісаў, ажыццяўленне факсімільных і ратапрынтных выданняў помнікаў; супрацоўніцтва з ЮНЕСКА, міжнароднымі няўрадавымі арганізацыямі і замежнымі фондамі, удзел у мерапрыемствах «Славянскага праекта» ЮНЕСКА, у тым ліку ў стварэнні «Нарысаў гісторыі культуры славян»; падтрымка нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, Фонду беларускай культуры, таварыства «Бацькаўшчына», Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і супрацоўніцтва з імі; стварэнне рэспубліканскага Цэнтра славянскага пісьменства і славянскіх культур у Мінску з бібліятэкай і музеем; заснаванне вытворчых, паслуговых, пасрэдніцкіх, даследчых прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і кааператываў, неабходных для ажыццяўлення вызначаных статутам мэт і задач.**

**Беларускі фонд мае ўласную выдавецкую базу і права на выпуск друкаваных выданняў, можа набыць або арандаваць памяшканні і неабходную тэхніку для ажыццяўлення сваіх мэт і задач.**

**Кіруючым органам Беларускага фонду з'яўляецца рада. Цяперашняя рада выбрана ў складзе Л. Бондаравай, Я. Вайтовіча, Н. Гілевіча, Н. Загорскай, С. Лаўшука, У. Ламекі, А. Петрашкевіча, Г. Сурмач, Б. Сушкевіча.**

**Членамі фонду могуць быць грамадзяне Беларусі, іншых рэспублік і краін, а таксама асобы без грамадзянства, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту, працоўныя калектывы ўстаноў і арганізацый.**

**Юрыдычны адрас Беларускага фонду славянскага пісьменства і славянскіх культур: 220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 9, пакой № 420, тэл. 20-50-41.**

БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

# ПАДСТАВЫ РАЦЫЯНАЛЬНАГА НАЦЫЯНАЛІЗМУ

Сяргей ДУБАВЕЦ

## Артыкул другі

У ПЕРШЫМ АРТЫКУЛЕ, які пад такой назвай быў надрукаваны ў «ЛіМе» 2.XI.1990 г., гутарка ішла паміж іншым пра хаатычны, безвыніковы характар нашага сучаснага адраджэння, пра патрэбу ўнутранага, сутнаснага развіцця беларушчыны, пра пэўнае ўпарадкаванне нацыянальнага жыцця. Сёння, калі да арганізацыі і рэгулявання беларушчыны далучаюцца структуры ўлады, тая гутарка набывае практычны змест.

Так ці інакш мы ўжо выказалі сваю аб'ектыўную задачу — «людзьмі звацца». Але нічога пры гэтым не змянілася ў нас. У гэтым сэнсе мы не сталі «людзьмі быць». Прызнаная «за красивые глаза» беларушчына не зажыла, і ёю не зажыла нацыя. Нацыянальнае жыццё — па-ранейшаму нефункцыянальнае, яно камяком, яно не мае выразнай градацыі ад простых формаў да складаных, не мае поступу. Замест таго, каб абслугоўваць, яно ўсё яшчэ само патрабуе абслугі. Так адбіваюцца на ім збоі, 70 гадоў збояў у натуральным развіцці. У нас быў выдатны пачатак. У адрозненне ад многіх народаў, напачатку ў нас стаяў чалавек абсалютна «свой» і не абмежаваны нічым (ні канфесійна — свецкі, ні сацыяльна — адвакат, ні комплексам забітага мужыка — гарадскі), а да таго ж шчодра адораны талентам, — Францішак Багушэвіч. У нас няма патрэбы хоць у нечым «дацягваць» яго да ролі якогась «оуо» беларушчыны, як тое часта робіцца ў іншых народаў. Праз 100 гадоў Багушэвіч не састарэў і не паддаўся кананізацыі, а сёння сам з непаслабелаю сілай «дацягвае» нас. Застаючыся цікавым пісьменнікам, ён утварае і цэментуе аснову асноў беларушчыны. Яго чытаюць.

Дакладней, яго чыталі б, каб не тая дэзарыентаванасць. Перавыданне «Dudki belaruskaj» выйшла мізэрным накладам. А гэта ж тая якраз беларуская кніжка, якая мусіць быць паўсюль, заўсёды і ў любой колькасці. Яе будуць чытаць лацінкай на Віленшчыне ды Гарадзеншчыне, а кірылкай—па ўсёй астатняй Беларусі.

Тут можна думаць і пра рэнтабельнае прадпрыемства. Бо калі сёння кажуць пра прынцыповую нерэнтабельнасць культуры, дык не ўлічваюць, што пэўныя сферы культуры заўсёды рэнтабельныя. Якраз найпершы ўзровень нацыянальнае культуры — узровень Багушэвіча, народнага чытання — можа быць у нас рэнтабельны і пры рынку...

**Прэч бутэлькі, люлькі, карты!**
**Марна траціць час не варта.**
**Хай жывыя рушаць з кіем**
**У святы паход!**

**Нас не край далёкі кліча**
**Вывучаць чужы нам звычай,**
**Нас чакае ў нашым краі**
**Родны наш народ.**

У сферы народнага чытання — нашы класічныя ананімныя паэмы, Альгерд Абуховіч, што-нішто (але далёка не ўсё) з Коласа, Купалы, нашаніўцаў, заходнебеларусаў. Тут і пэўная дзіцячая літаратура. Тут і якія-небудзь конкурсы (культ нават) народных чытальнікаў з якой-небудзь багушэвічаўскай прэміяй для пераможцаў, і па-свойму рафінаваная перыёдыка і шмат падобнага. Гэта не «два крокі назад» і не архаіка. Гэта падмурак нацыі, якога ў нас няма. Дакладней, у якім у нас усё пераблытана.

Якія вызначальныя характарыстыкі Багушэвічаўскага ўзроўню? Гэта ўжо названая рэнтабельнасць, гэта непалітычнасць і гэта—безасабовасць. Каб праілюстраваць гэтыя характарыстыкі, возьмем прыклад перыёдыкі.

Газеты кшталту «Звязды» разлічаны хутчэй на соцыум, а не нацыю. Газеты кшталту «Нашага слова»?.. Якраз «Наша слова» і магло б стаць багушэвічаўскай газетай. Але сёння просты, скажам так, беларускі чалавек не чытае «Наша слова», таму што яно, па-першае, спецыялізаванае на чыста нацыянальнай унутрыадраджэнскай праблематыцы і не дае простаму чалавеку простых рэцэптаў жыцця (хоць бы і праграму ТБ), яно нефункцыянальнае; а, па-другое, «Наша слова» выходзіць за межы яго, простага чалавека, кампетэнцыі — напрыклад, яно неабыякавае да праблемы правапісу, да якой ён, просты чалавек «ў масе сваёй», абыякавы. Трэба выбіраць нешта адно — нейкую пэўную (тут — масавую) неабыякавасць, супадаць з настроем чытачоў. (Крый Божа, я не ўмешваюся ў планы «Нашага слова», а толькі з яго дапамогай разважаю пра выданне, якое зусім неабходнае сёння).

Багушэвічаўскі часопіс — пэўны прачасопіс — не можа ставіць нацыянальнае пытанне ў палітычным аспекце. Ён увогуле не мусіць «ставіць пытанні», калі гэта не пытанні віктарыны. Яго сіла (і гарантыя масавасці) — прыгожае натуральнае жывое слова, досціп, уразлівы расповяд пра сітуацыю жыцця, падыгрыванне (савецкая журналістыка надта не любіла гэтага, але ў яе была ўлада за спінаю і не было канкурэнтаў) масавай неабыякавасці, белетрызаваныя факты гісторыі і культуры. А найперш — зусім пазітыўны, сцвярджальны выраз. Тут мусіць быць усё толькі сваё, нацыянальнае, народнае, але зробленае дабротна і таленавіта, па-багушэвічаўску. Тады гэта будзе часопіс кожнай беларускай сям'і — і прафесара, і слесара. Ён не выкліча ні раздражнення, ні насцярожанасці (як гэта спрэс адбываецца з нашымі газетамі), калі падкрэслена не будзе ні на што прэтэндаваць.

Багушэвічаўскі ўзровень — гэта не школа, яшчэ не школа. Гэта, можа быць, родны краявід, на тле якога адбываецца дзеянне другога ўзроўню нацыянальнага жыцця, які пазначаны назваю «Наша Ніва»...

**Трэба ведаць наша поле,**
**Блізкіх нам братоў нядолі,**
**Што работай, кроўю-потам**
**Кормяць усіх нас.**

**Панясём жа пад іх стрэхі**
**Промень і святла і ўцехі,**
**І настане час світання —**
**Абуджэння час!**

Тут увогуле дазваляецца ўсё, у тым ліку і эклектыка. Замест конкурсу народных чытальнікаў тут — праблемы. Праблемы зямлі, школы, палітыкі. Тут дапушчальныя дыскусіі і асобы. Тут неабыякавасць адраджэнцаў кампілюецца з неабыякавасцю публікі. Тут — асвета, «пошукі-знаходкі». Словам, у адрозненне ад багушэвічаўскага ўзроўню, дзе ўсё вечнае, тут — усё адбываецца. Тут — багатыя і бедныя, шчасныя і банкруты, рэнтабельнасць і нерэнтабельнасць.

Тут ёсць свая ніша і для графаманаў, імітатараў, усяго, што са шчырай аддасцю нацыянальнай ідэі адварочвае публіку ад беларушчыны. Але цяпер (калі ў нас, дапусцім, ёсць багушэвічаўскі ўзровень) гэтая школа не фатальная. Цяпер (пры развітой у рэспубліцы сетцы конкурсаў народных чытальнікаў) мы можам дамагацца беларускай школы, не ідучы ўсёй беларускай ідэяй па-банку, не рызыкуючы, што хваля народнага гневу выкіне нас разам з «нашай» беларушчынай на сметнік. Цяпер (пры конкурсах) эсдэкі могуць ваяваць з бэнээфаўцамі «не на жыццё, а на смерць» (хоць ад гэтага толку ніколі не будзе). Параўнаем з сённяшняй сітуацыяй, калі ў спрэчкі палітычных лагераў гатовыя рашуча ўключыцца і «Наша слова» і конкурсы чытальнікаў. А гэта — канец ці, прынамсі, новы збой у развіцці...

**Знаць Чачота ўсе павінны,**
**І пра Зана дабрачыннасць,**
**Пра Касцюшку і Манюшку,**
**І пра песняроў.**

**Рукі ім падаўшы, знаю,**
**Зробім болей мы для краю,**
**Чымся ў бойках разам стойка**
**Праліваўшы кроў.**

Нашаніўскаму ўзроўню сёння з газет найбольш адпавядае, мусіць, «ЛіМ». За плячамі ў яго немалая традыцыя, прычым традыцыя кансалідацыі. І менавіта «ЛіМ» у сённяшніх умовах можа ўзяць на сябе (а дакладней, не страціць) ролю гаранта беларускага адраджэння — ад палітычных сварак, ад процістаяння пакаленняў — ад любое дэструкцыі.

Застаецца сказаць пра трэці ўзровень, пра інтэлектуальную эліту нацыі, станаўленне «еўрапейскіх» мадэляў мыслення і падобнае. На агульнай карціне нацыянальнага жыцця гэта — неба. Гэта ўжо чыста асабовы (аўтарскі) і зноў жа непалітычны ўзровень. Ён ужо ў прынцыпе не рэнтабельны. Ён, як пэўная вяршыня, са сваімі сімпозіумамі, высокай літаратурай ды культурай служыць і сацыяльным арыенцірам, кірункам, у якім імкнецца нацыя, і прадстаўніцтвам нацыі ў свеце. Напрыклад, сёння, калі яшчэ не заявіла пра сябе беларуская палітыка, адзінае, па чым ведаюць і за што шануюць беларушчыну,— гэта пісьменнікі. В. Быкаў, Я. Брыль, М. Стральцоў, А. Разанаў...


Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА.

Гэты ўзровень перакладае нацыянальную культуру на мову агульначалавечых каштоўнасцяў і ў гэтым сэнсе ён — касмапалітычны. Для нас ён выразна акрэслены імем Ігната Канчэўскага.

Калі б сталася БНР, яна мела б гэтую стройную градацыю нацыянальнага жыцця: Багушэвіч — «Наша Ніва» — Канчэўскі. Але БНР не сталася, і пачаліся збоі.

Сёння ўсё змяшалася ў нашым доме. І дэзарыентаваныя адраджэнцы ўжо шукаюць апошняга свайго паратунку — у сіле закона, што асабіста для мяне выглядае на забаронены прыём, які ніколі не прывядзе да перамогі, хіба да пакарання. Наша нацыянальнае жыццё або эклектычнае, або дылетанцкае. І нехта спадзяецца менавіта ў такой эклектычна-дылетанцкай форме ўзаконіць яго, кананізаваць і зрабіць абавязковым для нацыі. З іншага боку, пакуль беларушчына выглядае гэтак хаатычна, усярэдзіне ў яе ставяцца задачы іншага, не нацыянальнага плана, высоўваюцца іншыя прынцыпы, якімі, маўляў, нельга пастурацца, хай нават коштам самое беларушчыны. (Маю на ўвазе партыйныя, канфесійныя ды іншыя спрэчкі, асабістую нецярпімасць дзеячаў і падобнае).

Цяпер мне зразумела, што, аднаўляючы віленскую «Нашу Ніву», мы пачалі не з таго канца, паставілі за мэту ўзровень Канчэўскага. Калі сітуацыя дыктуе ўзровень Багушэвіча. Але наўрад ці варта прызнаць гэты шлях памылковым. Галоўнае ўсё ж — рафінаванасць узроўню і адпаведнасць яму, а таксама адпаведнасць задачам (хай сабе для многіх «заўтрашнім»), якія можна вырашаць ужо сёння. Пры ўсёй сваёй слабасці віленская беларушчына і тое кола, цэнтрам якога з'яўляецца, можа стаць тылам нацыянальнае культуры, яе запасным торам напярэдадні магчымых катаклізмаў.

Ці мала што можа быць заўтра, што сцвердзіцца на нашай зямлі, а што рыне ў нябыт?.. Мусіць застацца вечны зямны беларускі краявід, каб нават пасля самага апошняга катаклізму знайшоўся нейкі тутэйшы чалавек, які раптам прыгадае словы з чагосьці забытага, чытанага ў дзяцінстве, у бацькавай хаце...

**Хай жа ўсе, усе, хто можа,**
**Возьмуць свой кіёк дарожны,**
**У край айчынны час ісці нам**
**Вывучаць свой люд.**

**Сонцу нашаму свяціцца,**
**Піць нам са сваіх крыніцаў, —**
**Вымятаем дружна з краю**
**Мы замежны бруд!**

# «ЛЯТУ І АГЛЯДАЮ З ВЫШЫНІ ПАЛЁТУ...»

## Пра дзённік Язэпа Драздовіча

*«Я сірата — кругом адзін, бяздомны, безхатні падарожнік».*

Нельга сказаць, каб імя Язэпа Драздовіча было ў нас малавядомым. Але вядомасць гэтая, пагодзімся, абмяжоўвалася ў асноўным мастацкім, мастакоўскім колам. З 1979 года пачынаючы неаднойчы былі выстаўкі. Была кніга Арсена Ліса «Вечны вандроўнік» («Юнацтва», 1984). Былі артыкулы з нагоды 100-гадовага юбілею мастака. Не было і няма толькі ўсеагульнага разумення, **што** мы мелі і **што** страцілі ў асобе Я. Драздовіча. І калі ўсё зробленае ім як жывапісцам і графікам сведчыць пра самабытны выяўленчы талент, то дзённікавыя запісы 1933—1937 гг. раскрываюць перад намі багаты духоўны свет гэтага чалавека ва ўсёй разнастайнасці асабовых, творчых і побытавых праяў.

Дзённік, зноў жа, не сёння знайшоўся. З яго фрагментамі знаёміў беларускамоўнага чытача мастак А. Марачкін, на яго абапіраўся А. Ліс, пішучы згаданы біяграфічны нарыс. Аднак вытрымкі і пераказ ніколі не заменяць цэлага. Вось чаму сам факт публікацыі дзённіка Я. Драздовіча ў «Маладосці» (№№ 5—11 за 1991, 1—2 за г. г.) лічу значнай падзеяй у нашым культурным жыцці. А прачыталі цяжкаразборлівыя рукапісы і падрыхтавалі іх да друку супрацоўніцы бібліятэкі АН Беларусі Я. Кісялёва і Л. Збралевіч.

«ПРЫНЯСІ МНЕ добрыя памысныя варункі жыцця дзеля працы маёй на карысць людзям праз навуку, праз прыгожае слова і прыгожыя творы мастацтва», — з такімі словамі звяртаецца Язэп Драздовіч да Новага, 1933 года. Ён ужо два гады як страціў выкладчыцкую працу, у чым ёсць доля і яго асабістай віны. Заробкі эпізадычныя, выпадковыя, таму «сам не ведаю, як жыць, што далей будзець». Ратаванне ад бясхлебіцы ён знайшоў у тым, каб браць заказы, ходзячы па вёсках. Але тое пазней, а пакуль — Вільня.





Я. ДРАЗДОВІЧ (крайні злева) у мастацкай майстроўні пры Беларускай гімназіі. Вільня.

«Дзень прайшоў дамасідна. Знайшлося б мо куды схадзіць, пакалядаваць, — ды няма ў чым. Касцюм незавідзен, а галоўнае гэта боты... цякуць...»

«Прастуда і недаедкі... Халоднае і да крайнасці сырое (з мокрымі сутарэннымі мураванымі сценамі) памяшканне, а побач з гэтым посніца і недаедкі зусім падарвалі мне маё здароўе...»

«Распачаў і яшчэ адно велічэзнае пано — тыльнік «Пушча» на казеінавым грунце... Аж цэлае кілё свежага харошага сыру тварожнага пусціў на разбаркасаваны клей — аж шкода — чаму б мне самому яго не з'есці...»

Ён бярэцца за ўсялякую, нават дробную працу, каб зарабіць якую капейку.

«Распачаў падмалёўку...»

«Дакончыў і здаў пераплёт...»

«Малюю шыльду...»

«Выканаў і закончыў дэкарацыю на паперы...»

«Распачаў велічэзнае пано...»

Заробак, аднак жа, не апраўдвае высілкаў, заказчыкі не заўжды акуратна выплачваюць грошы, здараецца, і зусім пра ганарар гаворкі няма, «бо праз далікатнасць не ўмаўляўся». У Беластоку, куды паехаў з надзеяй палепшыць сваё матэрыяльнае становішча, акружная ўправа не магла знайсці для яго 25 залатовак на зваротны білет. Урэшце мастак выпраўляецца на Дзісеншчыну, спыняецца ў старэйшага брата Кастуся, наведваецца і да другога брата ў Лужкі, але родзічы і самі жылі нялёгка ды гарапашна.

У Антаполлі, не маючы «ані палатна, ані фарб, ані адпаведнага мейсца», Язэп Драздовіч ахвотна займаецца разьбой па дрэве. Відаць. і ў гэты занятак укладае душу, бо не забываецца апісаць у дзённіку кожны свой адмысловы, выразаны з той ці іншай пароды дрэва кій. На дрэве выразаў ён і партрэты сябрукоў — Янкі Пачопкі, у якога рэгулярна гасцюе ў Летніках, і Міхася Машары.

Жыццё праходзіла размерана-будзённа, у чаргаванні дробных падзей і здарэнняў. Параніў правую руку... Назбіраў хмелю на лякарства... Зрабіў стол для разьбы... Шукаў у лесе згубленую табакерку з чырвонага дрэва, праз тое заначаваў на астравіне, а вярнуўся — дома табакерка... Зламаў найлепшае разьбярскае долата, «якое трудна і набыць»... Вылепіў з гліны галаву вясёленькага анёлка... Распачаў галаву «правадыра жыдоўскага народа, тварца найстарэйшай тэорыі стварэння свету — знамянітага Майсея».

Зрэшты, наконт стварэння свету ў яго была свая ўласная тэорыя. Яшчэ ў 20-ых г. г. Драздовіч захапіўся філасофіяй Усходу, зачытваўся літаратурай па астраноміі, маляваў карціны з касмічнымі выявамі, выдаў у 1931 г. брашуру «Нябесныя бегі». У наступным годзе піша і пасылае ў Мінск, у Акадэмію навук працу «Гармонія планет сонечнай сістэмы». Аднак пра касмічную тэму ў жыцці і творчасці мастака таксама крыху ніжэй.

Дыванамі ён усур'ёз захапіўся з лета 1934 г. На іх у ваколіцах пайшла мода — кожная з нявестаў на выданні жадала мець свой рознакалёрны дыван. Натуральна, заказаў хапала. Прычым, заказы ён мае толькі ад сялян ды ад засцянковай шляхты, «а на панах —з галаду б памёр, не зарабіў я ад іх ані грошыка».

Усяго зарабіў ён за вясну, лета і восень за 25 дываноў, не лічачы расходаў на фарбы, 81 залатоўку. І запісвае (крык душы!): «Ой, як трудна грошы даюцца!»

Праца на дыванах яму з цягам часу надакучыла. Праз год ён робіць такі запіс: «Людзям даю...(...) Хай узгадоўваюць у сабе пачуццё эстэтыкі. А для мяне пры маіх цяжкіх матэрыяльных варунках — анічога. Толькі здароўе сваё на гэтым марную». Аднак жа працягвае маляваць «так званыя «каўры»: «Адзін для Ніны Чарнявай. Адзін для Ніны Чырвонай у Шкунціках. Адзін для Ніны Малой («Авулькі»). Адзін для Ніны Белакурай. Адзін для Надзі Цыблястай. Два для Надзі Акруглястай» і г. д.

Праз тры гады вандроўнай працы (дзе маляваў — там і жыў, там і сталаваўся) вырвецца ў яго горкае, набалелае: «Шчасліў той, хто маець час на вольную творчую працу. Хто пры добрым здароўі і без клопату аб заўтрашнім дні. Хто не маець патрэбы прадаваць свой час на грош дзеля хлеба».

ДЗЕЯННЕ гэтай чалавечай драмы адбываецца ў Заходняй Беларусі, дзе пасля гучных судовых працэсаў над удзельнікамі вызваленчага руху настаў перыяд раздробленасці грамадскіх сіл, эканамічнага крызісу. Цяжка жывецца не толькі мастаку-вандроўніку — людзі падчас не маюць чым плаціць за адмысловыя маляванкі. Ды для Драздовіча гэты нялёгкі занятак — не толькі ратаванне ад беспрацоўя. Перадусім — усведамленне звышзадачы: развіццё эстэтычнага густу «ў народзе той краіны, дзе я нарадзіўся і вырас». Праца на сябе ды «чыстае мастацтва» застаецца нязбытнай марай.

Ходзячы ад вёскі да вёскі, ад засценка да засценка, мастак не забываецца распытаць старых людзей пра даўніну, занатаваць легенды, даследаваць і апісаць старажытныя гарадзішчы, замаляваць узоры паясоў і саматканак. Куды б ні завітаў, вакол заўжды збіраюцца людзі. Сам Драздовіч нідзе не падкрэслівае гэты момант, не надае значэння з'яве сваёй прыцягальнасці. Толькі з асобных штрыхоў і дэталяў можна зрабіць вывад, што для вясковых, задушаных працай людзей прыход вандроўнага творцы быў, бадай што, святам.

Моладзь ахвотна запрашала яго на вечарынкі («зборніцы»), дзе ён «пяяў, іграў, жартаваў і баіў», а таксама пад настрой варажыў па руках. Неяк зімой у вёсцы Верацеі яго акружыла чародка дзяўчат-школьніц і прасіла кожнай намаляваць што-небудзь у сшытак — «каторай кветачку, каторай зайчыка, каторай анёлчыка», што ён з прыемнасцю і зрабіў. Да слова заўважым, што адносіны да жаночага полу ў яго былі дужа цнатлівыя і абмяжоўваліся брацкімі пацалункамі ды прыемнай магчымасцю намаляваць дзявочай рукою што-небудзь са згаданага.

Вяскоўцы, відаць, адчувалі выключнасць, незвычайнасць гэтага дзівакаватага падарожніка і адпаведна ставіліся да яго. Старая Адольфіха, у якой ён два дні быў госцем, «знарадзіла са сваіх цэлую лавецкую талаку», каб пачаставаць госця рыбай і ракамі. І нават сама як аматарка ловаў збіралася пайсці, ледзьве адгаварылі. У Падавутах у адной з хат старыя і падлеткі закідалі Драздовіча «навуковымі пытаннямі»: што такое неба і зямля і як яны ўстроены, «як трымаюцца на небе звязды, чаму яны свецяцца і да чаго прымацаваны». Вядома ж, ён правакаваў гэтую цікаўнасць да «высокіх матэрыяў», бо прызнаецца, што, акрамя дзесяткаў дываноў ды партрэтаў, на яго рахунку — «каля паўсотні мадэлізаваных лекцый па астраноміі для няведаючых». Лекцыі ён робіць зразумелымі наступным шляхам: ставіць запаленую лямпу на стол, размяшчае сярод хаты аднаго ці некалькіх слухачоў, бярэ ў рукі гарбуз ці яйка — і фазы Месяца пры такой нагляднасці зразумее нават дзіця.

ВОСЬ МЫ І ПАДЫШЛІ да адной з цікавейшых старонак у дзённіку і біяграфіі Язэпа Драздовіча: ён быў апантаны касмічным бязмежжам. Шматлікія і аб'ёмныя апісанні нябесных краявідаў, часцей горных, будынкаў, істот можна было б цалкам спісаць на багатую фантазію рознабакова адоранага творцы, калі б не адна істотная акалічнасць: аўтар дзённіка рэгулярна... лётаў у сне. І не над нашай грэшнай зямлёй, а на Месяцы, Марсе і г. д. Ва ўсякім разе, яму так думалася, што неверагодныя, не бачаныя нікім іншым карціны разгортваюцца менавіта на бліжэйшых планетах.

Язэп Драздовіч бачыў у снах горы і раўніны, лясы і палі, рэкі і даліны, тунелі і вадапады, аркі і каналы, астравы і сталактытавыя гроты, цягнікі і вакзалы, залы з арнаментам і пячоры. Вы можаце сказаць, што такое і на нашай планеце — не рэдкасць. У такім разе прывяду і больш экзатычныя прыклады:

«Бачыў, як з-за адной такой лопнуўшай скалы вылезла з лопаўкі, прытуляючыся да цёмнай скалы, нейкая чатырохногая пачвара — кот, не кот, яшчар, не яшчар — скура чорная, як жук, тулава тоншае і доўгае, ногі кароткія, а галава круглая, як качан, рот шырокі, без носа, а вочы круглыя, вялікія — па яблыку, і блішчаць».

Або:

«Падаўшыся ўглыб нейкай міжскальнай цясніны гор, я напаткаў стаячую пад шэрай скалою невялікую камлюкаватую фігурку голага чорнаскурага чалавека — ліліпута. Ён меў досыць буйную, як у нашага дарослага чалавека, выпукласталобую і зусім безвалосую галаву, паўнашчокі, акруглясты твар...»

Уражваюць падрабязнейшыя, я сказала б — батанічныя апісанні раслін: «Жыта не жыта, гірса не гірса, густое, саломка цененькая, а ўверсе — ні то колас, ні то мяцёлка».

Занатоўваецца ўсё, што кідаецца ў вочы і дзіўным чынам адрозніваецца ад знаёмага: напрыклад, тая акалічнасць, што ўсе расліны «як адна нахіляюцца сваімі вершалінамі, галлём і лісцем з боку ад сцен у бок на асяродак даліны, нахіляючыся нават і ў той час, калі і няма вятроў, днём».

Разам з аўтарам мы прасочваем усе дэталі пабачанага. Звернем увагу на наступныя выразы: «ляту далей», «перанёсшыся», «падаўшыся правей», «дабраўшыся», «праімчаўшыся па-над пустыняю», «ляту і аглядаю з вышыні птушынага палёту»... Адзначым такі момант: валявым намаганнем, свядома ён кіраваў працэсам «лёту»: мог прачнуцца, мог папрасіць «у неба», каб зазірнуць за другі бок скалы, дзе не паспеў пабываць. Ён здольны дагледзець перапынены сон праз некалькі дзён і нават месяцаў, адшуквае мясціны, пра якія чытаў у астранамічнай літаратуры, часам сустракае ўжо знаёмыя пейзажы, твары, расліны. Прыснёнае ён звярае па фатаграфіях і мапах Месяца, каб высветліць — «дзеля веды ў навуках», — дзе іменна давялося пабываць. Не знайшоўшы адпаведных мясцін, тлумачыць сваю няўдачу адсутнасцю якасных здымкаў.

У далінах і плато абодвух паверхняў спадарожніка мастак арыентуецца не горш, чым у ваколіцах любімай ім Дзісёнкі. І як маляваў «Дзісёнку ля Баяр», «Дзісёнку ля Старaполля», так цяпер піша, выкройваючы час паміж сценнымі дыванамі, «Касмаполіс», «Трывеж», «У цырку Платона», «Піянеры на Месяцы»...

Аднойчы, пралятаючы над заснежаным лесам, ён зведаў «скептычнае пачуццё»: здалося, што апынуўся дзесьці ў Сібіры або Канадзе. Ажно не: крыху далей згледзеў ён ка-

бет-«лунідак» у белых вопратках і белых хустах. Кабеты махалі рукамі, як бы адганяючы нейкі прывід. Як ён зразумеў—яго самога.

Часцей трапляліся дзікія, незаселеныя землі, але зрэдчасу сустракаліся і жывыя істоты. Ад нас яны, канешне, адрозніваліся, але не настолькі, каб іх нельга было называць людзьмі. У раздзеле «Прырода горнадаліннага цырку «plato» ён, напрыклад, дае падрабязнае апісанне тутэйшага люду, які жыве першабытным чынам у хатах-пячорах.

І занатоўвае: «Бачана ўсё гэта на правабярэжнай шляхавай тэрасе, у цясніне ракі Платонія, ля самага ўваходу ў расшчэп — скрозьсценны калідор на арэну». Каб лічыць плодам фантазіі, а значыць вымыслам такія вось дэталёвыя, скрупулёзна занатаваныя



Старонкі запісной кніжкі.



На вытоках Нямігі. Менск, лета 1920 г.

сведчанні, трэба сапраўды мець багатую фантазію...

Фантастычныя краявіды то змяняюцца імкліва, як у калейдаскопе, то, наадварот, доўжацца цэлымі гадзінамі. Яны то выразна відны, то як бы праз туман ці ў прыцемках, то з далёкай адлегласці, то зблізку — так, што можна разгледзець нават усмешку на твары абарыгена.

Сам Драздовіч не выказвае ніякага здзіўлення з прычыны сваіх «духавых падарожжаў», як ён іх называе, ці «магнетыстычных» сноў. Яму відавочна падабаецца той звышнатуральны свет, куды ён трапляе «па-за часам і прасторай». З'яве знойдзена дакладнае вызначэнне: гэта тыповыя **астральныя падарожжы.** Разважаючы пра ўласны феномен, ён піша: «бальшыня візіяў маіх гэта не твор фантазіі, не самаабман, а сапраўдны дар яснавідства». Сапраўды, што б там ні казалі скептыкі (якія нямала кпілі з яго і пры жыцці), адчуванне поўнай рэальнасці таго, што пабачыў ён «мысленным зрокам», не пакідала мяне падчас чытання.

КАЛІ Б НЕ ГАЗЕТНЫ ПАМЕР, я цытавала б яшчэ і яшчэ эпізоды з гэтых вандровак—і таму, што яны цікавыя самі па сабе, і таму, што ў іх яскрава выявіўся пісьменніцкі талент Язэпа Драздовіча. Нездарма, мабыць, «прыгожае слова» стаіць у яго паперадзе «прыгожых твораў мастацтва» (глядзіце першую вытрымку з дзённіка). Нагадаю, што ў Вільні ў 1923 г. выйшла кніга прозы Драздовіча, былі незакончаныя аповесці, вершы, спробы ў жанры фантастыкі. Па водгуках даследчыкаў, белетрыстыка Драздовіча няроўная, уражвае адно мясцінамі. І толькі ў дзённіку раскрылася ва ўсёй паўнаце ўменне аўтара дасканала валодаць словам, знаходзіць кожнай рэчы ці з'яве дакладна моўны адпаведнік. Слова Драздовіча, — летапісца свайго жыцця, ёмкае і пластычнае. Здзіўляе багаццем і разнастайнасцю навуковая лексіка, якой аўтар шырока карыстаецца пры апісанні сноў. Падарожжы, праўда, чытаць цяжкавата, яны грувасткія — выключна з-за імкнення аўтара да гранічнай дэталізацыі. Падкрэслю, што ў дадзеным выпадку жаданне апісаць кожную дэталь — ад рэльефа скалы да формы ліста — выклікана чыста навуковымі мэтамі. Хаця і тут каларыт незвычайны. Мяркуйце самі: **папялястая ноч, кутасаватыя пухоўкі, траваραслі, прыткая скала, сукоснае праменне...**

У побытавых запісах — сцісласць, гумарок і тое ж імкненне да моўнай выразнасці. У пейзажных замалёўках — стрыманы лірызм, узнёсласць. Сустракаюцца і афарыстычныя развагі, такія ж нязмушаныя, як і ўсё астатняе. «І фанатыкі, і бязбожнікі — адной маткі дзеці, крайнасці... Няма жыцця ў крайнасцях...(...) Толькі між агнём і марозам усё жывець, усё расцець, усё цвіцець, развіваецца, красуецца».

Ёсць запісы асаблівыя, у якіх, як сонца ў кроплі расы, адлюстроўваецца чыстая душа гэтага чалавека: «...панаваў вялікодны радасны настрой. Адбывалася спатканне тутэйшым народам вялікага свята вясны, свята сымбалю вялікай пабеды аднаго чалавека над многімі, якія яго акляваталі, пагардзілі, абясчэсцілі, прынізілі, знікчэмнілі, абясправілі ў правах чалавечых і са здзекамі ўмярцвілі, а ён—ён уваскрос!»

ПАСТУПОВА, ад года к году, характар дзённіка мяняецца. За 1935 г. занатаваны толькі адзін касмічны эпізод, і той даўні. Ці не таму, што ўжо тры гады мінула, як Драздовіч зацікавіўся касмалогіяй? «Я — зменная натура, праз кожныя тры гады што-небудзь новае пачну, — прызнаецца ён. — І нішто ў мяне больш трох гадоў не трымаецца.(...) Тры гады я быў пастухом у падурослыя леты, а разам з гэтым тры гады лісаў вершы паводле тадышняй маёй граматы — у расейскай мове. Тры гады араў ды касіў. Тры гады патраціў на мастацкую школу і агульнае сваё развіццё — веды праз начытанасць. Тры гады мне належала служыць у салдатах, дзе й вучыўся медыцыне і агульнаму прыродазнаўству. Тры гады (з лішкам) працаваў яко фельчэр. Тры гады аддаваўся грамадска-супольніцкай працы. Тры гады пісаў як пісьменнік. Тры гады аддаваўся краязнаўству і этнаграфіі. Тры гады (з лішкам) пабываў мастацкім педагогам. І... ужо трэці год як вандроўны народны мастак...»

Не ведаю, наколькі адпавядае гэтая перыядызацыя сапраўднай біяграфіі Драздовіча, але што з касмічнай тэмай ён развітаўся — факт праўдзівы. З 1936 г. рэй пачынае правіць рэальнае жыццё. Менш робіцца згадак і аб маляванні — пераважаюць занатоўкі фэстаў, кірмашоў, вяселляў, сяброўскіх гулянак. Як быццам не здолеўшы адгарнуць новую старонку свайго лёсу, Драздовіч пачынае ісці па нейкім згубным крузе. Пераходы становяцца ўсё больш частымі, назвы вёсак аж мільгацяць уваччу: Баяршчына, Папкі, Пагоры, Ліпаўскія і Гуркаўскія хутары... Башкір (Ян Пачопка) аж захвалявўся, «куды я падзеўся, ці не ўсунуўся часам у Дзісёнку пад лёд?..» Пагоршыліся адносіны са Звінячым (М. Машарам). Той і раней, бывала, дапякаў сябра, высмейваючы яго дзіўныя сны, цяпер жа пераключыўся на незайздросную апратку.

Бессямейны, беспрытульны лад жыцця, вядома, не толькі не спрыяў разгарненню таленту, не толькі згубна адбіваўся на здароўі, але і падточваў знутры гэтую вытанчаную, прыгожую натуру. Акрамя таго, што сапраўды абнасіўся, з-за чаго і самому прыкра, заўважаем і іншыя трывожныя змены: усё часцей мільгаюць на старонках прызнанні тыпу: «хлюбнулі крыху на 50⁰ салодкай»...

Колішнія віленскія таварышы па-інакшаму сталі глядзець на яго, як бы звысоку, і мастак пакутуе ад гэтай абразлівай для яго дыстанцыі. Аддаліўся, не адказвае на лісты найблізкі сябра мастак П. Сергіевіч. І як бы ратуючыся ад творчых комплексаў і адзіноты, Язэп Драздовіч з галавой акунаецца ў чалавечы вір.

Людна зрабілася на старонках яго запісных кніжак. То стрэнем згадку пра пляменніка, які «пагіб жывым» — ажаніўся, то пра Башкіра мільгне забаўны эпізод, то чытаем пра дзеўчынёху, якая галасна плакала, згубіўшы рыжую цялушку... Аднаго ён суцешыць, другому падкіне якуюнебудзь ідэйку, напрыклад, капліцу пабудаваць... Спатканца на кірмашы з добрымі знаёмцамі — вялікая радасць для яго. І не толькі таму, што гады бяруць сваё (пад пяцьдзесят ужо), блізкай радні памянела, даўнія таварышы далёка і жывуць сваім жыццём. Да старасці ён здолеў захаваць у сабе дзіцячую непасрэднасць і, я сказала б, прагнасць да новых уражанняў. Знаёмы ў свой час з выдатнымі асобамі — сярод іх Л. Родзевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, І. Канчэўскі, М. Гарэцкі, У. Жылка, Р. Шырма — Язэп Драздовіч умеў кантактаваць і з простымі людзьмі, ад чаго абодва бакі мелі прыемнасць і ўзаемную карысць.

Мяняецца наўкол і жыццё. На падворках з'яўляецца тэхніка, нямала зменаў у побыце. Нават знешнасць людзей стала іншай: жанчыны перасталі насіць хусткі, аддаюць перавагу барэтам ці капялюшыкам. Як мастак прыкмячае ён прыгожыя, новых фасонаў, «да смаку» пашытыя сукенкі (прыгожаму ён заўжды радаваўся).

Вось адметны штрых да яго чалавечага партрэта: згледзеў каля чужога хутара дзвюх высушаных варон на шасце. Абурыўся і на зваротным шляху паўшчуваў гаспадыню сялібы, каб не гнявіла прыроду і дождж такім чынам не выклікала.

А суш тады стаяла неймаверная. І так блізка да сэрца ён прыняў гарачыню і магчымы голад, што неяк перад сном пачаў маліцца (што ўвогуле не практыкаваў): прасіў прыроду зжаліцца над людзьмі. А пад раніцу прысніўся яму сам Хрыстос. Раскланяліся яны адзін аднаму — «па-джэнтэльменску», а пад вечар таго ж дня насунулася хмара, пакрапіла сасмяглую зямлю. Не быў бы ён Драздовічам, каб не звязаў у адно сваю малітву, сон і доўгачаканы дождж....

УПЕРШЫНЮ ў 1936 г. трапляецца нам сведчанне таго, што дзённік Я. Драздовіч вёў усё ж не для сябе, не зусім для сябе ва ўсякім разе, хоць не дужа бярог густа спісаныя запісныя кніжкі. Як чалавек сапраўды творчы ён меў на ўвазе і магчымага чытача, а значыць — пісаў з прыцэлам на будучае. Праўда, сумненні апаноўвалі: «Пішу, пішу, а для каго ўсё гэта? Каму ўсё гэта цікава? Хто яго чытаць будзець?»

Мы прачыталі, Язэп Нарцызавіч! Ці бачыце сваю Айчыну з вышыні птушынага палёту?..

Праходзячы паўз Германовіцкія могілкі, заўжды маркоціўся: так і не змог выкупіць заказаную пліту на матчыну магілу. Схадзіў дзеля цікавасці да заезджага варажбіта-хіраманта. Той «надзяліў мяне ад 1939 году пятнаццацігадовым шчаслівым дабрабытам», радзіў змяніць мясцовасць. Наконт дабрабыту, на жаль, даў маху, а ў астатнім не памыліўся. 39 (год для Беларусі не абы-які!) плюс 15, атрымліваецца 54. У 1954 годзе мастак і памёр, цалкам растварыўшыся ў апошнія дзесяцігоддзі сярод вясковага люду. Як кропля ў агромністым акіяне.

Спадзяюся, вы зразумелі, якім ён быў, народны мастак Язэп Нарцызавіч Драздовіч. Няўдачнік, бедалага, беспрытульны бабыль. Творца, рамантык, захоплены мастацтвам і прыгажосцю роднай зямлі эстэт. Этнограф, дапытлівы вучоны-самавук, даследчык свайго фенаменальнага дару — пранікаць духам у звышрэальныя, так званыя тонкія светы. А перадусім — «чалавек жывой душы» (так ён характарызаваў аднаго са сваякоў). І гэта, бадай, галоўнае, дзеля чаго мы нараджаемся, жывём і паміраем.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

# «ЗОЛАК»: першыя крокі

**Тыя, каму пашчасціла набыць кнігу класіка турэцкай літаратуры Рашада Нуры Гюнцекіна «Птушачка пеўчая» (колькі часу назад па Цэнтральным тэлебачанні дэманстраваўся аднайменны мастацкі шматсерыйны фільм, які выклікаў сапраўдны ажыятаж), адразу звярнулі ўвагу, што яна выйшла не ў дзяржаўным выдавецтве, а выпушчана малым выдавецкім прадпрыемствам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Гэтая кніга —першая «ластаўка» «Золака», праўленне якога ўзначальвае намеснік старшыні рэспубліканскага творчага саюза Віктар СУПРУНЧУК.**

**Наш карэспандэнт папрасіў яго расказаць пра задачы, творчыя планы і праблемы (у каго іх сёння няма!) новага выдавецтва.**

— «Золак», — сказаў Віктар Пятровіч, — створаны рашэннем бюро рады Саюза пісьменнікаў Беларусі. Асноўная задача нашага малога выдавецкага прадпрыемства — сацыяльная абарона літаратараў, найперш пісьменнікаў-ветэранаў, маладых творцаў, якія належаць да людзей малазабяспечаных. Сёння, у складаны час пераходу да рынку, многія літаратары ў прамым сэнсе апынуліся за мяжой беднасці ці набліжаюцца да яе. Выдавецкія ганарары, калі ўлічыць няспынны рост цэн, проста мізэрныя. Я ўжо не кажу пра ганарары ў часопісах, газетах. А кніга ж пішацца не адзін год і не адзін год чакае сваёй чаргі ў дзяржаўных выдавецтвах. А пісьменніку і самому жыць трэба і сям'ю карміць.

Клопатам аб малазабяспечаных пісьменніках і кіраваліся мы, калі ўзяліся за выданне спачатку рускамоўнай кнігі. Рабілі гэта свядома, дзеля таго, каб «Золак» мог стаць на ногі. Пакуль што аказалі дапамогу ветэранам, інвалідам — іх у нашым творчым саюзе нямала. Разгледзелі і некаторыя індывідуальныя заявы. Скажам, у цяжкім матэрыяльным становішчы апынуўся паэт Мікола Федзюковіч, а ў дадатак у яго на ўтрыманні прыкаваная да ложка маці. Пайшлі насустрач і аднаму са старэйшых паэтаў Сяргею Новіку-Пеюну — дапамаглі яму выкупіць яго кватэру-аднапакаёўку. У бліжэйшыя месяцы, калі будзе аддрукавана чарговая партыя тыражу, мяркуем пералічыць значную суму на будаўніцтва кватэр для пісьменнікаў.

Працаваць жа «Золаку» вельмі і вельмі нялёгка, няпроста даецца нам выдавецкая дзейнасць. Скажу пра сябе: цэлы год не напісаў аніводнага радка. Увесь час забірае іншы клопат: і паперу неабходна дастаць (яе кошт ужо, як вядома, наблізіўся да дваццаці тысяч рублёў за тону), і друкарню знайсці. Іх у сталічным Мінску нямала, але большасць з іх працуюць, так сказаць, «на іншых», ахвотна падтрымліваюць розныя кааператыўныя выдавецтвы з Эстоніі, Літвы, Расіі. Мала таго, што загружаюцца выдавецкія магутнасці, якія павінны працаваць на карысць беларускага народа, але і вывозіцца за межы суверэннай дзяржавы капітал. Знайшлі мы аднадумца ў асобе дырэктара друкарні «Беларускі Дом друку» Б. Кутавога. Дзякуй яму за падтрымку, за разуменне.

У нашых чытачоў гатова ўзнікнуць пытанне: якія беларускія кнігі збіраецца выдаваць «Золак»? Канкрэтныя назвы пакуль называць не буду. У бліжэйшы час трэба чакаць зніжэння пакупной здольнасці людзей, у тым ліку і на кнігі. Таму мы вымушаны не адзін раз усё ўзважыць, перш чым выдаць тую ці іншую кнігу.

**Гутарыў А. ВІШНЕЎСКІ.**

## Алесь РАЗАНАЎ



# ВЕРШАКАЗЫ

## Век

Век спалучаны з усімі істотамі, але найшчыльней — з чалавекам.

Ён выяўляецца — і чытаецца — у яго твары і постаці, і калі па якой-небудзь прычыне век парушаецца, то нявечыцца і чалавек.

Век не аднолькавы са стагоддзем: ён утрымлівае ў сабе сваю меру, якая вымяраецца не проста часам, а самой непаўторнасцю часу, — і свой вектар, які скіроўваецца з пачатку ў канец, з маладзіка ў ветах, з раніцы ў вечар, з жыцця, якое падуладна зменам, у жыццё, якое зменам не падуладна,—у вечнасць.

Калі гарыць свечка, яна гарыць век, калі расце дрэва, яно расце век, калі жыве чалавек, ён жыве век, і які б гэты век ні быў — кароткі ці доўгі, роўны ці пакручасты, — ён усё роўна вялікі.

## Вежа

Апярэджваючы падзеі, вежа віжуе, што адбываецца за лесам, за полем, за паплавамі і нават далей, за мяжою самой зямлі, — у сузор'ях Вялікага Воза, Зайца, Касцоў, Вадаліва, — бо ад таго, што адбываецца сёння там, залежыць, што заўтра адбудзецца тут, дзе жыве вежа, —у Міры, Камянцы ці Нясвіжы.

Вежа пастаянна папаўняецца свежым запасам пітва, свежым запасам ежы і свежым запасам ведаў.

Адзежа вежы прыгожая — з чырвонай цэглы.

Вежа абведзена чароўным кругам сцярожкасці, які разнасцежваецца толькі перад сваімі.

Вакол вежы блукаюць, вяжучыся ў паданні, хвала і звяга.

Важкая, нібы старажытнасць, і стромкая, нібы свечка, пастаўленая на падсвечніку ўзгорка, вежа відаць абсягу і неабсяжнасці, і што б ні варажыў ёй вецер, ні дажджлівы дождж і ні снежны снег, для вежы самае важнае служыць абсягу і прыналежыць да неабсяжнасці.

## Певень

Сербскі петао, тупаючы нагамі і лапочучы крыллем, нібы ён намерваецца ўзляцець, можа, пяты, можа, пяцьдзесят пяты раз апантана пытае-дапытваецца, ці ёсць дзе-небудзь той сапернік, што здольны спаборнічаць з ім, і сваім апантаным пытаннем-дапытваннем пераконвае ўсіх—і перш-наперш самога сябе, — што няма.

Балгарскі петел «пытляваны» — выпрабаваны: ён называецца Петар і дае пятлю ўсім іншым пеўням у наваколлі, якія «ўляпетваюць» ад яго, як ад гарачай патэльні.

Славенскі petelin, як дырыжабль-цэпелін, вылеплен з неспатольнай прагі палёту; застаючыся целам на лінялым палетку зямлі, ён «ліецца» душою ў ільняны палетак нябёсаў.

Украінскі півень, сп'янелы ад акавітай кроплі вады і перапоўнены спеўным натхненнем, аб'яўляе на ўвесь белы свет, што наступіла вясна.

Беларускі певень пнецца на пень, упэўнены, што без пня ён не лепшы за пыльны венік, а на пні—лепшы за вабную паву.

Рускі петух хуткі на рух: ён тушыць полымя ўсходу і, калі ўсход патухае, ён ганарыцца, што гэта яго заслуга; ён ходзіць пехатою, але пастаянна памятае, што ён—птах, што ён—дух.

Царкоўнаславянскі пѣтель — вястун святла: з лета ў лета ўносіць ён лепту за лептай у перамогу багаслаўлёнай сілы, перакульваючы сваім спевам платы патаемных поцемных клятваў і распутваючы петлі адпетых замоў.

## Ноч

Ноч перайначвае рэчаіснасць: утойвае відавочнае і ўвідавочнівае патаемнае.

Учора — вечар, заўтра — раніца, сёння — дзень, і толькі ноч не мае свайго адпаведніка, які азначыў бы яе месца ў часе: яна — прысутнасць адсутнасці, нішто, ніякая, нічыя.

Ноч змыкае людзям вочы і адмыкае новыя — не бачныя для вачэй—далячыні.

Уначы, знітоўваючы зямлю і неба, палымнеюць знічы, коцяцца, знячэўку сарваўшыся з зорных галінаў, знічкі, а ў неабсяжных ночваў нябёсаў плавае месяц-човен.

Ноч як нябыт: хвіліна ў ёй не адрозніваецца ад вечнасці, пакута ад шчасця, пачатак ад завяршэння, набытак ад страты, і калі, скончыўшы свой чараўнічы сеанс, ноч растае, свет паўстае абноўленым, «нашчым», перапісаным начыста.

---

Барыс Сачанка

# Сустрэча з земляком

*апавяданне*

ЁН ПАЗВАНІЎ мне ў гасцініцу.

— Вы—Барыс Сачанка, пісьменнік?—спытаў глуха.—З Вялікага Бору?

— Так,—адказаў я, вядома, нямала здзівіўшыся: хто ведае мяне тут, у Парыжы, ды яшчэ што родам з Палесся—з Вялікага Бору? Прыехаў сюды я ўсяго якіх тыдні два таму назад у складзе дэлегацыі, нідзе, здаецца, пра гэта не пісалася ў друку, жыў ціха, непрыкметна, і раптам...

— Выбачайце, а вы хто будзеце?—урэшце, вырвалася ў мяне.

— Я ваш зямляк. Нарадзіўся таксама ў Вялікім Бары...

Гэта было ўжо цікава. Каб у адзін і той жа час апынулася два чалавекі з адной вёскі ды дзе—у Парыжы?!.

— Як вас завуць, якое прозвішча?

— Не спяшайцеся, я ўсё скажу. Вы маеце сёння час?

Час у мяне быў. Толькі што закончылася пасяджэнне ў штаб-кватэры ЮНЕСКА, я вярнуўся ў гасцініцу і прыкідваў, куды б пайсці, дзе б правесці вечар.

— Ды быццам я вольны. А што?

— Давайце сустрэнемся. Я пад'еду да вас на машыне, ну а дзе пасядзець, пагаманіць, месца знойдзем...

— Гм,—нібыта засумняваўся я.—Але ж... Я вас зусім не ведаю. Хто вы?

— Я ж сказаў—ваш зямляк. А каб вы пазналі мяне, вось прыкметы: буду ў скураной куртачцы, без шапкі, стаяцьму з ключамі ў руцэ ля машыны маркі «Вольва»...

— Вы мяне бачылі, мы сустракаліся?

— А як жа! Калісьці я бываў у вашай хаце. Той, яшчэ дзедаўскай, што стаяла пад ліпамі... Добра ведаў вашых братоў Колю, Пятра, ну і, вядома ж, цябе, Барыс. Так што не хвалюйся, апранайся ды выходзь з гасцініцы,—перайшоў на «ты» зямляк.—Я буду хвілін праз восем-дзесяць...

Штосьці загадкавае, таямнічае было ў гэтай тэлефоннай размове. І каб нешта падобнае прапанавалі мне раней, некалькі гадоў назад, калі бываў у замежных камандзіроўках, — я, вядома, разгубіўся б, пайшоў бы да кіраўніка дэлегацыі раіцца, як мне быць, што рабіць. Але цяпер, калі сітуацыя ў нашай краіне змянілася ў лепшы бок, змяніліся ў лепшы бок і адносіны за мяжою да тых, хто сюды прыязджаў—знікала падазронасць, перамагалі давер і згода... Ды і нейкі авантурны дух у мяне прабудзіўся...

— Добра,—сказаў я, і паклаў трубку.

Тыя восем-дзесяць хвілін, што заставаліся да сустрэчы з земляком, я правёў у роздуме, ва ўспамінах. Хто ён, гэты зямляк? «Калісьці я бываў у вашай хаце. Той, яшчэ дзедаўскай, што стаяла пад ліпамі... Добра ведаў вашых братоў Колю, Пятра і, вядома ж, цябе, Барыс...» Значыцца, калі мы і сустракаліся, дык у дзяцінстве. У вайну ці перад вайною... Бо каб тое было пазней, то, напэўна, была б успомнена школа ці нешта іншае. Але хто ў тыя далёкія ваенныя і даваенныя гады бываў у нас у хаце, з кім мы гулялі, таварышкавалі?

Успомнілася, паўстала ў вачах вёска Вялікі Бор,—доўгая шырокая вуліца, абсаджаная з абодвух бакоў хатамі, абгароджаная платамі—са штыкетніку, дошак, плятнёў. Наша хата стаяла бліжэй да грэблі, сапраўды пад дзвюма высокімі, галлістымі ліпамі. Насупраць нас, праз вуліцу, жыў дзядзька Кузьма з цёткаю Поляю. У іх не было дзяцей, і цётка Поля часта бавіла час у нас, гуляла з намі. А то і ласункі прыносіла—арэхі, гарбузікі, сухія грушы і яблыкі. З левага боку жыла Мархута, у яе былі дзве дарослыя дачкі—Каця і Маня... З правага боку нашымі суседзямі былі Рачанкі—вялікая сям'я, здаецца, пяцёра ці шасцёра дзяцей: два зусім дарослыя—Іван і Змітро, астатнія меншыя... З імі, меншымі, мы таварышкавалі. Прынамсі, да прыходу ў вёску немцаў... Тады ж, пасля таго, як сам стары Рачанка — Яўхім і яго два сыны Іван і Змітро сталі паліцаямі, пайшлі служыць да немцаў, дружба між нашымі сем'ямі разладзілася... Няўжо гэта хтосьці з Рачанкаў?.. Але ж яны быццам усе загінулі. І пра гэта мы даведаліся яшчэ ў вайну, калі немцы, спаліўшы нашу вёску, вывезлі нас у Германію. Быццам у той дом, дзе яны жылі, гэтак жа, як і мы, на чужыне, трапіла бомба...

Міжвольна закрадвалася хваляванне. Нават быццам страх.



«Я ж пісаў пра Рачанкаў у сваіх кнігах... І пісаў праўду—якія яны былі жорсткія, не мелі літасці да партызанаў і тых, хто быў з імі звязаны... І прагныя да чужога дабра, сквапныя—аднойчы нават залезлі да нас, суседзяў, на гарышча і забралі ўсё, што там было,—авечыя шкуры, сушаныя яблыкі, сала... А што, калі мае кніжкі трапілі яму на вочы і ён іх прачытаў?»—падумаў я пра земляка.

І як бы адгадка прыходзіла ў галаву, чаму ён не назваў свайго імя і прозвішча, не прызнаўся, хто ён.

«Няйнакш, уявіў, што калі прызнаецца, хто ён, я магу не выйсці да яго, збаюся».

Ужо не проста хваляванне, а трывога ахапляла мяне.

«Што калі ён пасадзіць мяне ў сваю машыну, вывезе з горада і пaквітаецца? І ніхто ведаць не будзе, куды я пайшоў, што са мною здарылася?»

Набраў на ўсякі выпадак тэлефон кіраўніка дэлегацыі, каб сказаць, куды і да каго я іду.

Але тэлефон маўчаў, ніхто да яго не падыходзіў,—няйнакш, кіраўнік пайшоў на чарговы прыём у штаб-кватэру ЮНЕСКА ці ў нейкае замежнае прадстаўніцтва.

Што было рабіць? Не пайсці на гэтую сустрэчу?

Не, авантурны дух браў верх. Ды і цікавасць разбірала—хто ён, гэты зямляк, чаму апынуўся тут, у Парыжы?

На ўсякі выпадак—ці мала што магло са мною здарыцца?—напісаў запіску, куды і да каго іду, паклаў яе на тумбачку і, паглядзеўшы на гадзіннік, пакіраваўся да выхаду.

Зямляк мяне ўжо чакаў. Я адразу ж пазнаў яго—ён сапраўды быў у скураной куртачцы, без шапкі, з ключом у руцэ. І стаяў каля карычневай — «шакаладнай» —«Вольвы».

Я падышоў да яго, падаў руку.

— Вы, мабыць, мой зямляк, — сказаў я.

— Ага, — усміхнуўся ён. Быў ён вышэйшы за мяне ростам, ды і па гадах старэйшы. Але падцягнуты, стройны. Зусім француз. З моцным, з гарбінкай, носам, роўнымі белымі зубамі. Паглядзеўшы яшчэ раз больш уважліва на яго, я зрабіў вывад: не, яго я не бачыў, сустракаюся ўпершыню ў жыцці. Ці падобны ён быў на Рачанкаў, пароду якіх я ведаў, помніў? Здаецца, не. Тыя былі чорныя, цыганістыя, ну а гэты... Нейкі руды, сівы.

— Сядай у машыну, — як не загадаў мне зямляк. — Паедзем, а то тут стаянка забаронена. Таго і глядзі паліцэйскі наскочыць і аштрафуе...

І паслужліва адчыніў пярэднія дзверцы.

Я паслухмяна плюхнуўся на сядзенне. І, пачакаўшы, калі зямляк аббяжыць машыну, сядзе побач са мною за руль, сказаў:

— Куды мы паедзем? Можа, зайшлі б да мяне ў нумар і пагаманілі б. Я жыву адзін, нам ніхто не будзе перашкаджаць...

— Не, рашуча захітаў галавою зямляк. — Паедзем у рэстаран, я закажу вячэру, там і пагамонім...

Ну што ж, рэстаран ёсць рэстаран. Добра, што не ў лес, за горад,—падумаў я і як бы нават трохі супакоіўся, павесялеў.

Па тым, як выварочваў зямляк машыну на дарогу, потым вёў яе па вячэрніх, асветленых агнямі, вуліцах Парыжа, я зразумеў: шафёр ён адмысловы, класны. Не стрымаўся, пахваліў:

— А машыну вы водзіце ўсё адно, што на піяніна іграеце...

— Дык жа я таксістам тут, у Парыжы, гадоў дзесяць працаваў...—усміхнуўся зямляк.— Ды і пасля ўвесь час, можна сказаць, за рулём. Без машыны тут як без рук... А ў нас там, у Беларусі, — хіба не так?

— Не, у нас многія жывуць без машыны, — сказаў я. — Грамадскі транспарт выручае. Ды і машына лічыцца раскошай, не кожны можа яе купіць. Дарагія яны ў нас.

— Я трохі сачу за друкам, чытаю, што пішуць газеты пра жыццё там, у нас, — прызнаўся зямляк. — Але вось каб так непасрэдна пагаварыць са сваім чалавекам, ды яшчэ з адной вёскі... Не даводзілася. Можна сказаць, упершыню...

— Цікава, адкуль вы даведаліся, што я тут, у Парыжы? —спытаў я.

— З газет. Прачытаў, што ў ЮНЕСКА быў вечар, прысвечаны Максіму Багдановічу, і там выступаў пісьменнік Барыс Сачанка... А я ведаў, што Сачанкі з нашай вёскі... І што ў іхняй сям'і ёсць пісьмен-

## Грыб

Дзе грыб, там любы краявід набывае асаблівую прывабнасць, і сярод многіх хваін і бярэзін грыбнікі абіраюць для пакланення якраз тую бярэзіну і тую хваіну, пад якою бачыцца грыб — самы праўдзівы і ганаровы герб любога гербарыю.

Нібы хатка Бабы-ягі, грыб стаіць на адной назе, акрыўшыся рабою страхоюмагеркаю, і, як гібрыд, спалучае ў сабе стромкае і круглае, пляскатае і пукатае.

Хоць грыбовы век нетрывалы, але ў бары і ў лесе ён гэтакі самы абарыген, як стогадовыя дрэвы.

Грыб—горб, што ўзнікае як рывок «паграбовай», спадсподняй напругі ў невядомае вымярэнне, насустрач дажджу і небу, вузел, што звязвае раз'яднаныя рухі прыроды ў адно.

Грыб чуйны і далікатны, як рыбіна, і калі што-небудзь з надвор'ем не так, ён гэтаксама, як рыбіна, выкінутая на бераг, гіне і прападае.

Грыб усім падабаецца, ім не грэбуе ні славянін, ні габрай, ні селянін, ні бюргер.

## Збан

Збан лепіцца з багны—з гліны, загартоўваецца на агні, а выпрабоўваецца ў штодзённым ужытку-побыце.

Калі збан парожні, ён адзываецца сваёй звонкаю іпастассю, калі поўны — глухой.

Як найбольшае багацце, як самую сваю душу, збан зберагае ўнутраную пустату: дзякуючы ёй, збан не хвілінная забаўка, а заўсёдны здабытак, і можа зноўку і зноў напаўняцца ўсё новым змесцівам — вадою, віном альбо малаком.

Звычайна збан стаіць на стале, на паліцы альбо вісіць — калі сохне—на плоце, але варта яму ўзбунтавацца і ўпасці вобзем, ён тут жа разбіваецца і, пазбаўлены душы-пустаты, становіцца грудаю ачаропкаў.

Ці гэта банкет, ці базар, ці любы іншы збор — усюды, дзе прысутнічаюць людзі, прысутнічае і збан.

Да збана чэпяцца забабоны, але ён не звяртае на іх увагі, ён безупынна абнаўляецца, і гэтае безупыннае абнаўленне абараняе яго і ад абагаўлення, і ад забыцця.

## Срэбра і золата

Срэбра зрэбнае: яно блізкае простаму людскому жыццю, шэраму на выгляд, шурпатаму навобмацак.

Золата аздобнае: заўсёды і ўсюды яно пачувае сябе волатам, які ўсё можа і якому ўсё дазволена, і тыя прарэхі і дзіркі, што нічым ужо нельга залатаць, латва залатваюцца золатам.

Адны сцвярджаюць, што зло паходзіць ад золата, другія — што золата паходзіць ад зла, але, зрэшты, зло і золата зрошчаны такім чынам, як зрошчана ў самой сабе лотаць: калі яна зялёная—яна ў перыядзе «зла», калі яна жоўтая — яна ў перыядзе «золата».

Срэбра — месяц, золата — сонца, срэбра — попел, золата—жар, золата—ад розуму, срэбра—ад сэрца, срэбра—сябар, золата — уладар, срэбра бярэцца, золата хаваецца, срэбру радуюцца, золату зайздросцяць, срэбра цешыць, золата лашчыць.

Канчаецца ноч, і золак спяшаецца ўзяць сабе хросным золата, а світанак—срэбра.

## Каса

Каса — косая, аднак там, дзе яна праходзіць, застаюцца чыстыя, без касмыкоў, касынкі лугоў і роўныя каснікі пакосаў.

Каса не спакушаецца славай і не выстаўляецца напаказ: яна толькі першаю, у расу, каштуе тыя «смакосы», якія пасля будуць каштаваць каровы і козы.

Каса касуе ўсё, што ўзводзілі вясна і лета: яе кранае не краса званцоў, касачоў ці каласоўнікаў, а косінусы і тангенсы стасункаў з імі.

Пасада ў касы каставая—ад Касандры: яна прадказвае ўсім аднолькавы лёс і сама ж вершыць яго.

На касу, як на смерць, касавурацца гусакі, на касу сыкае асака, яе кусаюць камяні, ад яе адкасоўваюцца кусты, але, вітаючыся з ёю, касу касец Ясь і — развітваючыся з ёю —касінер Кастусь.

## Пень

Усе дрэвы пазіраюць на пень звысоку, але ён і не пнецца ўгору, каб з імі зраўняцца: ці ліпень, ці кіпень, ці хліпень, ён — тойсамы, ён — нерухомы, ён — дрэва на пенсіі, ён адмежаваны ад вышыні, якая прымушае дрэвы цвісці, хваляваецца, упадаць у роспач і аддавацца надзеі, і таму ён упэўнены ў сабе, і таму ён ні перад кім не гне спіны, і таму ніколі не збіваецца з панталыку, і таму ў сваіх пенатах ён пан.

Пень — не кволая, а спелая, не папярэдняя, а наступная ступень існавання дрэва.

Аб пень спатыкаюцца.

Ля пня спыняюцца.

На пень наракаюць («пеняют»).

Пень успамінаюць у казках і прыказках, і сам ён—памяць, у спіралях якой спяць мінулыя леты.

Быццам жывыя манеты-пенязі, пень абсядаюць апенькі.

Да пня, каб пачысціць глюгу, ляціць груган і, каб паспяваць, — пеначка.

---

нік... Барыс, якога ж я, вядома, калісьці бачыў... Вось і захацелася сустрэцца...

І зямляк паглядзеў на мяне неяк надта ж даверліва. І ўсміхнуўся.

— Цябе, Барыс, напэўна ж, цікавіць, хто я... Не сумнявайся, я з Вялікага Бору... Калісьці сябраваў з тваім братам Колем... Дарэчы, як ён, як склалася ў яго жыццё?

Я апусціў галаву, выдыхнуў з сумам:

— Яго, на жаль, няма жывога.

— Праўда? — аж тармазнуў машыну зямляк. — І даўно?

— Не, з леташняга года... Вы ж, мабыць, чулі пра аварыю ў Чарнобылі... Гэта за якіх пяцьдзесят кіламетраў ад Вялікага Бору. А старэйшы мой брат жыў там жа, дома, у вёсцы... Ну і не пазбег шкодных уплываў гэтай бяды... Здарыўся інфаркт... А потым лёгкія спаліла радыяцыя... Памёр у няпоўных шэсцьдзесят...

— А як жыў ён?

— Ну, да Нямеччыны вы ўсё ведаеце... Там жа, на чужыне, працаваў, як і ўсе, на ферме ў пана. Вызвалілі нас амерыканцы, мы вярнуліся на радзіму. Вучыцца больш ён не змог. І дастатку не было вельмі, ды і не давалі такім, як ён, вучыцца. У Сібір нават нашу сям'ю хацелі выслаць. Хвала Богу, неяк перабылося. Ён жаніўся, нарадзілася ў яго трое дзяцей — два сыны і дачка. Дзеці выраслі, атрымалі вышэйшую адукацыю... А ён так і пражыў жыццё ў вёсцы. Трохі, вядома, выпіваў, як, дарэчы, і ўсе цяпер у нас...

— А Пятро?

— Пятро жыве. Там жа, у Вялікім Бары. Ён таксама не вучыўся. Служыў у арміі, працаваў у калгасе... Мае трое дзяцей, усе яны дарослыя...

— Ну а ты стаў пісьменнікам, — паглядзеў на мяне неяк быццам нават з гонарам зямляк.

— Ды нібыта так, — усміхнуўся я. — Мне пашанцавала — Сталін памёр. Тады многае змянілася ў нашай краіне. І да такіх, як я, як уся наша сям'я пачалі інакш ставіцца... Было дазволена вучыцца, не толькі на полі ці на заводзе працаваць...

— Словам, не ўсё і ў вас добра было, — як бы заключыў, выслухаўшы мяне, зямляк. — Хапіла гора...

Чаго-чаго, а ліха хапіла, — згадзіўся з аднавяскоўцам я. — Ды і цяпер у Вялікім Бары яго хапае. Быў нядаўна я там. Адбудаваліся людзі, балоты паасушалі... Жыць жа думалі. А тут гэтая аварыя. Ні то высяляцца, ні то жыць. Маладзейшыя, здаравейшыя паз'язджалі. Хто куды, сёй-той — аж у Казахстан, на Сахалін... Некаторыя пазаставаліся. І што? Цяпер амаль усе хварэюць, кожны дзень пахаванні...

— Я чуў пра Чарнобыль. Але не думаў, што гэта так страшна. У Францыі ж не любяць успамінаць гэтую чарнобыльскую бяду. У іх сваіх атамных электрастанцый шмат. Дабрабыт Францыі грунтуецца якраз на атамных электрастанцыях. Інакш давялося б купляць нафту, вугаль, мазуту... Колькі на гэта трэба грошай! Таму французы мала пішуць пра чарнобыльскую аварыю. Дый тут не думаюць пра тых, каму добра ці дрэнна. Кожны дбае перш за ўсё пра сябе...

Зямляк раптам збавіў хуткасць, павярнуў машыну на ўзбочыну, затармазіў. Сказаў:

— Вось мы і прыехалі. Адсюль некалькі крокаў да рэстарана, дзе я хацеў з табой пасядзець.

Спярша я, потым ён выйшлі з машыны. Я не так добра ведаў Парыж, каб адразу зарыентавацца, дзе мы. Таму стаяў, аглядаў дамы, што былі насупраць, з бакоў і ззаду, сілячыся даўмецца, дзе, у якім мы раёне.

— Гэта Манпарнас, — адказаў зямляк. — Можа, чуў, тут ёсць некалькі знакамітых рэстаранаў і кавярняў, дзе бывалі вядомыя людзі, у тым ліку і пісьменнікі. Напрыклад, Хемінгуэй, Генры Мілер, яшчэ раней — Апалінэр... Мяркую, ты чуў гэтыя імёны... Вось у адзін з такіх рэстаранаў мы і зойдзем...

— Там, мусіць, дарагоўля, — памяўся я.

Пра гэта не думай. У мяне ёсць грошы. Ды і не так часта я сустракаю тут, у Парыжы, людзей са сваёй вёскі. Першы, можна сказаць, раз. І калі яшчэ хто з вялікаборцаў тут будзе. Невядома. Можа, і ніколі.

— Вы б пра сябе хоць трохі расказалі, — падняў вочы я на земляка, паглядзеў яму проста ў твар. — А то нават зваць, звяртацца да вас не ведаю як.

Здалося на хвіліну — так, быццам я калісьці гэтага чалавека бачыў. І быў гэта, няйнакш, хтосьці з Рачанкаў.

«Але ж, казалі, яны ўсе загінулі», — успомніў я. «Мог хтосьці і не загінуць, застацца жыць...»

— Я тут не пад сваім прозвішчам і не пад сваім імем, — звёў на пераноссі бровы, сціснуў неяк задумліва вусны зямляк. — Заві мяне, як усе тут завуць — Жак... А пра сябе, сваё жыццё я раскажу. Вось сядзем за столік, закажам сёе-тое... І я ўсё, усё раскажу...

Мы прайшлі па тратуары некуды ўбок, выйшлі на ярка асветленую вуліцу, спыніліся перад шырокімі дзвярыма рэстарана, назва якога была мне знаёма — «Ратонда». Знаёма перш за ўсё па творах, якія я чытаў. У свой жа час тут, у Парыжы, нават раман пад такой назвай выйшаў. Яго напісаў папулярны ў свой час пісьменнік, якому даў дарогу ў сваіх «Знаниях» Максім Горкі — Ілья Сургучоў; потым, як і некаторыя іншыя пісьменнікі, ён пасля рэвалюцыі падаўся ў эміграцыю і жыў тут, у Парыжы.

Вядома, калі мы адчынілі дзверы, зайшлі ў рэстаран, я з цікавасцю пачаў аглядаць усё, што траплялa на вочы, — афіцыянтаў у чорных фраках і белых-белых, як снег, кашулях, столікі на двух, на трох і на больш асоб, люстры, што кожная, здаецца, свяціла, як сонца ў спякотны летні дзень, тых наведвальнікаў, што сядзелі тут і там, паціху размаўляючы, курачы і штосьці п'ючы з высокіх крышталёвых фужэраў і чарак...

Мой зямляк — Жак, мусіць, бываў у «Ратондзе», яго тут ведалі, бо ён час ад часу ківаў галавою, з кімсьці вітаўся. Ішоў ён па зале даволі хутка, я ледзь паспяваў за ім, аж пакуль не спыніўся ля століка, што стаяў як бы ў куце, ля вакна. Мы селі адзін насупраць аднаго, Жак адразу ж паклікаў афіцыянта, зрабіў заказ. З усяго, што я зразумеў, былі словы «каньяк», нейкая марка віна, якую я не запомніў, вустрыцы... Жак яшчэ нешта сказаў напаследак афіцыянту і той не пайшоў, а проста памчаўся, пабег.

— Што вы яму сказалі? — пацікавіўся я ў Жака.

— Я папрасіў, каб ён як найхутчэй прынёс нам каньяк...

— Але ж вы не спыталі, ці п'ю яго я. Ды і ці есці буду тыя вустрыцы, — як бы пажурыў я земляка.

— Гэта сапраўды так, — нібыта павінаваціўся перада мною Жак. — Але, мяркую, адзін раз вып'еце. І закусіце вустрыцамі... А потым пададуць нам мяса. Заказаў я і пражаныя каштаны. Гэта добра таксама пасля каньяку...

— Ну што ж, дыктаваць я вам не магу. Вы тут гаспадар, вы частуеце. Я нявольнік... — склаў я, як перад малітвай, рукі.

— Вы ж хацелі, каб я расказаў пра сябе, — цяпер ужо як бы Жак папракнуў мяне. — А я не магу пра гэта гаварыць, пакуль не вып'ю. Бо жыццё маё... Таксама ж склалася не лепшым чынам... Як вывезлі немцы з вёскі, ды і... Сам ведаеш, кім былі мы для немцаў. Рабсіла, інакш — проста рабы. Працуй, выконвай, што загадаюць, і маўчы. І гэтак два доўгія, як вечнасць, гады! А бамбёжкі, што неўзабаве пачаліся! Іншы ж раз здавалася, зямля ўся гарыць, месца нідзе табе няма... А мы на заводзе працавалі... За калючым дротам... І як наляталі самалёты, дзе хочаш дзявайся... Бацьку, маці маіх забіла... І братоў старэйшых... Адзін я застаўся...

«Значыцца, хтосьці з Рачанкаў, — падумаў, заключыў я. — Вось толькі чаму жылі за калючым дротам? Быццам жа даверанымя немцам людзі — былыя паліцаі?»

Спытаць пра што б там ні было ў Жака я не паспеў — з'явіўся ля нашага століка афіцыянт, пачаў наліваць у чаркі каньяк.

Потым падаў вустрыцы, долькі лімона, сярэбраныя нажы, лыжачкі.

— Ты еў калі-небудзь вустрыцы— спытаў у мяне Жак.

— Не, не даводзілася...

— То я пакажу табе, як гэта робіцца... Зусім усё проста... Бярэш ракушку, расчапляеш яе ножыкам, вось так, — паказаў мне Жак. — Выціскаеш некалькі кропель лімона, бачыш, як вустрыца сціскаецца. Цяпер бярэш лыжачку, зачэрпваеш яе, і — у рот...

— Жывую? — аж не паверыў я.

— Ага! Гэта смачна! Давай!

Мы чокнуліся, выпілі па чарцы каньяку. Добрага — ці не «Напалеона», бо адразу ж быццам цяпло палілося ў сярэдзіну, пачало грэць, перабіраць усё ўнутры. Я ўзяў вустрыцу, расчапіў яе сярэбраным нажом, і, як навучыў мяне Жак, выціснуў на яе некалькі кропель лімоннага соку, падчапіў лыжачкой тое, што там было, і ўкінуў сабе ў рот. Жаваць не стаў — праглынуў, адчуваючы холад і смак лімона. Запіў тым сокам, што заставаўся ў ракушцы.

— Ну як? — спытаў у мяне Жак.

— Не разабраўся, — прызнаўся я.

— А ты яшчэ адну вазьмі... Ды пажуй, разбярыся...

Хоць і не хацелася мне, але я ўзяў яшчэ адну ракушку, расчапіў яе, укінуў вустрыцу ў рот, пажаваў. Так, Жак казаў праўду—гэта было незвычайна смачна.

— Ну? — спытаў зноў у мяне Жак. — Праўда ж смачна, добра.

Я не мог не згадзіцца з ім, кіўнуў галавою.

— Дык вось, — вярнуўся Жак да перапыненай размовы.—Адзін я застаўся... Куды мне было падавацца? Дадому, у вёску? Але ж што мяне там чакала? Са мною на заводзе працаваў галандзец Ёхім. Ён і ўпрасіў мяне паехаць з ім. Я згадзіўся. І калі нас вызвалілі англічане, я паехаў з Ёхімам. Два гады працаваў на ферме. Жыць можна было, але сумоцішча — не давядзі Бог. Ферма — бардарай па-іхняму—далёка ад горада, навокал ні жывой душы. Гаспадар, гаспадыня ды іх дзеці... Пакінуў я ферму, у горад перабраўся... Адтуль—у Бельгію, а потым—у Амерыку. У Амерыцы жыць, вядома, весялей... Але сам таго не хочучы, трапіў я ў адну з сумніцельных арганізацый... Грошы завяліся ў мяне... Але каб жыць па-людску—не выпадала... Кожную ж хвіліну маглі арыштаваць... Ды што арыштаваць — забіць...

(Працяг на стар. 12).

**Напярэдадні з'езда Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі ў Доме работнікаў мастацтваў адбылася творчая канферэнцыя, асноўным зместам якой было абмеркаванне вынікаў развіцця беларускага сцэнічнага мастацтва за мінулыя 5 гадоў.**

**У канферэнцыі бралі ўдзел: Р. Смольскі, загадчык аддзела тэатра ІМЭФ АН Рэспублікі Беларусь, а таксама крытыкі і тэатразнаўцы — супрацоўнікі аддзела; ад Міністэрства культуры — В.Валадзько; рэдакцыя часопіса «Тэатральная Беларусь» на чале з галоўным рэдактарам А. Сабалеўскім; рэжысёры Б. Луцэнка, А. Андросік, У. Караткевіч, В. Баркоўскі; ад Саюза тэатральных дзеячаў — М. Яроменка, К. Белавусаў, Г. Забэла.**

# БЕЛАРУСКІ ТЭАТР ЗА ПЯЦЬ ГАДОЎ

## Што сказалі крытыкі

Справаздачу рабіў Р. Смольскі і пачаў з таго, што тэатр згубіў гледача. Асноўную прычыну калега бачыць у тым, што сцэнічнае мастацтва перажывае, так бы мовіць, пераходны перыяд. Раней тэатр быў татальна ідэалагізаваны і слугаваў нейкай ідэі; вядома, ідэя дыктавалася партыяй, кіруючай і накіроўваючай. А сёння, калі тэатру можна і не слугаваць, ён разгубіўся — у якім кірунку развівацца. (Ад сябе заўважу толькі, што ў тыя, застойныя гады, амаль бясспрэчны поспех меў тэатр, які ў той ці іншай ступені супрацьстаяў сістэме, хоць бы паводле прынцыпу так званай «дулі ў кішэні»).

Р. Смольскі падкрэсліў, што ён заўсёды лічыў тэатр мастацтвам элітарным, і тэатральная сітуацыя апошніх гадоў гэта падкрэслівае — сцэнічнае мастацтва не павінна выконваць аніякіх функцый, акрамя эстэтычных. І ў гэтай сувязі вялікая роля належыць тэатральнай крытыцы, якая, скінуўшы «ідэалагічныя путы», павінна зрабіцца вольнай. Дакладчык узняў і праблему так званай «кішэннай» крытыкі, калі некаторыя тэатральныя крытыкі становяцца нібыта летапісцамі таго ці іншага творцы, часцей рэжысёра. Аб'ектыўнасць іхніх адзнак губляецца. Безумоўна, можна пагадзіцца з Р. Смольскім наконт таго, што супрацьстаянне практыкаў тэатра і тэатральнай крытыкі — прыклад нармальных творчых узаемадачыненняў, на якіх грунтуецца сапраўднае развіццё тэатра.

Пасля разважанняў наконт сённяшняй тэатральнай сітуацыі Р. Смольскі звярнуўся да канкрэтных вынікаў «пяцігодкі».

У галіне драматургіі былі названы імёны маладых і шматабяцаючых У. Бутрамеева, М. Арахоўскага, І. Масляніцынай, тых, хто толькі нядаўна ўвайшоў у тэатральнае жыццё Беларусі, але з першых пастановак на прафесійнай (часцей сталічнай) сцэне іх імёны «загучалі». Шкада, заўважыў дакладчык, што маўчыць Аляксей Дудараў — пасля не вельмі ўдалай «Звалкі» акрамя некалькіх інсцэніровак мы не чыталі аніводнай ягонай новай п'есы. Будзем думаць, што гэты перапынак часовы.

Як лічыць дакладчык, лідэрам у сённяшнім тэатральным жыцці бясспрэчна з'яўляецца Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы на чале з мастацкім кіраўніком В. Раеўскім. Сярод дасягненняў былі названы спектаклі «Мудрамер» М. Матукоўскага і «Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева (пастаноўшчык спектакляў — В. Раеўскі). Да няўдач тэатра Р. Смольскі аднёс такія спектаклі, як «Надзежда Путніна...» і «Цынкавыя хлопчыкі». Апошні быў пакінуты крытыкам «па-за межамі мастацтва». «Мастак існуе не дзеля таго, каб вяшчаць прапісныя ісціны»,— такую рысу падвёў Р. Смольскі пад першаю часткаю справаздачы.

Р. Смольскі звярнуў увагу на тое, што, калі меркаваць па публікацыях у прэсе, «героем нумар адзін» у рэжысуры з'яўляецца М. Пінігін са спектаклем «Тутэйшыя». «Але,— працягваў Р. Смольскі,— я не падзяляю агульнае захапленне гэтай пастаноўкай, і вось чаму. Сапраўдны тэатр павінен аб'ядноўваць залу, спектакль «Тутэйшыя» гэтую залу падзяляе — на «тутэйшых» і «нетутэйшых». І яшчэ. У спектаклі існуе эклектыка — элементы эстрады, пародыі, п'еса ж Янкі Купалы значна глыбей — яна аб чалавеку, які не ў якім становішчы не знаходзіць сабе месца». Крытык дапускае, што з гэтай думкай можна і не пагаджацца. Прымаць спектакль ці не — справа асабістая. Між іншым толькі заўважу, што прыём стылізацыі пад батлейкавы тэатр найлепшым чынам адпавядае думцы пра чалавека-марыянетку, чалавека-ляльку ў чужых палітычных гульнях...

Да ўдач быў аднесены і адметны спектакль Б. Луцэнкі «Гамлет» у Тэатры-студыі кінаакцёра. «Дарэчы, — заўважыў дакладчык,— Барыс Іванавіч Луцэнка заўжды мае сваю асабістую думку наконт той ці іншай п'есы, да якой звяртаецца. І погляд ягоны, часам небясспрэчны, заўсёды цікавы». На думку Р. Смольскага, Рускі тэатр сёння перажывае перыяд надзей у сувязі з прыходам новага мастацкага кіраўніка Барыса Луцэнкі. Шкада толькі (і, як мне падаецца, гэта пакрыўдзіла і Б. Луцэнку), ні слова не было сказана пра тыя спектаклі, якія за год сваёй працы ён ажыццявіў на сцэне Рускага тэатра — «Прасцячкі Нечаканых астравоў» Б. Шоу ды «Хрыстос і Антыхрыст» Д. Мераждкоўскага.

Імя рэжысёра В. Маслюка, які сёння, на жаль, акрамя вучэбнай сцэны, нідзе пра сябе не заяўляе, было згадана ў сувязі з паспяховым спектаклем 1987 года «Начныя карлікі і Антыгона». «Астатняя ягоная дзейнасць у Рускім тэатры засмуціла»,— канстатаваў Р. Смольскі.

Да дасягненняў быў аднесены і спектакль В. Катавіцкага «Неверагодны ілюзіён Эрні». На жаль, пра Маладзёжны тэатр, вакол якога некалі вяліся спрэчкі, больш нічога сказана не было. Апошнія ягоныя работы — «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Вільгельм Тэль» засталіся без увагі, але на В. Катавіцкага разам з М. Пінігіным Р. Смольскі ўскладае спадзяванні на далейшае развіццё беларускага тэатральнага мастацтва.

Некалькі слоў было сказана пра тэатры-студыі Р. Таліпава, М. Трухана, В. Баркоўскага, В. Мазынскага, якія «сёння ідуць сваім шляхам». Шкада, што не былі згаданы ні музычныя тэатры, ні лялечныя і, шчыра кажучы, тэатры-студыі, якія сёння шмат у чым вызначаюць тэатральны працэс, не былі дэталёва прааналізаваны. А нядаўні ж фестываль «Студыйныя каляды-91» жорстка прадэманстраваў вельмі незайздроснае становішча і сталых, і толькі-толькі ўзнікшых калектываў. Купалаўскі, Рускі — вось на чым па старой звычцы сканцэнтравана ўвага. Але, шчыра кажучы, ці яны сёння ў авангардзе эстэтычных пошукаў беларускага тэатра?

Р. Смольскі прапанаваў па-новаму зірнуць на тэатр у сучасных умовах. (Вядома, што славуты «эксперымент» пацярпеў крах, бо тэатр не можа сам зарабляць сабе на жыццё, гэта давяла і сусветная практыка). У адпаведнасці з новым позіркам крытыка тэатры мусяць быць размеркаваны па групах — «нацыянальныя», «вядучыя рэспубліканскія» і, відаць, «астатнія». Крытэрый — памер дзяржаўнай датацыі. Зразумела, першая група будзе атрымліваць больш за другую. І, паводле Р. Смольскага, тэатры будуць мець стымул для пераходу з адной катэгорыі ў іншую, больш заможную, так бы мовіць. (Але, на маю думку, што атрымаецца, калі нашы тэатры пачнуць спаборнічаць паміж сабой? У тэатры, як мне здаецца, мусіць панаваць «мірнае суіснаванне», а не тое ці іншае спаборніцтва. А як вызначыць крытэрыі

# ВАКОЛ НЯСПРАЎДЖАНАГА

## Зноў пра фестываль, які не адбудзецца

**Здань блукае па тутэйшых мастацкіх абшарах, — здань гэтак званых рынкавых дачыненняў. Палохацца іх ці мроіць пра іх, альбо спадзявацца праз іх у хуткім часе пасунуцца ў Еўропу — да тамтэйшых зданяў усеагульнага прагрэсу? Першыя вынікі ды ўласныя пачуцці асэнсоўвае дырэктар Беларускага міжнароднага фестывалю тэатраў лялек, дырэктар Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі Яўген КЛІМАКОЎ.**

**— Такім чынам, лялечны фестываль, такі патрэбны, доўгачаканы ды непаўторны (без ценю іроніі) сёлета не адбудзецца...**

— Усе кропкі над «і» паставіў званок з Міністэрства культуры рэспублікі: сродкаў няма. І не будзе ў хуткім часе. Фестываль прапанавана перанесці на наступны, 1993 год. Але ні ў мяне, ні ў Аляксея Ляляўскага, галоўнага рэжысёра тэатра (а менавіта на базе нашага тэатра ладзяцца падобныя фестывальныя агледзіны), няма ўпэўненасці, што сродкі з'явяцца. Прыкра. Сёння мы звязаны з тым колам тэатраў па ўсім свеце, якое вымагае пэўнасці, дыхтоўнасці кожнай нашай прапановы, запрашэння ці абяцання. Нават калі ў наступным годзе і знойдуцца сродкі, дык тэатры, так бы мовіць, сёлетняга ўзроўню сур'ёзнасці могуць і не знайсціся. Крэдыт даверу — гэта вельмі сур'ёзна. Акрамя маральных ды этычных выдаткаў існуюць і не абы-якія матэрыяльныя. Французскі, галандскі, нямецкі, бельгійскі, ізраільскі тэатры мусілі адкладаць ці скасоўваць гастролі (якія аплачваюцца валютай), планаваць сабе Беларускі фестываль за год да ягонага пачатку. Ведаючы сітуацыю ў нашай краіне, яны прыязджаюць сюды нібыта з дабрачыннай місіяй (прывезці па два спектаклі — гэта ж не жартачкі!), бо аплату ў рублях, якую можна ў нас атрымаць, можна лічыць сімвалічнаю.

**— Прыкра, зразумела, тым больш, што наракаць нібыта і не выпадае: варункі не спрыяюць. Дый той, хто прыняў канчатковае рашэнне адмяніць фестываль тэатраў лялек, магчыма, ахвяраваў ім з цяжкім сэрцам, — даўно вядома здольнасць беларускіх лялечнікаў абыходзіцца найменшым з меншага. Былы фестываль, да прыкладу, каардынавала шэсць чалавек...**

— А збірала два — Ляляўскі ды Клімакоў. Бо ўсе фестывалі, падобныя да нашага, трымаюцца на асабістых дачыненнях ды сімпатыях.

**— А якім чынам прыватныя кантакты-сімпатыі можна ўмацаваць да такой ступені, што пры далёкіх пакутлівых пераездах сяброўскія бакі не бяруць пад увагу нават свае ўласныя выдаткі?**

— Гэта была праца не аднаго года. Напрыклад, мы занялі менеджэра ў Галандыі — каардынатара УНІМА Нідэрландаў. Яна паглядзела «Дзеда і жорава» на фестывалі ў Бохуме, а пазнаёмілася з намі крыху пазней, у Югаславіі... Між тым матэрыяльны бок справы ў «іх» істотна розніцца з нашым. Хто б з-за мяжы не патрапляў у Дзяржаўны лялечны, заўсёды далікатна так пытаецца: а чаму ў вас такая вялікая трупа? А што робяць артысты, якіх на сцэне не відаць? А навошта вам такі вялікі цэх, які не займецца нічым, акрамя як вырабляе лялькі да спектакляў ды дэкарацыі? Карэннае адрозненне — нас фінансуе дзяржава. І ў нас пры такім стане спраў шмат што мусіць быць лепшым (артысты і рэжысёры-стваральнікі, маўляў, могуць працаваць спакойна). У сім-тым «яны» зайздросцяць нам. Але ў нас няма ні тае разнастайнасці прапаноў, ні тае нязмушанасці выканання, ні натуральнай жыццярадаснасці, нарэшце... З нашай цудоўнай сістэмаю арганізацыі тэатральнай справы можна працаваць, а можна і не працаваць... Зусім. Сёй-той і не працуе, бо грошы, натуральна, на ўсіх выдаткоўваюцца аднолькавыя. І як бы мы ні намагаліся прышчапіць нешта прагрэсіўнае ў тэатры (напрыклад, аплату працы як у «іх»), нашы цвёрдыя аклады гарантуюць спакойнае жыццё ўсім. За мяжой заможна жыве ды поспех мае толькі той, хто працуе, працуе, працуе... Напрыклад, знакаміты Хенк Бурвінкель, які зачараваў два гады назад беларускую сталіцу, ні сабе, ні сваёй жонцы-партнёрцы Анс не можа даць адпачынак на месяц, — толькі на два тыдні. Бо на чарзе ці выпуск спектакля, ці выраблення лялек, ці гастролі... Дзякуй Богу, хоць у Еўропе граніцы не на замку, — спакаваў лялькі, сеў на ўласны аўтобус і... працаваць, працаваць. І гэта — нармальна. Самім рабіць лялькі, быць мастакамі, канструктарамі, акцёрамі, рэжысёрамі... Чым меншы калектыў, тым большы не толькі прыбытак — увогуле плён!

**— Мы тут пазайздросцілі чужым граніцам, але, нягледзячы на тое, што і ў нас яшчэ няшмат дзе прыладзілі замкі, гастрольная дзейнасць тэатраў нібы ссякла...**

— Гэта таму, што цэны на білеты — сімвалічныя, а расходы на паездкі — астранамічныя. Не толькі за мяжу — мы па рэспубліцы гастраляваць не можам.

**— Між тым цэны на вашы білеты ўзраслі... раўнютка на трыццаць капеек.**

— Дзіцячы тэатр, дакладней, дзіцячыя спектаклі, мусяць быць агульнадаступнымі. Мы на гэтым стаім, пакуль дзяржава дае тэатру неабходную датацыю. Ды што тут хаваць — марожанае каштуе ў два разы даражэй за білет на наш спектакль. Праца наша, непаўторная ды адзіная ў сваім родзе, абясцэньваецца штодня. Мяркуй сама: шэсцьдзесят тысяч рублёў мы атрымалі сёлета на тры спектаклі. Па сённяшніх цэнах, каб запрасіць на адну пастаноўку рэжысёра, мастака ды кампазітара, трэба выдаткаваць палову гэтай сумы.

**— А «дарослыя» спектаклі не маглі б зрабіцца крыніцаю хоць якога дадатковага прыбытку?**

— Мы працягваем іграць спектаклі па вечарах, але наведваюць нас не так, як раней. Калісьці тры разы на тыдзень мы давалі спектаклі «для дарослых», а цяпер з розных прычын, першаю сярод якіх я лічу да смешнага простую — не да тэатра цяпер людзям! — іграем тры спектаклі на месяц.

**— Мяркуючы па вашай афішы, ёсць тэндэнцыя ставіць спектаклі на малую колькасць занятых артыстаў. Гэта — перспектыўны кірунак у новых умовах?**

— Пакуль што — чарговы эксперымент. У нашай трупе дваццаць чалавек, некаторыя, натуральна, застаюцца па-за сцэнаю. Адсюль — усе непажаданыя наступствы, якія ніяк не спрыяюць прагрэсу ды паразуменню ў трупе. З іншага боку, у спектаклі «Майстар і Маргарыта» персанажаў больш за колькасць нашых артыстаў, таму на сцэне працуюць і памочнікі рэжысёра, і студэнты Акадэміі мастацтваў (спрабуем асвойтацца з замежнымі традыцыямі разава запрашаць на спектакль). У цяперашняй сітуацыі скарачаць трупу было б несправядліва, а вось кантрактная сістэма — самая прымальная для нас. Бо цяпер, калі нехта з нейкіх прычын пакідае трупу, вялікія (і дарагія) спектаклі — на мяжы адмены ці паступовага занядбання.

**— Новы час — новыя імёны. Ці будзе Дзяржаўны лялечны разнастаіць імёны на сваёй**



Сцэна са спектакля Хенка Бурвінкеля «Метамарфозы», паказанага на мінулым Беларускім лялечным фестывалі.

заахвочвання таго ці іншага тэатра? Паводле эстэтыкі? Мы на яе даўно ўжо забыліся...)

Як вядома, сёлета тэатральная інтэлігенцыя Беларусі перажыла значную падзею — выхад у свет першага нумара часопіса «Тэатральная Беларусь». Р. Смольскі павіншаваў з гэтым усіх прысутных і абвясціў, што часопіс «Тэатральная Беларусь» — напраўду незалежнае выданне. «Калі нешта не надрукуе газета «Літаратура і мастацтва» ці часопіс «Мастацтва», дык «Тэатральная Беларусь» дазволіць кожнаму выказаць ягоныя думкі». Вядома, канферэнцыя — «рабочы момант», і можна было б, акрамя віншаванняў і заслужаных добрых слоў на адрас рэдакцыі часопіса «Тэатральная Беларусь», выказаць і сякія-такія канструктыўныя парады выданню, якое толькі набывае ўласнае аблічча.

У справаздачы Р. Смольскага прагучала цікавая, на мой погляд, думка (добра было б, каб яна ўвайшла ў нашу свядомасць): «Тэатральная культура не мае мытных перашкод. Мы не можам сёння адмаўляць усё наўкола, а павінны існаваць у кантэксце сусвету».

Закрануў Р. Смольскі і тэму так званага пакаяння: трэба ці не, а калі трэба, дык у якой форме выпраўляць памылкі мінулых часоў. Вельмі эмацыянальна развіла гэтую думку Т. Гаробчанка, якая згадала дзве публікацыі, дзе так ці інакш закранаецца мінулае беларускага тэатра — артыкул У. Мальцава «Гісторыя аднаго ліста» (газета «Культура») і артыкул Ж. Лашкевіч «Трагікамедзь надзеі нашай» (часопіс «Театр»). У. Мальцаў пісаў пра аднаго з вядомых дзеячаў беларускага мастацтва К. Саннікава, які ў 30-я гады зрабіў, можа, не самы лепшы ўчынак у сваім жыцці — падпісаў ліст супраць былых настаўнікаў, паддаўшыся агульнаму ідэалагічнаму захлёсту. Добра гэта ці нядобра—не нам судзіць. Існуюць факты, ад якіх нікуды не падзецца. Але, як лічыць Т. Гаробчанка, маладыя тэатразнаўцы сёння арыентаваны на тое, каб рабіць націск на адмоўных момантах гісторыі тэатра, а гэта нядобра.

Скажу шчыра, яшчэ большае здзіўленне выклікалі рэзкія ацэнкі Т. Гаробчанкі артыкула Ж. Лашкевіч «Трагікамедзь надзеі нашай». Можна, вядома, не пагаджацца з калегай, але згадаем нашы доўгія размовы пра тое, што крытыка мусіць быць вольнай у выказваннях і меркаваннях. Дык ад чаго ж вольнай — ад асабістых думак? Асабліва ўразілі мяне словы наконт таго, што пра свой тэатр няможна кепска казаць з такой трыбуны, якой з'яўляецца часопіс «Театр». Але, заўважу, сёння прызнана ўжо: шлях беларускага тэатра не быў трыумфальным нават у агульным рэчышчы савецкага тэатра. Чаму? Вось у чым сёння цікава разабрацца і, можа, у гэтым нашым разуменні — зарука будучага росквіту?

Асноўная тэма выступлення Т. Гаробчанкі, па-сапраўднаму эмацыянальнага, неабыякавага, цікавага — незапатрабаванасць таленту, а, дакладней, лёс акцёраў-купалаўцаў старэйшага пакалення. Шмат хто з іх ужо колькі гадоў не іграе (не мае новых роляў, а калі яны і надараюцца, дык далёка не заўсёды ў гэтых ролях яны зазнаюць поспех). Акцёр не можа чакаць доўга. Сплываюць гады... І, нягледзячы на тое, што ў Купалевым тэатры сёння працуюць, акрамя В. Раеўскага, такія цікавыя рэжысёры, як А. Андросік, М. Пінігін, лёс акцёраў старэйшага пакалення складаецца няўдала...

Трэба сказаць, што тэма пераемнасці пакаленняў хвалявала амаль усіх. Крытык М. Гарэцкая таксама выказала сваю думку: «Мы ўсё рабілі па-варварску. Мы і каемся па-варварску — з крывёю». Асноўнай тэмай выступлення М. Гарэцкай было становішча ў Гродзенскім абласным тэатры, з якога нядаўна пайшоў галоўны рэжысёр І. Пятроўскі, — «цудоўны менеджэр і дырэктар, але пасрэдны рэжысёр». У свой час з тэатра пайшлі рэжысёры М. Абрамаў, Б. Мартынаў. Чаму атрымалася так, што галоўны так і не змог стварыць у тэатры творчую атмасферу? Запрашэнні сталічных знакамітасцяў (Я. Сіманава, З. Карагодскага) нічога не змянілі. Сказала М. Гарэцкая і колькі добрых слоў пра мастацкага кіраўніка Брэсцкага абласнога тэатра У. Караткевіча, які ў складаным становішчы (тэатр не мае будынка) імкнецца адрадзіць тэатр і цікавасць да яго ў горадзе.

Цікава выступіў У. Мальцаў з расповядам пра Магілёўскі і Гомельскі абласныя тэатры. Становішча Магілёўскага тэатра, не раўнуючы, жудаснае — няма памяшкання, каб іграць спектаклі, няма грошай, каб рэстаўраваць былое памяшканне, дзе месціўся тэатр з дакастрычніцкіх часоў.

Тактоўна распавёў У. Мальцаў пра Гомельскі абласны тэатр, на чыіх афішах рэжысёрскіх імёнаў за апошнія гады змянілася зашмат. Не ўсе спектаклі цяперашняга галоўнага рэжысёра Б. Насоўскага выклікалі зацікаўленасць у крытыка, сякія-такія падаліся задужа «аздобленымі» музыкай, альбо не надта сучаснымі з пункту гледжання тэатральнай эстэтыкі.

Колькі слоў пра майстэрства акцёраў сказаў тэатразнаўца Ю. Пашкін, які лічыць, што сённяшняму акцёру бракуе спавядальнасці.

Тэма пакаяння прагучала ў выступленні рэжысёра В. Барkоўскага, які справядліва мяркуе, што «пакаянне — складаная праблема, яна тычыцца канкрэтных людзей, бо калі нехта атрымлівае прэміі, іншы гібее ў падвале».

Цікава на гэтую тэму выступіў В. Нікіфаровіч, які пачаў так: «У краіне адбылася рэвалюцыя. І пакаянне — гэта не чарговая кампанія... Можа, не трэба называць пакаяннем той працэс, які зараз адбываецца, бо сапраўды — гэта працэс перагляду тэатральнага мінулага, ацэнкі той ці іншай тэатральнай з'явы. Цяпер рыхтуецца першая беларуская тэатральная энцыклапедыя і трэба, каб кожная з'ява, кожны спектакль атрымаў адпаведнае яму месца». Далей В. Нікіфаровіч прывёў прыклад са спектаклем Б. Луцэнкі «Трагедыя чалавека», які ў свой час набыў адмоўныя водгукі толькі таму, што «наверсе» была дадзена такая каманда. «Трэба сёння мяняцца самому, і гэта не часовая з'ява, не кан'юнктура. І таму я вітаю артыкул Б. Бур'яна ў «Тэатральнай Беларусі», вітаю, бо нарэшце пачаўся гэты працэс»,— працягваў сваё выступленне В. Нікіфаровіч. Сапраўды, мо тэатральная энцыклапедыя нарэшце акрэсліць ісцінны шлях беларускага тэатра?

«Нам, крытыкам, трэба часцей збірацца. І не ў афіцыйнай абстаноўцы, бо сцэнарый такіх мерапрыемстваў аднолькавы: саноўны даклад, выступленні супрацоўнікаў Акадэміі навук. Трэба пазбывацца келейнасці, трэба размаўляць з акцёрамі, рэжысёрамі»,— так скончыў сваё выступленне В. Нікіфаровіч.

Б. Насоўскі, галоўны рэжысёр Гомельскага тэатра, заклікаў крытыкаў зразумець, чаму рэжысёр бярэ тую ці іншую п'есу. Закрануў ён і тэму сучаснага тэатральнага механізму — сутыкненне дзвюх формаў кіравання — мастацкага кіраўніка і мастацкага савета. «Я наогул лічу, што мастацкі савет — гэта амаральна, бо пяць чалавек вырашаюць лёс шостага, свайго калегі. Без мастацкага савета мы не можам даць катэгорыю таму ці іншаму акцёру, а некаму з савета даць ці не даць можа быць проста выгадна. Ці, напрыклад, прымаем афармленне спектакля. Робіць яго прафесійнік, а абмяркоўваюць людзі, якія да жывапісу не маюць нават дачынення. Таксама і з музыкай...» Вельмі востра стаіць у абласным тэатры пытанне з чарговай рэжысурай. «Нехта мяне папракне, вось, ён ставіць пяць спектакляў на год — але ж нехта іх павінен ставіць!» Пры Гомельскім тэатры існуе студыя, але яе мастацкі кіраўнік Л. Манакова з'ехала ў Мінск.

На гэтым канферэнцыя была скончана. Р. Смольскі падвёў рысу: «Што маем, тое і маем».

Вось, бадай, і ўвесь агляд таго шляху, што прайшоў беларускі тэатр за пяць гадоў. Сапраўды, «што маем, тое і маем». А што ж будзем мець? Хоць амаль нічога і не было пра гэта сказана, але альтэрнатыўны тэатральны рух існуе на Беларусі, добры ці дрэнны, цікавы ці сумны, але існуе — студыі з'яўляюцца, нягледзячы ні на што. Падумалася: чаму ж у нас такі незбалансаваны ва ўсіх сваіх частках тэатральны працэс? Альтэрнатыўны тэатр ёсць — альтэрнатыўнай крытыкі няма, няма альтэрнатыўных выданняў (газета Т. Арловай «Такое жыццё» арыентавана ў падобным кірунку, але ж у яе «калажах» з нашага жыцця тэатр не займае асноўнага месца). А калі ж успомніць гісторыю,— напрыклад, гісторыю росквіту А. Васільева і ягоных вучняў, самым папулярным з якіх быў Б. Юхананаў, дык іх з'яўленне выклікала проста-такі выбух,— з'яўленне маладой тэатральнай крытыкі з новымі ідэямі і прынцыпамі, з новым бачаннем Тэатра. А мы... Сцэнарый усё той жа: асноўны даклад, некалькі выступаючых і... паціху пасунуліся па дамах. А тэатр?..

**Наталля ЗЕМЛЯКОВА.**

---

**афішы — маю на ўвазе не толькі аўтараў п'есы, але і пастаноўшчыкаў?**

— Кандыдатуры некалькіх рэжысёраў названы ды ўхвалены ўжо мастацкім саветам.

**— «Ёсць рэжысёрскае мысленне, звязанае з лялькаю, і мысленне, не звязанае з лялькаю», — цытую Аляксея Ляляўскага. Але ўсіх вядомых мне рэжысёраў, мысленне якіх звязана з лялькаю, можна пералічыць на пальцах...**

— Аляксей Ляляўскі гэтаксама навучаўся не адно лялькам... (Дарэчы, мы з ім аднакурснікі, разам навучаліся рэжысуры.) Таму «выпрабаваць» лялькаю чыёсьці іншае рэжысёрскае мысленне не столькі цікава, колькі мэтазгодна. Да ўсяго, тэатр лялек,—гэта неабавязкова работа з лялькаю. Ёсць маскі, паўмаскі, рэчы, аб'екты... Зрэшты ў нашым тэатры любяць ды ўмеюць эксперыментаваць. І самыя невераго́дныя прапановы не раз набывалі выразныя абрысы менавіта на нашай сцэне.

**— Ну калі вы збіраецеся выжываць эксперыментуючы, дык вы яшчэ няблага жывяце!**

— Я не думаю, што нам трэба **выжываць.** Тэатры на Беларусі ведалі і горшыя часіны. Нам трэба лагічна прыстасавацца да сённяшніх варункаў — значыць, змяніцца. І мы мяняемся, але хто, акрамя крытыкаў, журналістаў, аглядальнікаў, дасць рады з гэтымі нашымі зменамі, хто прасочыць і ацэніць іх вокам збоку, якому заўжды відаць больш, як воку прызвычаенаму? Дарэчы, фестываль, які не можа спраўдзіцца-адбыцца, таксама выйсце з таго духоўнага вакууму, у якім паступова апынулася лялечнае мастацтва.

**— Мне даводзілася чуць неаднойчы ці не пра кожнае, самае сціплае спатканне тэатральных людзей: няма чаго есці, а вы тут баль ладзіце. І дадаюць: падчас чумы. Як толькі не так утульна, уежна ды ўлежна, адразу: пошасць; чума! Ніхто ж не называе пошасцю рассціланне дывановых дарожак па асфальце на сустрэчах вышэйшага ўзроўню ды ганаровыя варты, альбо чумою — пасяджэнні ў парламенце з абавязковымі сваркамі... Маўляў, работа ў людзей такая. У нас тэатр, як прынята лічыць нават тутэйшым спадарствам, не работа. Лялькі ў вачах зацікаўленае публікі ўсё яшчэ забаўкі..**

— Абрываюцца сувязі Дзяржаўнага лялечнага з Еўропаю, са светам. Тысячныя страты праз гады будзем падлічваць у дзесятках ды сотнях тысячаў. Бо ёсць працэсы, якія пажадана не перапыняць. На самай справе яны могуць і не перапыніцца, але аблічча набудуць нечаканае, мо і выродлівае.

**— Яўген, ты не раз бываў на міжнародных тэатральных фэстах. Што табе адразу кідалася ў вочы — іхняя бездакорная арганізацыя (на мінулым фестывалі яны якраз захапляліся нашай)! Колькасць ды размаітасць сцэнічных ды па-за сцэнічных прапаноў? Гарт выканаўцаў? Лунанне рэжысёрскай думкі?**

— Умовы ў кожнай краіне розныя. Але нязменным застаецца адно: горад чакае фестываль. У французскім Шарлевілі, памерам з наша Маладэчна, традыцыя лялечнага фестывалю замацавалася адразу пасля Другой сусветнай вайны. Усё жыццё горада на тыдзень канцэнтруецца вакол шырмаў ды канструкцый, марыянетак ды балаганчыкаў, гасцей ды сваіх артыстаў, а таксама вакол іхніх патрэб. Цікава, што лялькі самых разнастайных канструкцый у гэтыя дні можна набыць, як той казаў, на кожным рагу. Мінулым разам Шарлевіль прымаў сто шэсцьдзесят спектакляў!

**— Мы вярнуліся да таго, з чаго пачалі: ці няма небяспекі, што праз нашы матэрыяльныя нястачы фестываль, толькі-толькі нарадзіўшыся (перарадзіўшыся, пераўвасобіўшыся), вось-вось... сканае? А разам з ім — шмат якія нашы «выхады» ды «вокны» ў свет?**

— Аналагаў Беларускаму фестывалю тэатраў лялек у былым СССР не было. І цяпер няма. Не буду ўжо казаць пра паветра культуры і пра нацыянальную прастору. Беларусі сённяшняй, незалежнай, як ніколі неабходна выйсце да найлепшых і найсучасных здабыткаў мастацтва. Нават такога старога, традыцыйнага ды нацыянальнага, як лялечнае.

**Гутарку вяла Жанна ЛАШКЕВІЧ.**

---

**НАПЯРЭДАДНІ ПРЭМ'ЕРЫ**

# «Ёсць каштоўнасці вечныя...»

**Акадэмічны тэатр оперы і балета Беларусі рыхтуе прэм'еру оперы Я. Глебава «Майстар і Маргарыта». Напярэдадні падзеі мы сустрэліся з кампазітарам.**

**— Яўген Аляксандравіч, ведаючы вашу любоў да М. Булгакава, не здзіўляюся звароту да гэтага літаратурнага шэдэўра. Але чаму менавіта опера: ваш жа любімы жанр — балет?**

— Многія мастакі звярталіся да несмяротнага твора М. Булгакава. У мяне ГЭТА пачалося з 60-х гадоў, як навала. Немагчыма пазбавіцца ад ягоных поглядаў, ідэй, думак. Доўга пакутаваў: як непаўторную, забойчую, чароўную мову Булгакава можна перакласці на мову музыкі? Я вельмі хацеў захаваць слова пісьменніка, а для гэтага патрэбна опера. Яна была закончана 1 ліпеня 1990 года. Даў сабе абяцанне: не памру, пакуль не напішу, хоць час, у які пісаўся гэты твор, быў адным з самых чорных у маім жыцці. Але сутнасць творчасці такая, што ў ёй было і маё выратаванне.

**— Літаратурны твор заўсёды вельмі цяжка пераасэнсаваць, перавесці ў рэчышча музыкі. Такі шматпластавы раман вымагаў, відаць, старараннага адбору...**

— Задума вызначыла выбар тэмы: «Мастак і Лёс». Таму адбіраліся толькі тыя эпізоды, якія працавалі на яе: любоў і вечнасць, здрада і адплата. Шкада, давялося адмовіцца ад мноства цудоўных сцэн, эпізодаў, на якія багаты раман. Але гэта непазбежна, бо рабіўся не проста выбар, а адбор з мэтай пераводу ў новы жанр, і, натуральна, яго вызначала сама мэта.

**— Ці ёсць структурныя, кампазіцыйныя альбо іншыя асаблівасці ў оперы?**

— Спектакль складаецца з трох актаў. Асаблівасцю кампазіцыйнай будовы з'яўляецца вылучэнне з апавядання ўсёй лініі «Іешуа — Понцій Пілат», гэтага «рамана ў рамане», што і вызначыла адзінства скразнога дзеяння.

**— Яўген Аляксандравіч, якой музычнай мовай у вас гавораць героі?**

— Пра мову оперы я шмат думаў, асабліва тады, калі, нарэшце, распачаў канкрэтную работу. Мяне мала цікавіла, наколькі выглядаю сучасным, каб здзіўляць выканаўцаў або слухачоў. Я не ставіў задачай асучасніваць знарочыста мову Булгакава. Усім вядома, што Іешуа гаварыў. А ці спяваў ён, і калі спяваў, то што? Я не імкнуўся да рыфмы, а карыстаўся «рытмам» булгакаўскай прозы. Доўга шукаў якія-небудзь музычныя першакрыніцы. Аднойчы ўспомніў, што ў пачатку 60-х, калі мне давялося дачыняцца з З. І. Азгурам, ён у сваёй яшчэ старой майстэрні паказаў запісы яўрэйскіх народных песень у цудоўным выкананні Джона Пірса. Я патэлефанаваў Заіру Ісакавічу. Трэба было чуць, з якой гатоўнасцю і радасцю адгукнуўся ён на маю просьбу. Так тэмай Першасвяшчэнніка Каіфы зрабілася адна з тых песень. Рады магчымасці шчыра падзякаваць патрыярху беларускага мастацтва.

Мне неабходна было ажыццявіць музычную драматургію, перш за ўсё, у любімым мною аркестры: персаніфікаваныя характарыстыкі герояў падкрэслены менавіта аркестравым антуражам.

**— Хто ажыццяўляе пастаноўку?**

— Для любога мастака «Майстар і Маргарыта» — работа жаданая. Тым больш для опернага рэжысёра. Такая адметная магчымасць прадастаўлена Вячаславу Цюпу — рэжысёру вынаходліваму, дасціпнаму, які ведае розны музычны тэатр. Я рады яшчэ раз сустрэцца з мастаком Уладзімірам Арэф'евым, які прапанаваў надзвычай цікавую сцэнічную трактоўку твора. Дай Бог, як кажуць, каб ён быў дастойна ўвасоблены. Музычны кіраўнік спектакля — Аляксандр Анісімаў, хормайстар — Аляксей Кагадзееў.

**— Аддаючы «на суд» сваё дзіця, ці дапускаеце вы, што сёння ў зале беларускага опернага спектакль не знойдзе разумення?**

— Я заўсёды любіў музыку за тое, што ў ёй нічога не трэба тлумачыць, і я вельмі разлічваю, што опера пры разумным і ўважлівым успрыманні прынясе інтэлектуальную радасць. У спектаклі ёсць зусім пэўныя паралелі з нашым вар'яцкім часам. Але ў ім таксама — подых вечнасці. Трэба перажыць усё і памятаць, што існуюць каштоўнасці, нятленныя, як свет. Мастацтва, як складальнік духоўнасці, заўсёды садзейнічала гэтаму. І наша задача — прымусіць адчуць, што не ўсё страчана, што мы жывыя, а значыць — ёсць надзея.

**Гутарыла Іна ГУРАРЫЙ.**

# АЛЬБЕРТ ЗВАР'ЯЦЕЎ... У ГОМЕЛІ

**«Права першай пастаноўкі належыць Гомельскаму абласному драматычнаму тэатру», — напісаў на тытуле п'есы «Звар'яцелы Альберт» яе аўтар, малады драматург Сяргей Кавалёў.**

**Пра гэтую п'есу і пра сам спектакль расказвае рэжысёр-пастаноўшчык і аўтар арыгінальнай музыкі Барыс НАСОЎСКІ.**

— Кніга Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» была напісана ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Мы адразу зацікавіліся п'есай, якую напісаў на аснове гэтай кнігі Сяргей Кавалёў. Фантастычны, іррэальны сюжэт п'есы, яе паэтычны лад, рамантычная ўзнёсласць і вызначылі спосаб ўвасаблення гэтай драматургіі на сцэне.

Незвычайнасць (а, магчыма, і цяжкасць) матэрыяла заключаецца ў тым, што ў п'есе няма вялікіх разгорнутых сцэн, пераважае апавядальная плынь; як у паданнях, адчуваецца функцыянальная зададзенасць персанажаў. Вобразы, з аднаго боку, фальклорныя, адшліфаваныя шматвяковай народнай мудрасцю, а з іншага — створаныя аўтарскім бачаннем Яна Баршчэўскага. Ён не быў збіральнікам фальклору, але ў сваіх апавяданнях здолеў добра перадаць сутнасць, подых пэўнага пласта культуры сярэдзіны XIX стагоддзя.

У жыцці кожнага чалавека вельмі шмат спакусаў, не заўсёды і не кожны здольны пераадолець іх і застацца самім сабой. Таму мне заўсёды цікава даследаваць, што адбываецца ў лёсе чалавека, які раптам здраджвае сваёй сутнасці, можа пераступіць праз закон, растаптаць дзеля асабістай выгоды самыя высокія пачуцці і памкненні... Вельмі хацелася б, каб у наш час мы спавядалі любоў адзін да аднаго, павагу, беражлівае стаўленне да культуры, духоўнасці. Пра што спектакль? Я мяркую, пра кошт кампрамісу, які непазбежна цягне за сабой пагібель маральную або фізічную...

Складанасць працэсу працы над спектаклем заключалася яшчэ і ў тым, што «Звар'яцелы Альберт» іграецца на беларускай мове. А ў трупе пераважаюць акцёры, якія вучыліся ў Новасібірску, Краснаярску, Іркуцку, Варонежы... Ім давялося не толькі засвойваць своеасаблівы складаны іграві матэрыял, але і вучыцца добра гаварыць па-беларуску. Як па мне, дык, беларуская мова ўжо нядрэнна гучыць на нашай сцэне. (Неўзабаве, дарэчы, мы плануем паставіць п'есу для дзяцей Юрыя Куліка «Купальская ноч» на беларускай мове).

Спектакль «Звар'яцелы Альберт» аформіў мастак Дзмітрый Мохаў, з якім я супрацоўнічаю ўжо шмат гадоў. Разам з ім мы імкнуліся стварыць своеасаблівае відовішча, захаваўшы нацыянальны каларыт першакрыніцы.

У пастаноўцы занятыя добра вядомыя гомельскім гледачам заслужаныя артысты Беларусі Фёдар Іваноў і Людміла Корхава, артысты Уладзіслаў Карака, Аляксандр Лаўрыновіч, Алег Караткевіч, Тамара Шапшалава, Віталь Беднашэя, Сяргей Пазняк, Уладзімір Бляяеў, Ірына Грышаніна, Сяргей Клапін, Марына Сусліна...

Спектакль ствараўся па дзяржзаказе Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. А наогул, фінансавае становішча тэатра сёння даволі няпростае. Хацелася б, каб гарадскія ўлады і кіраўнікі вядучых прадпрыемстваў адчулі б неабходнасць абавязкова захаваць у горадзе тэатр, які можа даць у перспектыве пэўны выхаваўчы эфект.

Цяпер мы думаем пра новыя формы зносін з нашымі гледачамі. Магчыма, створым тэатральны салон, куды можна было б прыйсці вечарам, пагутарыць, паглядзець камерны спектакль ці прыняць удзел у літаратурным вечары.

Прэм'ерамі сёлетняга сезона ў нас будуць спектаклі «Вяселле Крэчынскага» А. Сухаво-Кабыліна ў пастаноўцы А. Гузія, «Дзікун» па п'есе іспанскага драматурга А. Касоны, — над гэтым спектаклем працую я, камедыю М. Задорнава «Любоўная авантура» ставіць рэжысёр-дыпломнік А. Слашчаў. У планах— «Рамэа і Джульета» У. Шэкспіра, рускія вадэвілі, замежныя камедыі.

Запісала
Ірына АСТАШКЕВІЧ.

ВІНШУЕМ!

**Споўнілася 70 гадоў паэту і празаіку Міколу Гамолку. Віншуем Мікалая Іванавіча з юбілеем, зычым яму доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў.**



# ІДЗЕ СВАЁЙ ДАРОГАЙ...

Пачынаў Мікола Гамолка, як і многія іншыя пісьменнікі, з паэзіі. Першыя вершы апублікаваў яшчэ да вайны, у 1937 годзе. Пісаў пад уражаннем маляўнічых краявідаў роднага Палесся (нарадзіўся ў вёсцы Брынёў Петрыкаўскага раёна), сустрэч з людзьмі, якія падабаліся, чые справы натхнялі. Што ж, ён быў сынам свайго часу і, зразумела, многае бачыў такім, якім хацелася. Адсюль у вершах назіралася рамантычная ўзнёсласць, акрыленасць, пафасная ўслаўляльнасць і — будзем шчырымі — лірычнаму герою часам бракавала непасрэднасці. Вельмі ж ён паўставаў правільным, гэткім без сучка-задзірынкі.

Пафаснасці ў вершах М. Гамолкі не паменшала і пасля таго, як апынуўся ў арміі. Служыць жа давялося ажно з 1940 па 1946 год, прайшоў шлях ад радавога да камандзіра ўзвода. У першай кнізе «Зварот шчасця», якая выйшла ў 1946 годзе, адчувальны радасны настрой колішняга абаронцы Радзімы. А калі падумаць, аўтара можна было і зразумець — нарэшце, зноў над зямлёй мірнае неба, зноў спакой на зямлі.

«Б'юць куранты» — другая паэтычная кніга М. Гамолкі, пазначаная 1950 годам. А пасля, як паэт, ён надоўга замаўчаў.

Перайшоў у прозу, пачаў пісаць для дзяцей. У прыгодніцкай аповесці «Лета ў Калінаўцы» (1950) таксама прысутнічае рамантыка, але на гэты раз яна апраўдана. Расказваецца ж пра хлопчыкаў і дзяўчынак, якія ўзнаўляюць імёны герояў мінулай вайны, выкрываюць ворагаў. Пафас дабра, справядлівасці пранізвае твор. Пісьменнік паказваў дзяцей неабыякавымі да паўсядзённага жыцця, ён хацеў, каб з іх раслі людзі, вартыя бацькоў, якія змагаліся з фашызмам. Вобразна кажучы, на службе ў дабра знаходзіўся М. Гамолка і ў аповесці «Добры дзень, школа!» (1953). Перавыхаванне цяжкіх дзяцей — у цэнтры ўвагі аўтара. Тое цікавіла яго, што і сёння хвалюе і педагогіку, і грамадскую думку.

Увогуле, М. Гамолка смела імкнуўся абжываць новыя тэмы, будучы пераканаым, што не багі гаршкі лепяць. Звярнуўся ён і да жанру навуковай фантастыкі, напісаўшы кнігу «Шосты акіян», у якую ўвайшла аповесць «За вялікую трасу» і раман «Цытадэль неба». Старэйшыя чытачы, відаць, памятаюць, што гэтыя творы выклікалі вострую дыскусію, знайшліся і тыя, хто іх цалкам адмаўляў. Канечне, не адбылося і без пралікаў, але М. Гамолка стаў, па сутнасці, першым, хто асмеліўся прадоўжыць тэму, пачатую Янкам Маўрам, аб чым, у прыватнасці, сведчаць яго «Аповесць будучых дзён» і «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага».

Аднак вядомасць пісьменніку прынесла аповесць «Лясная крэпасць» (1980), напісаная востра драматычна, займальна, а галоўнае — псіхалагічна. Нездарма не хто іншы, а менавіта Васіль Быкаў даў твору такую высокую ацэнку: «Лясная крэпасць» — вострасюжэтны твор для дзяцей. Аўтару ўдалося добра пабудаваць інтрыгу, стварыць прывабныя вобразы нашых людзей і агідных акупантаў. Дзеянне разгортваецца паволі і дасягае кульмінацыі ў самым канцы, што спрыяе павелічэнню займальнасці твора. Самай вялікай удачай яго, аднак, трэба лічыць вобраз хлопчыка Цітка—абаяльная сіла якога роўная яго мужнасці».

Аднак, што немалаважна, займальнасць для М. Гамолкі не самамэта. Вайна, пісьменнік пра гэта ні на хвіліну не забывае, найперш народная драма. Удвая трагічна, што ўдзельнікамі яе вымушаны былі ставіцца і дзеці. Услаўляючы мужнасць і гераізм, М. Гамолка кіраваўся адначасова і ідэямі дабра, чалавечнасці, а калі шырэй — прынцыпамі народнай маралі. Канечне, галоўны герой аповесці падлетак Цітоk Каляда трапляе ў самыя нечаканыя, неверагодныя сітуацыі. Вядома, жыццё яго неаднойчы вісіць, як кажуць, на валаску. Надараецца, што ён не надта задумваецца, да чаго можа прывесці безразважлівасць. Але дарослыя, якія па меры магчымасці знаходзяцца з ім поруч, не прамінаюць выпадку, каб, калі патрэбна, астудзіць імпэт падлетка. Вайна вайной, але і пра жыццё юнага героя рупяцца яны.

На ваенным матэрыяле пабудаваны і яшчэ дзве аповесці М. Гамолкі «Дзяўчына ішла па вайне» (1972) і «Сокалы-сакаляты» (1987). Дарэчы, абедзве яны летась выйшлі ў перакладзе на рускую мову ў выдавецтве «Советский писатель», а «Лясная крэпасць» яшчэ раней была прадстаўлена ў папулярнай серыі «Стрела», якую выпускае выдавецтва «Молодая гвардия». У гэтых дзвюх аповесцях — таксама моцныя прыгодніцкія элементы, неаднаразова бываюць нечаканыя, здавалася б, неверагодныя развязкі, калі немагчымае становіцца магчымым. Праўда, адыходу ад жыццёвай праўды не бачыцца, таму што М. Гамолка, як правіла, карыстаецца дакументальнымі фактамі, узважанымі і неаднаразова праверанымі. А яшчэ ён не забывае, што яго вялікасць выпадак стварае сітуацыі, якія і ўявіць цяжка.

Тут названы далёка не ўсе творы, а гэтыя ў творчасці М. Гамолкі, як на маю думку, галоўныя. З іх бачна, што пісьменнік, не паўтараючы іншых, ідзе ў літаратуры сваёй дарогай. Торыць яе ўпэўнена, абыходзячы тыя яміны, што сустракаюцца на шляху. І па-ранейшаму застаецца на службе ў дабра і справядлівасці, адрасуючы свае кнігі найперш юным чытачам.

Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ.

# СУСТРЭЧА З ЗЕМЛЯКОМ

(Пачатак на стар. 8—9).

Жак наліў зноў па чарцы каньяку, мы, чокнуўшыся, выпілі, зноў закусілі вустрыцамі. Узялі ў рот, пажавалі і па каштану.

— З Амерыкі, з Нью-Йорка ўцёк я ў Парыж... Тут таксістам уладкаваўся, працаваў гадоў дзесяць...

— А цяпер дзе вы?—спытаў я.

— Цяпер...

Жак апусціў у стол вочы, нейкі час маўчаў.

— Ведаеш, Барыс. Ты не крыўдуй, але я нікому не кажу, дзе я цяпер жыву, кім працую. На тое прычына ў мяне ёсць.

— Якая?—спытаў я.

Жак уздыхнуў. Потым махнуў рукою, як бы асмеліўся.

— Няхай, раскажу табе. Калі жыў я ў Амерыцы, мне трэба было забіць аднаго чалавека. Маладога, прыгожага. Ён палюбоўнікам быў адной таксама маладой асобы, што выйшла замуж за старога, багатага чалавека. Вось той стары, багаты і наняў мяне. Я сустрэўся з тым маладым чалавекам, пагаварыў. І выявілася—ён кахае тую маладую асобу і шукае спосабу, як бы прыбраць з дарогі старога. Калі я сказаў, што магу дапамагчы, ён прапанаваў мне суму ў некалькі разоў большую за тую, што прапанаваў стары, багаты... Словам, у мяне быў выбар, каго з іх забіць... Доўга я думаў, што рабіць. Урэшце, узяў задатак і ў аднаго і ў другога і махнуў у Парыж... Здавалася б, і канцы ў ваду... Аж не. Тая арганізацыя, у якую я ўваходзіў, заступілася за свой гонар... Мяне пачалі шукаць, каб пакараць... І ўяўляеш, знайшлі тут, у Парыжы...

Нам прынеслі віно, падсмажанае ў соусе мяса з гарнірам—салатам, морквяю, бурачкамі, бульбаю, рысам...

— І што было далей?—спытаў я, калі мы налілі па фужэру і выпілі халоднага, церпкага віна і пачалі закусваць.

— Паехаў я з Парыжа... Жыў нейкі час у Італіі, потым перабраўся ў Швейцарыю... Цяпер зноў вярнуўся ў Парыж...

— Сям'я ў вас ёсць, дзеці?

— Не,—адмоўна пахітаў галавою Жак.—Сям'і ў мяне няма. А дзеці... Дзеці маглі нарадзіцца, быць... Я ж не манах, сыходзіўся з жанчынамі... І цяпер ёсць... І не адна... Але я захапіўся расказам пра сябе... Раскажы лепш, якая ў нас там дома жытка, які наш Вялікі Бор? Ты казаў, адбудаваўся ён, балоты там паасушалі. А як з лясамі? Павысякалі іх?

— Так, пасля вайны... Але яны зноў павырасталі...
—А Уюнаўка наша? Я ж любіў хадзіць на яе. І купацца, і рыбу лавіць. Такія шчупакі ў комлю траплялі! І карасі. А што ўюноў ужо было...

Я расказваў пра ўсё, пра што пытаў Жак. А пытанняў у яго было шмат. І чым далей мы сядзелі, іх не меншала. Ад пытанняў пра жыццё вёскі ён перайшоў да пытанняў пра жыццё ў краіне, Беларусі. Пытаўся ён і пра лёс многіх аднавяскоўцаў, каго ведаў, помніў.

— У мяне там некалькі сваякоў ёсць,—прызнаўся ён, калі мы выйшлі з рэстарана, селі зноў у машыну.—Калі б ты ўзяў для іх падарункі, я прывёз бы...

— Але ж я не ведаю іх... Нават прозвішчаў... Ды і вашага...—сказаў, прызнаўся я шчыра.

— Я скажу... Пачакай... Мы ж, думаю, сустракаемся не апошні раз. Днямі я яшчэ пазваню табе, сустрэнемся...

Але мы больш не сустрэліся. Ужо назаўтра раніцою стала вядома, што Міністэрства замежных спраў будзе скарачацца, яго перастае фінансаваць СССР, бо перастае быць і краіна з такою назвою. Мне разам з усёй нашай дэлегацыяй прапанавана было пераехаць жыць у савецкі дом, што мы, вядома ж, у той жа дзень і зрабілі... Ці званіў мне ў гасцініцу Жак, ці шукаў мяне—я не ведаю, як не ведаю дасюль, хто быў ён—сапраўды хтосьці з Рачанкаў ці нехта іншы. Але што Жак быў мой зямляк, з адной са мной вёскі—то гэта факт, у гэтым я не сумняваюся....

**ЮБІЛЕІ**

## Рэаліст



Беларускаму жывапісцу Генрыху Францавічу Бржазоўскаму споўнілася 80 гадоў. 60 з іх ён працуе як мастак. Чалавечнасць, філасафічнасць — вось тая прыцягальная сіла, якая спыняе гледача перад карцінамі Генрыха Францавіча. Дзвюм асноўным тэмам прысвяціў мастак сваю творчасць: гераізм народа ў апошняй вайне і хараство роднай зямлі. Ідуць гады, мінаюць дні і вёсны, а партызанскія ўспаміны трывожаць памяць мастака, бо многія з ягоных сяброў не вярнуліся з вайны. Людзі, якіх ведаў мастак, сталі персанажамі на палотнах, створаных пасля вайны («Выхад з блакады», «Партызаны ля кастра», «Пахаванне таварышаў» і інш.). Уражвае працаздольнасць Г. Бржазоўскага. Мастак і сёння шмат працуе. З-пад яго пэндзля выходзяць праўдзівыя, глыбока рэалістычныя карціны аб нашай сучаснасці. Бржазоўскі — мастак-лірык. Ягоным пейзажам уласцівы светлы настрой, мажорнасць, паэтычнасць. Жывапісец любіць ціхую плынь рэчак, пагоркі, палявыя сцежкі, красу беларускіх лясоў, маляўнічы родны край («На родных палях», «Над Свіслаччу», «Дубы Курасоўшчыны», «Барысаўскі пейзаж»...). Рэаліст па самой прыродзе сваіх пачуццяў і па сродках іх увасаблення, мастак знаходзіць тэмы сваіх палотнаў у жыцці.

Галія ФАТЫХАВА.

**МУЗЫКА**

## Праз тры дзесяцігоддзі

Афіша абвясціла: «Ін Чэн Цзун», — і мінскія меламаны адразу прыгадалі тыя музычныя вечары, што адбываліся амаль 30 гадоў таму. Тады малады піяніст з КНР даваў канцэрты пасля свайго вялікага поспеху на II Міжнародным конкурсе імя П. Чайкоўскага ў Маскве, дзе ён заслужана стаў лаўрэатам. Як кажуць, слава апярэджвала тады візіт самога музыканта. У кастрычніку 62-га Дзяржаўны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам В. Катаева знаёміў слухачоў з Канцэртам для фартэпіяна з аркестрам № 2 Ф. Ліста. Саліраваў Ін Чэн Цзун. Віталі яго горача.

Сёлета Ін Чэн Цзун выступаў у нас як артыст з ЗША. Музыкант пасталеў, і знаўцы адзначылі паглыбленне ягонай трактоўкі Канцэрта Ліста. Лірычная тэма пакутлівых пошукаў адзінокай асобай (фартэпіяна) суладдзя з навакольным светам (аркестр) выяўлялася ў рашучым паступе музыкі, які ўзнімаўся да мужнага маршу, потым пераліваўся міжвольнай скаргай на прывід-надзею, калі аркестр то як бы пагаджаўся з прапанаванымі адзіночкай рытмамі, то спрабаваў уладна падначаліць іх стыхіі ўласнага лёсу. Асобныя пасажы пад рукой піяніста трывожылі бурным напружаннем пачуццяў і дапытлівым роздумам чалавека, які то мірыцца са сваёй адзінотай, то намагаецца зліцца з агульнай плынню жыцця.

Дырыжорам на канцэрце быў маэстра В. Дуброўскі, які заўжды так раўнапраўна і тактоўна выступае з салістамі. У той вечар ён цудоўна трактаваў і Чацвёртую сімфонію П. Чайкоўскага. Як пяшчотна і таямніча гучаў вальс пасля вядомага драматычнага голасу лёсу ў першай частцы! І літаральна зачаравала залу піцыката трэцяй часткі, якое струнныя здабывалі быццам з самой душы інструментаў, дэманструючы асляпляльнае хараство славутага музычнага малюнка. Магутнае ўражанне зрабіў фінал.

Прыемным сюрпрызам было, здаецца, першае выкананне ў Мінску паэмы-рапсодыі А. Шабрые «Іспанія».

Праз дзень Ін Чэн Цзун даў сольны канцэрт.

В. ІВІН.

## Яму толькі... 200 год

Вось так, з усмешкай, паведаміў пра вечна юнага класіка Джаакіна Расіні, чый юбілей адзначаецца сёлета ва ўсім свеце, вядучы вечара У. Шаліхін. А вечар адбыўся ў фае ДАВТа Беларусі, і ладзіў яго Клуб сяброў оперы, і прайшоў ён у сапраўды сяброўскай шчырай атмасферы, хоць кола слухачоў сабралася досыць шырокае і стракатае. Строгі раяль, кветкі ля партрэта Расіні, абаяльная і нястомная Г. Каржанеўская — канцэртмайстар, дзякуючы якой зніталавалася нечаканая праграма з твораў Расіні «камернага», публіцы вядомага мала... Нечаканымі былі й салісты: маладзенькая артыстка тэатра музычнай камедыі Л. Лют, нядаўняя выпускніца БДК, дыпламант Міжнароднага конкурсу; вядучы майстар опернай сцэны Н. Галеева; Т. Цівунова, прафесійная вакалістка, якая некалькі гадоў працавала ў ДАВТе не па спецыяльнасці, а вось з нядаўняга часу пачала і выступаць. Праграму аздобіў і «голас» У. Бурага — флейтыста з ансамбля «Класік-Авангард». Гучалі канцанеты, балеро, тарантэла, баркарола, вакальныя дуэты. Праграма выконвалася па-італьянску.

С. Б.

**НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ**

## «Кропелька чысцейшай вады...»

Медыкі ды настаўнікі, клубныя работнікі ды інжынеры, калгаснікі, студэнты, школьнікі... Вось яны збіраюцца разам, апранаюць прыгожыя строі, бяруць адмысловыя інструменты і — і гэта ўжо сапраўдныя артысты з народа, здатныя сваім захапленнем сагрэць, сваім мастацтвам узрушыць кожную жывую душу! Іх ансамбль і ведаюць, і любяць: «Крупіцкія музыкі» за 10 гадоў сваёй самаадданай творчай працы пад кіраўніцтвам У. Грома, як гаворыцца, зрабілі сабе імя. Пра гэта пераканальна распавяла і перадача «Няскончаны партрэт. «Крупіцкія музыкі», якою БТ адзначыла ў мінулую пятніцу сціплы юбілей ансамбля. Цудоўны песенны фальклор, непаўторнае гранне... Нездарма адзін з удзельнікаў перадачы, вядомы музыкант М. Сірата назваў «Крупіцкіх музыкаў» кропелькай чысцейшай вады ў моры разнастайных ансамбляў. Нездарма на мастацтва ансамбля звярнула ўвагу Асацыяцыя міжнародных фальклорных фестываляў, запрасіўшы самабытную беларускую суполку ў Францыю, на фестываль, які адбудзецца ў 93-м годзе. Партрэт музыкаў з Крупіцы й сапраўды няскончаны: яркае творчае жыццё дадае да яго ўсё новыя штрыхі.

С. В.

**ВЫСТАВЫ**

## Адразу ў двух месцах

Выпадак — рэдкі. Адразу ў двух месцах сталіцы Рэспублікі Беларусь — у Доме работнікаў мастацтваў і ў гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна — працуе фотавыстава «Прысвячэнне». Удзел у ёй прымаюць фотаклубы «Мінск», «Крыніца», «Панарама», «Правінцыя», а таксама — прафесіяналы, тыя, хто ўваходзіць у Саюз фотамастакоў і Саюз журналістаў. А прысвечана экспазіцыя памяці Анатоля Дудкіна, выдатнага майстра, які нядаўна заўчасна пайшоў з жыцця.

## І для інтэр'ера кватэры...

Палац мастацтваў. Тут зараз экспануюцца тры выставы.

Святу 8 Сакавіка прысвечана экспазіцыя пад назвай «Вясна-92». Яна складаецца з твораў жанчын-мастачак, членаў Саюза мастакоў Беларусі. Асобным раздзелам на гэтай выставе вылучаны творы беларускі з Аўстраліі Ніны Анісімавай.



А. БАРАНОЎСКАЯ. «Блакітны май».

Аматараў экзотыкі зацікавіць жывапіс Мікалая Рэрыха. Арганізатар выставы — міжнародны фонд Рэрыха. Тэма твораў — Гімалаі.



Н. АНІСІМАВА. «Срэбраныя слупы».



Адна з работ М. РЭРЫХА.

А тым, хто мае грошы і намер нешта прыдбаць для інтэр'ера сваёй кватэры, будзе цікава паглядзець выставу-продаж твораў дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

## Вернісаж «рысаўцаў»

Новыя эканамічныя ўмовы прымусілі полацкіх мастакоў аб'яднацца ў малое прадпрыемства «Рыса». Няпроста было распачынаць сваю справу. Акрамя творчых, трэба было праявіць і арганізацыйныя здольнасці. «Рысе» крыху болей за год, але ўжо шмат зроблена. У Музеі беларускага кнігадрукавання адчынены мастацкі салон. Тут можна набыць карціны, мастацкія вырабы не толькі мясцовых творцаў, а і майстроў з Віцебска, Мінска. Штомесяц у гарадской выставачнай зале суседняга Наваполацка «Рыса» ладзіць выстаўкі. Напрыканцы лютага свае работы выставілі два рысаўцы: Аляксандр Канавалаў ды Сяргей Цімохаў. У экспазіцыі — жывапіс. Упершыню творы гэтых мастакоў прадстаўлены досыць шырока.

Алесь АРКУШ.
г. Наваполацк.



С. Цімохаў ля свайго палатна.
Фота А. МАРЦІНКЕВІЧА.

**ЛІТКУР'ЕР**

## Прэміі часопіса «Маладосць»

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» разгледзела публікацыі 1991 года і прысудзіла прэміі за лепшыя матэрыялы. Лаўрэатамі «Маладосці» сталі: Эдуард Акулін (падборка вершаў, № 5), Анатоль Крэйдзіч (апавяданне «Хуліган», № 6), Марта Шматава (мастацкае афармленне №№ 3, 4, 5 і кніжак «Бібліятэкі часопіса «Маладосць», №№ 8, 11), Іван Сяргейчык (афганскі дзённік «Горкі пыл Гіндукуша», кніга ў «Бібліятэцы...»), Іван Афанасьеў (кніга крытыкі «Будзем садзіць сад...» у «Бібліятэцы...»).

## Апакаліпсіс... па графіку

Курапаты... Чарнобыль... Хірасіма... Здавалася б, ніякай сувязі паміж імі няма. А вось Алесь Адамовіч мяркуе, што сувязь тут самая непасрэдная. Нездарма сваю новую кнігу публіцыстыкі, якая выйшла ў выдавецтве «Беларусь», ён назваў «Апакаліпсіс па графіку». Само чалавецтва як бы запраграмавана на вынішчэнне. Шмат папрацавала на гэта таталітарная сістэма. А. Адамовіч быў адным з першых, хто на поўны голас загаварыў аб небяспецы, якую нясе яна. Гаварыў у друку, па радыё, тэлебачанні. Цяпер вось — у гэтай кнізе, якая ў аўтарызаваным перакладзе М. Тычыны пабачыла свет па-беларуску ў серыі «Плошча Свабоды».

Нагадаем: перад гэтым у серыі быў зборнік І. Герасюка «Агонія наменклатуры».

## Юбілейная кніга «Юнацтва»

1500 назваў кніг выпусціла выдавецтва «Юнацтва», агульны тыраж якіх складае каля 128 мільёнаў экземпляраў. Такі набытак спецыялізаванага дзіцячага выдавецтва за 11 гадоў творчай працы.

Юбілейным выданнем стала падрыхтаваная і выдадзеная сумесна з выдавецтвам «Веселка» (г. Кіеў) кніга апавяданняў беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў «Пабрацімы». Летась гэты зборнік выйшаў у Кіеве на ўкраінскай мове, а цяпер яго атрымалі юныя чытачы Беларусі. Кніга расказвае пра ўкраінскіх і беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак, якія ў гады Вялікай Айчыннай вайны змагаліся супраць фашысцкіх захопнікаў.

«Пабрацімы» — працяг плённага супрацоўніцтва і дружбы двух выдавецкіх калектываў. Раней юныя чытачы нашых дзяржаў-суседзяў атрымалі сумесны зборнік твораў «Ад школьнага парога», анталогіі ўкраінскай і беларускай дзіцячых літаратур, томікі беларускіх і ўкраінскіх народных казак, творы класікаў і сучасных пісьменнікаў Украіны і Беларусі.

Нягледзячы на шматлікія праблемы ў кнігадрукаванні, якія ўзніклі пасля разрыву эканамічных сувязяў паміж рэспублікамі былога СССР, творчае супрацоўніцтва «Юнацтва» і «Веселкі» будзе працягвацца. У 1993 годзе выйдзе ў свет новае сумеснае выданне — фальклорны зборнік «З крыніц адвечнай прыгажосці». Яго склалі ўкраінскія і беларускія народныя легенды, паданні, казкі, у якіх адлюстроўваюцца гістарычныя шляхі братніх народаў, іх мудрасць, працавітасць мужнасць, свабодалюбства і жыццесцвярджальны аптымізм.

Міхась ПАЗНЯКОЎ,
галоўны рэдактар
выдавецтва
«Юнацтва».

## Паяднала Вілія

Сёння нейкі такі час, што ўжо быццам і няёмка гаварыць, што Вілія — рака дружбы. Але ж гэта — праўда! Вілія (па-беларуску), Нерыс (па-літоўску) і сапраўды здаўна пяднаўвала два нашыя народы — беларускі і літоўскі. Пра гэта яшчэ раз прыгадваеш, калі перагортваеш старонкі кнігі «Па Віліі», напісанай вядомым літоўскім географам, краязнаўцам, прафесарам Віленскага універсітэта Чэславам Кудабам і выпушчанай выдавецтвам «Полымя». Разам з аўтарам мы робім падарожжа па Віліі ад яе вытокаў да ўпадання ў Нёман. І з самім аўтарам знаёмімся. А ў дадатак слова пра яго гаворыць аўтар прадмовы Г. Каха& Каханоўскі.

## Аповяд Максіма Лужаніна

Адна з апошніх работ беларускіх кінематаграфістаў — фільм «Незавершаная хата» (аўтар сцэнарыя У. Халіп, рэжысёр-аператар С. Пятроўскі). Падзагаловак стужкі дакладна вызначае яе сэнс — «Максім Лужанін расказвае». А што і сапраўды шмат што захавала памяць старэйшыны нашай літаратуры, жадаючыя змаглі пераканацца ў час прэм'еры фільма, якая адбылася ў Доме літаратара. З экрана вялася гаворка пра Янку Купалу і Якуба Коласа, Паўлюка Труса і Міхася Чарота, Кандрата Крапіву і Аркадзя Куляшова...

**ЗНАЁМСТВА**

## Наталля Рачкоўская

У кожнага мастака свой шлях у мастацтве. Наталля Рачкоўская, выпускніца Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, пачынала рэалістычнымі творамі. Потым, праз цікаўнасць да прымітывізму і постімпрэсіянізму, прыйшла яна да беспрадметнага жывапісу.

— Займаючыся рэалістычным жывапісам у наш час, адчуваеш сябе вучнем, які ніколі не стане майстрам, — лічыць Наталля. — Рэалізм — зыходны пункт творчасці, а беспрадметны жывапіс — яе лагічны працяг. Але тут прысутнічае і элемент гульні, якая прыносіць вялікае задавальненне ў працэсе работы.

І, думаецца, не толькі жывапісцу, але і гледачам, і тым, хто з гэтымі работамі знаёміцца. Менавіта гэтым і тлумачыцца поспех работ Рачкоўскай на радзіме, а таксама ў Японіі, Германіі, Польшчы.



Н. Рачкоўская. «Азірніся з любоўю» (З серыі «У пошуках раўнавагі»).
Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.
БЕЛТА.





# ПАД ЗНАКАМ СОНЦА

(Пачатак на стар. 1).

У майстэрстве Анатоля Клешчука шмат інтуіцыі, прыязнай увагі да прадмета, здагадлівасці. Інтуіцыя, іншы раз, больш засцерагае ад павярхоўнасці, чым рацыянальны дослед, калі інтуіцыю не выкарыстоўваць, а далікатна карыстацца ёю, як кубачкам з кітайскага фарфору...

Перад намі новая навела — лодкі на марозным схіле Царкоўнай гары. Побач, за кадрам, дыхае зімовая Гарынь. Праўда, гэта ўжо не зусім Гарынь — яе старое рэчышча. Прагматычныя людзі выгналі родную раку за вароты горада... Лодка — геральдычны знак Давыд-Гарадка, уцеха кожнага гаспадара, аздоба гарынскага берага. З лодкі Давыд-Гарадок пачынаўся...

Спадары мовазнаўцы, ведайце: лодку ў Давыд-Гарадку яшчэ называюць д у б а м.

Спадары этнографы, пры выпадку я магу вам расказаць, як робіцца давыд-гарадоцкая лодка, як здабываецца плаўная лінія бартоў і трывалае хараство днішча. Пакуль жа вывучайце навелу Анатоля Клешчука, на якой стомлена знерухомелі гэтыя тры заснежаныя гарынскія ўлюбёнкі. Дзве меншыя — дзевяціаршынныя, а большая, што на пярэднім плане, пэўна ж, мае ў даўжыню поўныя адзінаццаць аршын...

Калі ў часопісе «Беларусь» я знаёміўся з цыклам партрэтаў «Землякі», то міжволі шукаў знаёмыя твары. З нейкай нават рэўнасцю, ці з крыўдай на мастака, падумалася аднойчы: а чаму іх, маіх землякоў, няма ў гэтай серыі?

І нібыта падслухаўшы маю незадаволенасць, Анатоль Кляшчук паехаў у Давыд-Гарадок...

І вось у гэтым усмешлівым старым мужчыне, што ў дыхтоўнай каракулевай кубанцы, я пазнаю дзядзьку Мароза, таленавітага шаўца, колішняга (яшчэ з-за польскіх часоў!) сябра майго дзеда Мікалая Дранько.

Дзядзьку Марозу далёка за восемдзесят.

Ён усміхаецца.

Каб жа й нам дажыць да такога веку і да такой яснай усмешкі...

А гэтых дзвюх жанчын пад промнямі каляднай звязды, пад яе святочнымі кутасамі — пазнаю і не пазнаю. Душу саграе здагадка, што недзе мы сустракаліся: ці каля Юраўскай царквы, ці ў Радзічах, ці ў Лужку, ці на іншай якой давыд-гарадоцкай вуліцы. Добра відаць, як вецер паварушвае над імі каляровую паперу лёгкіх кутасоў. Жанчыны бачаць, што іх фатаграфуюць. У вачах недаўменнае пытанне: а навошта? Яны не прывыклі да ўвагі...

Вулічныя крыжы— спрадвечны напамін пра Галгофу—асобная тэма, якая не разбурае тэму каляднай звязды. Наадварот — узбагачае, робіць яе сімфанічнай. Анатоль Кляшчук вяртае нас да знакаміта-ўстойлівай ісціны: шлях жыцця нязменны, ён пралягае ад радасці-нараджэння да скрухі-смерці...

За ўсю сваю немалую гісторыю Давыд-Гарадок ніколі не жабраваў, не жыў чужым коштам. Дзякуючы гэтаму, выжыў, застаўся гаспадаром. Маючы дзве царквы, збіраецца нанова адбудаваць на замчышчы трэцюю — Уваскрасенскую царкву-пакутніцу з трохяруснаю званіцаю побач.

Горад мой старамодны і заўсёды цікавы, нібы класічны раман.

Ён такі, якім убачыў яго ўважлівы да сапраўднага хараства Анатоль Кляшчук.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК.**





Вядомы беларускі вучоны, літаратуразнавец і крытык Навум Перкін памёр у 1976 годзе, паспеўшы за шэсцьдзесят чатыры гады прайсці цяжкі, багаты на падзеі жыццёвы шлях. Пасля вучобы ў Гомельскім педагагічным тэхнікуме, з 1929 па 1931 год настаўнічаў, потым вучыўся ў Мінскім пединстытуце. Перад самым пачаткам вайны скончыў і аспірантуру.

Ваяваў і на фронце, і ў партызанскім атрадзе на Браншчыне. Двойчы быў паранены. Да навуковай дзейнасці вярнуўся толькі ў 1946 годзе. З гэтага часу жыццё Н. Перкіна было звязана з Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы, у якім працаваў навуковым супрацоўнікам, а з 1963 года загадчыкам сектара ўзаемасувязей літаратур, стаў доктарам філалагічных навук, прафесарам.

Навум Перкін напісаў шэраг манаграфій, артыкулаў, падручнікаў. Ён быў аўтарам першых біяграфічных нарысаў, прысвечаных творчасці Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі, Пятра

Нам усім цяжка. Стаў сакраментальным выраз: «Жывём у складаны, нялёгкі час». Па-рознаму на такое становішча рэагуюць людзі Беларусі. Адны спадзяюцца на лепшае жыццё, другія ў роспачы не вераць нікому. Ёсць і тыя, хто думае аб вяртанні недалёкага мінулага.

У найбольшай бядоце сёння апынуліся цудам выжыўшыя ахвяры былога бальшавіцкага таталітарызму. І ўсё ж я жадаю, каб усе прысутныя тут належалі да тых, што жывуць надзеяй на паляпшэнне становішча. Гэтая надзея прывяла нас да думкі ўтварыць сваё аб'яднанне — Беларускую асацыяцыю ахвяр палітычных рэпрэсій.

Чаму гэта патрэбна?

У праекце свайго статута мы запісалі, што будзем садзейнічаць станаўленню і развіццю нашай Рэспублікі Беларусь, каб яна была свабоднай, незалежнай, прававой дзяржавай. Толькі ў сапраўды прававой дзяржаве мы можам адчуць свабоднымі і лічыць, што жыццё пражыта не дарэмна. Прававая дзяржава будзе лепшай узнагародай нам і помнікам усім, хто загінуў у ГУЛАГу.

Пра такую дзяржаву марыла не адно пакаленне лепшых сыноў і дачок шматпакутнага беларускага народа. Большасць іх засталася ў месцах зняволення, куды можна было трапіць і загінуць з «лёгкай рукі» сексота за адно неасцярожна вымаўленае слова.

Асноўным устоем прававой дзяржавы павінны быць правы грамадзян, забеспячэнне іх з боку дзяржавы, павага да гэтых правоў. Фактычная адсутнасць элементарнай абароненасці асобы зрабілі непазбежным масавы бальшавіцкі, ленінска-сталінскі тэрор у адносінах да людзей, якія траплялі ў лік падазроных, а затым беспадстаўна арыштоўваліся і знішчаліся як ворагі народа, што перашкаджаюць будаваць «светлую будучыню».

Паводле папярэдніх няпоўных дадзеных, якія ўжо згадваліся ў друку, у Беларусі было рэпрэсіравана каля 2 мільёнаў чалавек. У першую чаргу знішчалася нацыянальная інтэлігенцыя, прадстаўнікі найбольш працавітай часткі сялянства і разам з тым усе, каго палічылі палітычна ненадзейнымі органы НКУС, МДБ, КДБ і іншыя ўстановы, д'ябальскую дзейнасць якіх рупліва накіроўвала вярхушка КПСС-КПБ.

Беларуская партыйная наменклатура, калі стала вядома аб Курапатах, заахвочвала ды падтрымлівала выданні і публікацыі ў прэсе, дзе паказвалася і падкрэслівалася, быццам саджалі ў турму перш за ўсё і больш за ўсё камуністаў. Вядома, нямала відных бальшавікоў сталі ахвярамі ды заложнікамі таталітарнай сістэмы, у стварэнне якой яны ўносілі свой аса-



# Яго прыкметны след

**Навуму ПЕРКІНУ было б 80...**

Глебкі. Асабліва значны ўклад унёс у даследаванне агульнатэарэтычных праблем беларускага літаратуразнаўства. Яго кнігі «В семье братских литератур», «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў літаратуры», «Человек в советском романе», «Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры 20—30 гадоў», выдадзены пасля смерці зборнік артыкулаў «Абсягі думкі» з'яўляюцца прыкладам грунтоўнага, глыбокага і змястоўнага тэарэтычнага даследавання. Як вучоны Н. Перкін быў вядомы за межамі рэспублікі, неаднаразова ўдзельнічаў ва ўсесаюзных і міжнародных навуковых канферэнцыях.

Нямала ўвагі Н. Перкін аддаваў і праблемам сярэдняй, вышэйшай школы, выхавання маладой літаратурнай змены. Ён — адзін з сааўтараў вучэбнага дапаможніка для ВНУ — «Гісторыя беларускай літаратуры», а падручнік па беларускай літаратуры для вучняў 9—10 класаў, напісаны ім сумесна з Ю. Пшырковым, перавыдаваўся з 1959 па 1973 год. Н. Перкін быў навуковым кіраўніком многіх аспірантаў.

Усе, хто ведаў Навума Саламонавіча, працаваў разам, запомнілі яго як чалавека надзвычай чулага, добразычлівага. Нягледзячы на свой высокі навуковы аўтарытэт, пасаду, узрост, ён быў просты ў абыходжанні, заўсёды ветлівы, уважлівы да ўсіх, хто прыходзіў да яго са сваімі справамі, праблемамі. Ён заставаўся надзвычай сціплым чалавекам. Так, мала хто ведаў, што Н. Перкін піша не толькі навуковыя працы, але і мастацкія творы. Ды ён і не спяшаўся аддаваць іх у друк, і толькі пасля смерці вучонага надрукаваны яго аповесці «Хлопчык з мястэчка», аповесці «Я стаў партызанам», «На раздарожжы», апавяданні «Яны засталіся ў дзоце», «Трафейныя дакументы», напісаныя на аўтабіяграфічным матэрыяле.

**Міхась КЕНЬКА.**



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

**Як мы паведамлялі, на пачатку лютага ў Мінску адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій. Ад імя арганізатараў з'езда з уступным словам на ім выступіў Георгій Васільевіч ШТЫХАЎ. Прапануем яго выступленне ўвазе чытачоў «ЛіМа».**

# Нас яднае жаданне справядлівасці

Прадстаўнікі дэмакратычных сілаў Беларусі абвясцілі намер правесці рэферэндум аб лёсе цяперашняга Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, каб затым адбыліся новыя выбары. Ад іх будзе многае залежаць у нашым лёсе: ці мы будзем і далей хадзіць па ўстановах з працягнутай рукой, ці будуць прыняты належныя меры, каб мы атрымалі магчымасць жыць па-чалавечы.

У праекце статута ў раздзеле «Формы, метады працы асацыяцыі і яе мясцовых аб'яднанняў» прадугледжаны ўдзел ахвяр рэпрэсій у выбарчых кампаніях, падтрымка прагрэсіўных кандыдатаў, у тым ліку сяброў асацыяцыі. Мы павінны выкарыстаць шанц, які нам тут прадастаўляецца.

Неабходна асвятліць яшчэ адно пытанне, якое ніяк не можа прайсці міма нас. Вышэйшая рада Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі ў сваёй заяве «Аб ліквідацыі рэшткаў камуністычнага засілля» прапанавала правесці міжнародны трыбунал па фактах злачынстваў бальшавізму. Першым крокам да гэтага названа міжнародная канферэнцыя прадстаўнікоў пацярпелых народаў, правесці якую мяркуецца ў Менску. Прадстаўнікі палітычных партый і рухаў у Беларусі выказаліся ў асноўным станоўча аб гэтай ініцыятыве. Былі зроблены і заўвагі адносна таго, ці можна судзіць ідэалогію. Што ж, гаворка павінна ісці аб асуджэнні антычалавечай бальшавіцкай практыкі, заснаванай на ленінска-сталінскай ідэалогіі. Ахвяры рэпрэсій — гэта тыя, хто найбольш пацярпеў ад таталітарнай сістэмы, накіраванай на рэалізацыю бальшавіцкіх ідэй. Яны не могуць заставацца абыякавымі да заклікаў прыняць удзел у руху за правядзенне міжнароднага трыбунала.

У Беларусі мала выходзіць кніг, прысвечаных тэме ГУЛАГа, але тое, што маем, несумненна каштоўнае.

Сябрам асацыяцыі патрэбна прыняць актыўны ўдзел у стварэнні кніг «Памяць», якія цяпер рыхтуюцца ў шэрагу раёнаў. Трэба паклапаціцца, каб у іх былі надрукаваны спісы ахвяр рэпрэсій.

Нас, членаў ствараемай Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій, яднае праўда аб перажытым, памяць аб пакутніках Беларусі, бязвінна закатаваных у канцэнтрацыйных лагерах на Салаўках, Калыме, у Магадане, Варкуце, расстраляных у Курапатах, Цагельні, Высокім Стане і многіх іншых месцах. Галоўным намерам і абавязкам нашым з'яўляецца дзейнічаць у імя таго, каб тое, што мы перажылі, сведкамі чаго сталі, больш ніколі не паўтарылася, каб гэтага не пабачылі ні нашы дзеці, ні ўнукі і праўнукі...

бісты ўклад. Толькі адных чэкістаў, работнікаў ДПУ, АДПУ і роднасных ім структур у былым Саюзе рэпрэсіравана 20 тысяч чалавек. Мы па-хрысціянску спачуваем ім. Сярод рэпрэсіраваных бальшавікоў былі такія, што нарэшце зразумелі памылковы шлях, якім ішлі разам з партыяй. Ім наша асобнае спачуванне. Аднак былі і тыя, што засталіся бальшавікамі і пасля выхаду са зняволення і нават лічылі рэпрэсіі апраўданымі ды неабходнымі. Няхай ім вынесе свой вердыкт гісторыя — яна заўсёды справядлівая.

Аднаўленне праўды жыцця, праўды гісторыі займае адно з важных месц сярод вечных маральных каштоўнасцей чалавецтва. Мы маем маральнае права гаварыць пра трагедыю, злачынствы, якія былі ўчынены бальшавікамі ў адносінах да беларускай нацыі.

Дэвізам нашай асацыяцыі хай будуць справядлівасць, міласэрнасць, еднасць. Мы будзем патрабаваць справядлівасці ў адносінах да былых вязняў сумлення, да ўсіх тых, хто быў беспадстаўна, несправядліва рэпрэсіраваны. Далёка не ўсе яны рэабілітаваны. У многіх закатаваных родзічы памерлі, і няма каму паклапаціцца аб іх апраўданні. Будзем турбаваць Вярхоўны суд, абласныя і гарадскія суды, пракуратуру, МУС, КДБ Рэспублікі Беларусь паскорыць разгляд спраў усіх рэпрэсіраваных па палітычных матывах грамадзян.

Нам неабходна абмеркаваць пытанне пра ўнясенне ад імя з'езда ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь заканадаўчага прызнання масавых палітычных рэпрэсій 1917 — пачатку 80-х гадоў злачыннымі дзеяннямі і кваліфікаваць іх як генацыд супраць народа Беларусі. Дзеля ўзнаўлення гістарычнай праўды, удакладнення колькасці ахвяр неабходна дабівацца поўнага адкрыцця архіваў Камітэта дзяржаўнай бяспекі і Міністэрства ўнутраных спраў, дзе захоўваюцца матэрыялы і дакументы аб палітычных рэпрэсіях.

З тых, хто прайшоў праз ГУЛАГ, выжылі вельмі нямногія. Наш абавязак — парупіцца аб іх сацыяльнай абароне ва ўмовах нябачанага пазышэння цэн ды інфляцыі, патрабаваць далейшага ўдасканалення заканадаўства аб кампенсацыі страт, якія былі прычынены ахвярам рэпрэсій, устанаўлення сацыяльных ільгот, павышэння пенсій.

У лістападзе мінулага года з лістом да Вярхоўнага Савета нашай рэспублікі звярнуліся ад імя былых вязняў сумлення старшыня Брэсцкай абласной асацыяцыі ахвяр рэпрэсій спадар У. Мартыновіч і старшыня Гродзенскага абласнога таварыства спадар П. Жук. У лісце паведамлялася, што прынятыя ў канцы 1990 г. «льготы» для рэпрэсіраваных з прычыны іх мізэрнасці ўспрыняты як здзек з абяздоленых людзей. Такія «льготы» міласэрнасцю не назавеш. У лісце слушна і справядліва сказана: «Спасылка на адсутнасць сродкаў на матэрыяльную кампенсацыю нашай катаржнай працы, прычым бясплатна ўкладзенай у эканоміку краіны, непераканаўчая па той прычыне, што багацці, створаныя намі, пайшлі на прывілеі, вялікія аклады, дачы, узнагароды тым, хто ахоўваў нас, вёў злачыннае следства і чыніў генацыд... Чаму мы нашыя апошнія гады жыцця, такога цяжкага і трагічнага, павінны праводзіць у нястачы, жабрацтве, безвыходнасці і пакутах?»

Мы мелі час упэўніцца, што сучасны парламент рэспублікі не жадае ці не можа радыкальна палепшыць наша становішча. Ён складаецца ў большасці з былой камуністычнай наменклатуры.

ПАМЯЦІ ВЕРЫ РЭДЛІХ

# Старэйшая і маладзейшая



Аднойчы я здавала экзамены на стажыроўку пры школе-студыі МХАТ. Экзамены прымалі: сам Павел Маркаў, Віктар Карлавіч Манюкоў, Н. П. Аляксееў, Алег Яфрэмаў і іншыя мхатаўскія славутасці. Усё ішло як ішло, але вось яны спыталі, у каго я вучылася. І калі я назвала імя Веры Паўлаўны Рэдліх, яны чамусьці вельмі ўзрадаваліся, загаманілі, заўспаміналі, забыліся на мяне, а, успомніўшы, радасна паставілі выдатныя адзнакі і прынялі ў свае шэрагі. Асаблівую ролю ў маім поспеху адыграла магічнае імя Веры Паўлаўны Рэдліх...

Яе ведалі. Яе ведалі ўсюды, дзе быў тэатр, дзе любілі тэатр. Яе ведалі як вучаніцу Станіслаўскага, яе ведалі як стваральніка і шматгадовага кіраўніка тэатра «Чырвоны факел» — Сібірскага МХАТа.

Лёс прывёў яе і да нас у Мінск. І ўсе, каму пашчасціла вучыцца ў яе, працаваць, мець зносіны, удзячны жыццю за гэты падарунак.

Вера Паўлаўна пражыла вельмі прыгожае жыццё, якое было багата на сустрэчы і сяброўства з вялікімі людзьмі. Сярод іх — Максімільян Валошын. Дом паэта ў Кактэбелі зрабіўся гасцёўняю людзей мастацтва і навукі: А. Талстога, М. Прышвіна, В. Брусава, Андрэя Белага, Марыны Цвятаевай, А. Лентулава, Р. Фалька, К. Пятрова-Водкіна... Сярод іх — В. Рэдліх. Ці не тут адзін з вытокаў яе духоўнасці?

Вера Паўлаўна пражыла доўгае жыццё, але так ніколі і не зрабілася старым чалавекам. Яна валодала сакрэтам маладосці, якім ахвотна дзялілася з намі, вучнямі. Вера Паўлаўна казала: «Ніколі нікому не зайздросце! Зайздрасць нараджае злосць, а злосць і зайздрасць спапяляюць душу. Чалавек са змярцвелай душой хутка старэе». Яна не толькі казала так. Яна была надзіва добразычлівай да людзей. Яна верыла ў Дабрату. Яна была Рыцарам Дабра. І я, успамінаючы ўсе ўрокі па рэжысуры, прыходжу да высновы, што ўрокі дабра былі самымі галоўнымі ўрокамі ў прафесійных адносінах.

Мы былі студэнтамі, калі ў Рускім тэатры (ім кіравала тады В. Рэдліх) ішлі яе спектаклі. Мы хадзілі на іх шмат разоў таму, што ў іх былі адметныя «акцёрскія» моманты. «Беспасажніца» Астроўскага. Я памятаю, як пасля выканання раманса Ларысай (А. Клімава) зала сцішвалася на некалькі імгненняў, а потым літаральна выбухала апладысментамі. А хто не памятае «Антонія і Клеапатру» з Р. Янкоўскім і А. Клімавай? Калі на ўсё жыццё запамінаюцца акцёрскія работы, варта згадаць і рэжысёра...

Я памятаю пасяджэнні кафедры, калі Вера Паўлаўна здзіўляла мяне сучаснасцю мыслення. Яна была старэйшая за ўсіх і адначасова маладзейшая за ўсіх. Радасны і мяккі чалавек. Інтэлект, эрудыцыя і асабліва інтэлігентнасць — вось што ўзнікае па асацыяцыі ў свядомасці кожнага з нас пры адным толькі ўспаміне пра В. П. Рэдліх.

**Лідзія МАНАКОВА,**
**загадчык кафедры майстэрства акцёра Беларускай акадэміі мастацтваў.**

# Расстанне з сярэбраным векам

Ці ж мы не ведалі, што Вера Паўлаўна не бессмяротная? Ведалі, вядома, але насуперак усялякай логіцы спадзяваліся на цуд. Бо само яе існаванне — вострава святла, дабрыні, духоўнасці і мудрасці ў нашым ускаламучаным жыцці, — і было цуд.

Ці ж не дзіва? Вялікае, доўгае жыццё — амаль стагоддзе! — і ўсе дарослыя гады прыпалі на часы, калі, здаецца, усё было супраць таго, каб чалавек быў Асобай і смеў захаваць сваю суверэннасць, непадабенства, каб адважыўся не «зліцца з масай».

Вера Паўлаўна зберагла сваю незалежнасць, свой асабісты Сусвет. Як часта ўспамінала яна: «Зорнае неба над галавою і маральны закон унутры нас»!..

Які ж магутны быў падмурак, закладзены выхаваннем, напружанай работай над сабою, роздумам, духоўным пошукам, навучаннем у вялікіх тэатральных педагогаў, сустрэчамі з людзьмі, чыя слава сёння ўжо не ведае межаў, — усёю атмасфераю культурнай эпохі, нарачонай «сярэбраным векам» — каб на ўсё жыццё хапіла імпульсу! Каб усё доўгае жыццё кіпела вялізная праца душы, сумлення, розуму. І каб хапіла на ўсё — на спектаклі славутага рэжысёра Веры Рэдліх, на калег і вучняў Беларускага тэатральнага, на процьму людзей, якія прыязджалі, прыходзілі, званілі.. І на сяброў — яна адорвала гэтым званнем, застаючыся на недасягальнай вышыні: тыя, хто мелі шчасце і гонар часта сустракацца і размаўляць з ёю, разумелі, што навучаюцца ў «акадэміі Веры Паўлаўны», якой няма роўных, дзе галоўнымі «прадметамі» былі сумленне, праўда, прыгажосць, дабро.

Яна жыла ў сваім свеце — у ім не было месца хлусні, крывадушнасці, мітуслівасці, у ім бязгучна паўтараліся любімыя вершы. «Гамлет» — на памяць, і раптам, чытаючы, занчалася: «мілы Чэхаў...» ці «Гоголь, дарагі...» Цвятаева была — «Марына», Тарасава — «Ала»... Здавалася, і мы набліжаліся ўшчыльную да тых легендарных часоў, тых легендарных людзей...

А яшчэ яна была добрай і клапатлівай маці — не толькі для сваіх блізкіх...

Бывайце, любая
Вера Паўлаўна.
Бывай, сярэбраны век...

**Лілія БРАНДАБОЎСКАЯ,**
**Таццяна АРЛОВА,**
**Уладзімір БОЙКА.**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі і Беларуская акадэмія мастацтваў глыбока смуткуюць з выпадку смерці народнай артысткі Расійскай Федэрацыі, прафесара Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, рэжысёра Веры Паўлаўны РЭДЛІХ і выказваюць спачуванне родным і блізкім памерлай.**

# Апошняя надзея?

## Лёс народнага мастацтва на Беларусі

Год назад неяк ціха і непрыкметна адбылася доўгачаканая падзея — стварылася нарэшце Таварыства майстроў народнай творчасці Беларусі. Такая непрыкметнасць увогуле зразумелая: ці мала сёння ўзнікае розных асацыяцый, таварыстваў, саюзаў? Між тым аматары і прыхільнікі народнага мастацтва і ўвогуле традыцыйнай культуры добра ведаюць, што размовы наконт стварэння творчага аб'яднання народных майстроў вядуцца ўжо не адзін дзесятак гадоў. Але ўсё то сродкаў не знаходзілася, то належнага энтузіязму, відаць, бракавала. Усяго гэтага і сёння не пабольшала, але ўдзельнікі рэспубліканскай канферэнцыі па народнай творчасці, якая адбылася ў лютым 1991 года, былі аднадушнымі: далей цягнуць нельга — або сёння, або ніколі.

Становішча народнага мастацтва ў Беларусі ўжо даўно трывожыла ўсіх, хто быў неабыякавы да нашай культуры. У першы пасляваенны час, калі не хапала прамысловай прадукцыі, народнае мастацтва крыху ажывілася, але ўжо ў наступныя дзесяцігоддзі пачало імкліва занепадаць. Прычыны гэтага як суб'ектыўныя, так і, дзеля справядлівасці, аб'ектыўныя. Моцна падарвала асновы народнай культуры дзяржаўная палітыка, калі бульдозерамі руйнавалі ганчарныя горны, а майстроў абкладвалі вялікімі падаткамі. З другога боку, насычэнне рынку таннай прамысловай прадукцыяй



Майстрыху па выпечцы арыгінальных фігурных караваяў Валянціну Уласік са Стоўбцаў сёння ведаюць далёка за межамі Беларусі.



На рынку ў Міры (Карэліцкі раён). Але гэтаму здымку — пятнаццаць год. Сёння такую карціну памятае далёка не кожны.

вымусіла майстроў паступова кідаць традыцыйны занятак. Моцна паўплывала і адпаведная прапаганда, калі ў грамадскай свядомасці народнае мастацтва звязвалася з «цёмным, жабрацкім мінулым». Дайшло да таго, што ўжо і самі майстры саромеліся традыцыйнага рамяства, ледзь не цішком ад суседзяў займаючыся любімай справай дзеля задавальнення не столькі матэрыяльных, колькі духоўных патрэб.

Сёння рэшткі народнага мастацтва і апошнія народныя майстры, як правіла, сталага ўзросту, увогуле кінуты на волю лёсу. У стыхіі бязладнасці, неразбярыхі, неўладкаванасці дзяржаве, і раней не надта шчодрай, стала не да культуры. Значыць, трэба гуртавацца энтузіястам і агульнымі намаганнямі ратаваць тое, што яшчэ засталося. Прычым, трэба рабіць гэта прафесійна, без прафанацыі. Так, напрыклад, нядаўна ў рэспубліцы з'явілася, ні многа ні мала, —«Асацыяцыя народных мастацкіх промыслаў». Але спецыялісты ведаюць, што гэтай гучнай прэтэнцыёзнай назвай у духу часу аздобіла сябе славутая мастацкая прамысловасць, масавая сувенірная прадукцыя якой практычна не мае адносін да народнага мастацтва, затое стварае ў грамадскасці ілюзію яго росквіту ў наш час.

Не сказаць, каб народнае мастацтва сёння нікога не цікавіла. Цікавіць, ды яшчэ як. На захадзе, дзе яно амаль пахавана навукова-тэхнічным прагрэсам, даўно звярнулі сваю ўвагу на Беларусь, дзе народнае мастацтва яшчэ жыве. Гэтай сітуацыяй з поспехам карыстаюцца розныя дзялкі, кааператывы, арганізацыі, часта далёкія ад культуры, але чуйныя да «жывых» грошай. Скупляючы за бясцэнак работы народных майстроў, яны за добрыя барышы перапрадаюць іх на захадзе, куды пратапталі шматлікія сцежкі.

Такім чынам, сама сабой вынікае задача нашага таварыства, якая ў двух словах можа быць акрэслена так: не столькі браць у народных майстроў, колькі даваць ім.

Напрыклад, вялікая праблема для іх — сыравіна і матэрыялы: гліна, лён, салома, дрэва, фарбы, а таксама інструменты і абсталяванне. Значыць, трэба шукаць магчымасці здабываць усё гэта і забяспечваць майстроў. Няма дзе ім працаваць — неабходна вырашаць пытанне з майстэрнямі. Рвецца шматвяковая нітачка пераемнасці майстэрства — варта наладжваць вучнёўства. Найлепш, калі яно будзе, як і раней, на ўзроўні сям'і, з перадачай майстэрства ад бацькоў да дзяцей. Гэта найбольш аптымальны і натуральны шлях: дзеці бачаць, як працуюць іх бацькі, як шануецца іх майстэрства, і натуральным шляхам пераймаюць сакрэты рамяства. Але не лішнімі будуць і розныя студыі, майстэрні, школы.

Гэта бліжэйшыя, першачарговыя задачы. Кінем погляд далей. Мінчане, пэўна, ведаюць комплекс старасвецкіх будынкаў былой бісквітнай фабрыкі на беразе Свіслачы, каля Палаца спорту. Іх ледзь было не пусцілі пад бульдозер. Добра, што наша Міністэрства культуры адваявала. Ужо ёсць вельмі цікавы праект рэканструкцыі комплексу і прыстасавання яго пад «Горад майстроў» — з выставачнымі заламі, майстэрнямі, кіёскамі, метадычнымі службамі таварыства. Падобныя асяродкі могуць быць створаны ў кожным абласным цэнтры, а таксама ў месцах традыцыйных промыслаў — у тым жа Івянцы, напрыклад. Ці стварыць майстэрню або нават камбінат па выкананню заказаў на сцэнічныя ці святочныя касцюмы па ўзорах традыцыйнага адзення.

Ды гэта ўсё — у няблізкай будучыні, а пакуль... А пакуль таварыства не можа ўзяць хоць бы двух-трох спецыялістаў у



Кацярына Русаковіч з Рухава (Старадарожскі раён) зрэдку займаецца калісьці пашыраным мастацтвам стварэння насценных дываноў, выклееных саламянымі ўзорамі. Здаецца, яна адна на ўсю Беларусь...

штат, якія б маглі ўжо разгарнуць нейкую работу. Няма сродкаў. Усё пакуль робіцца на энтузіязме праўлення. Якая ўжо тут дапамога народным майстрам? Няма нават хоць маленькага памяшкання пад «штаб». Дзякуй нашаму Міністэрству культуры і Беларускаму фонду культуры, якія, выступіўшы ініцыятарамі ў стварэнні таварыства, не кінулі яго на волю лёсу, час ад часу тым-сім дапамагаюць. Хоць і мала надзеі (сёння ўсе ходзяць з працягнутай рукою), ды немагчыма ўтрымацца, каб не назваць наш рахунак: 700497, Мінскбізнесбанк МФО 764. А раптам усё ж знойдзецца багаты мецэнат, які не пашкадуе грошай на народную культуру?

Вядома, на добраахвотных ахвяраваннях (нават калі яны і будуць) належнай дзейнасці таварыства не наладзіш. Трэба будзе круціцца самім. Але, відаць, няма патрэбы тлумачыць, што народнае мастацтва само па сабе прыбытку не дасць: больш бензіну спаліш на паездку да народнага майстра, чым атрымаеш прыбытку ад продажу яго збанкоў ці кошыкаў. Таму таварыства не збіраецца абмяжоўвацца толькі народнымі майстрамі. У нашых радах можа быць і ювелір, і майстрыха па трыкатажы, і ўвогуле любы ўмелец, які прамых адносін да народнага мастацтва не мае, але творчасць якога па-свойму цікавая і можа знайсці свайго спажыўца, даць такі-сякі прыбытак таварыству на падтрымку народнага мастацтва.

Ды вернемся да плануемай гаспадарчай дзейнасці, якая толькі і зможа даць таварыству фінансавую аснову для яго плённай работы. У толькі што апублікаваным пераліку арганізацый і аб'яднанняў, якім створаны спрыяльны рэжым падаткаабкладання на 1992 год, таварыства няма, хоць былі неаднаразовыя звароты ў Вярхоўны Савет. Таварыствы аховы прыроды, помнікаў гісторыі і культуры трапілі (і правільна, вядома), а таварыства аховы традыцыйнай культуры — не. Калі адносіны да яго не зменяцца, нічога не застанецца, як самараспусціцца. Нават як след не пачаўшы работы...

І ўсё ж тое-сёе ўжо робіцца. Пачаўся прыём у таварыства. У бліжэйшы час арганізуюцца абласныя аддзяленні ў Віцебску і Гародні. Ёсць прынцыповая дамоўленасць з дырэктарам Беларускага інстытута праблем культуры У. Скараходавым пра арганізацыю выстаўкі-продажу работ на «Белай дачы», а з дырэктарам Рэспубліканскай мастацкай галерэі Ф. Ястрабам — наконт стварэння салона-магазіна. Хоць няма гарантыі, што з такой дзяржаўнай палітыкай у адносінах да культуры не вылецім у трубу.

Але нешта ўсё ж трэба рабіць. Можа, гэта апошні шанц выратаваць рэшткі народнага мастацтва. Заўтра будзе позна...

**Яўген САХУТА,**
**старшыня Таварыства майстроў народнай творчасці Беларусі.**

Фота аўтара.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## ЖЫВУЦЬ ПЕСНІ — ЖЫВЕ Й БЕЛАРУСЬ!

**У Гродне, у зале былога Дома палітасветы, перададзенага цяпер у распараджэнне абласнога ўпраўлення культуры, адбыўся вечар памяці Рыгора Раманавіча Шырмы. З Гродзеншчынай славутага дзеяча беларускага мастацтва звязвала многае. І яго родная вёска знаходзілася на тэрыторыі колішняй Гродзенскай губерні, і сам ён абышоў Прынямонне, збіраючы песні, і Беларускі ансамбль песні і танца, які ён узначаліў, таксама першыя крокі рабіў непадалёк, у Беластоку, а пасля вайны — у самім Гродне. Пра гэта і пра шмат што яшчэ можна было даведацца з экспазіцыі фотадакументаў, якая разам з выстаўкай гродзенскіх мастакоў і народных умельцаў была разгорнута ў фае.**

**Той вечар стаўся не простай данінай Шырмаваму юбілею. Гэта быў сапраўдны вечар-успамін. Выступаў, напрыклад, вядомы самадзейны кампазітар, заслужаны дзеяч культуры Беларусі А. Шыдлоўскі, які ўпершыню сустрэў Шырму яшчэ ў 27-м годзе ў Беларускай гімназіі ў Вільні, куды прыехаў вучыцца. З вялікай увагай слухалі прысутныя Н. Пінчук, адну з першых салістак ансамбля Шырмы, а таксама ўдзельніцу танцавальнай групы заслужанага дзеяча культуры рэспублікі Л. Ляшэнку. Партрэт Майстра дапоўнілі згадкі заслужанага дзеяча культуры А. Чопчыца. Усе аднадушна сыходзіліся на думцы аб найвялікшым значэнні творчай дзейнасці Р. Шырмы. «Лёс Шырмы — гэта лёс беларускага народа», — да гэтай думкі А. Шыдлоўскага, здаецца, не патрэбны ніякія каментарыі.**

**Апроч успамінаў, быў і невялікі канцэрт. Фальклорны ансамбль «Дударыкі» гарадскога Дома піянераў (кіраўнік Я. Петрашэвіч) прадэманстраваў, што зерне, пасеянае Майстрам, трапіла на добрую глебу. Некалькі апрацовак беларускіх песень выканаў нядаўна створаны Гродзенскі гарадскі камерны хор (кіраўнік Л. Іконнікава). Камерны дуэт В. Гільдзюк (скрыпка) ды А. Лябецкая (фартэпіяна) сыгралі п'есу «Успамін пра Беларусь» А. Грачанінава, вядомага рускага кампазітара, які напісаў гэты твор на тэмы беларускіх песень, дасланых ягоным сябрам — Р. Шырмам. Дарэчы, аўтограф гэтага твора знойдзены ў архівах І. Арсеневай, колішняй студэнткай БДК, а цяпер выкладчыцай Гродзенскага музвучылішча, па ініцыятыве якой і адбылася гэта музычная прэм'ера.**

**Завяршыў вечар вядомы ў рэспубліцы ансамбль «Нёман», яшчэ раз пацвердзіўшы, што справа захавання і развіцця роднай культуры, святая справа нацыянальнага адраджэння, якой аддаў сваё жыццё Р. Шырма, жыве. Жывуць беларускія песні, а разам з імі жыве й Беларусь!**

**А. САЛАДУХІН.**

г. Гродна.





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах. Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.







Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12